# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №№ 1—2 (263—264) 7 — 20 студзеня 1997 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ


*Вітаем Вас, старыя і новыя прыхільнікі нашага штотыднёвіка ў гэтым годзе! І прапануем паглядзець, што сфакусіравана*

## Ў "АБ'ЕКТЫВЕ" НУМАРА:

















АФІЦЫЙНА

# УВАГА — ТВОРЧАЙ АСОБЕ

## ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1996 ГОДА

***Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падпісаны Указ "Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь за 1996 год". Лаўрэатамі сталі:***

### *У галіне літаратуры:*

***прэміі імя Якуба Коласа***

**Далідовіч Генрых Вацлававіч**, празаік, — за раман "Заходнікі";

***за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва***

**Анісковіч Уладзімір Ігнатавіч, Карызна Уладзімір Іванавіч, Лукша Валянцін Антонавіч** — за Бібліятэку дзіцячай літаратуры народаў СССР у 15 тамах (16 кнігах).

### *У галіне мастацтва і архітэктуры:*

***за музычныя творы буйных і малых формаў, а таксама за канцэртна-выканальніцкую дзейнасць***

**Дамарацкі Уладзімір Аляксандравіч**, кампазітар, — за Канцэрт нумар 2 для трубы і вялікага сімфанічнага аркестра;

**Фінберг Міхаіл Якаўлевіч**, мастацкі кіраўнік і дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь, — за канцэртныя праграмы 1992 — 1995 гадоў;

***за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё***

**Елізар'еў Валянцін Мікалаевіч**, харэограф-пастаноўшчык і лібрэтыст, **Мдзівані Андрэй Юр'евіч**, кампазітар і аўтар музыкі, **Праватораў Генадзь Панцеляймонавіч**, музычны кіраўнік, **Окунеў Вячаслаў Аляксандравіч**, пастаноўшчык (сцэнаграфія), **Душкевіч Інеса Анатольеўна**, выканаўца ролі Рагнеды, **Фадзеева Кацярына Юр'еўна**, выканаўца ролі Рагнеды, **Захараў Веніямін Міхайлавіч**, выканаўца ролі князя Уладзіміра, **Далгіх Уладзімір Вітальевіч**, выканаўца ролі князя Яраполка — за балет "Страсці" ("Рагнеда");

**Гаявая Валянціна Іванаўна**, балетмайстар, — за пастаноўкі "Па старонках "Полацкага сшытка", "Бывай, XX стагоддзе!";

**Тураў Віктар Цімафеевіч**, кінарэжысёр (пасмяротна), — за шматгадовы ўклад у нацыянальнае кінамастацтва;

**Марчук Георгій Васільевіч**, аўтар сцэнарыя, **Зайцаў Дзмітрый Яўгеневіч**, рэжысёр, **Спарышкоў Уладзімір Пятровіч**, аператар-пастаноўшчык, **Цітоў Вячаслаў Аляксандравіч**, выканаўца ролі Алеся Долі, — за мастацкі фільм "Кветкі правінцыі";

***за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну***

**Савіцкі Міхаіл Андрэевіч**, мастак — за вялікі ўклад у выяўленчае мастацтва Беларусі і работы апошніх гадоў;

**Бараноўскі Анатоль Васільевіч**, мастак-жывапісец, — за цыкл жывапісных работ 1993 — 1995 гадоў "Далягляды Бацькаўшчыны";

**Кішчанка Аляксандр Міхайлавіч**, мастак, — за манументальны габелен "Габелен стагоддзя".

### *У галіне гуманітарных і сацыяльных навук*

**Высоцкая Надзея Фёдараўна**, доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры крыніцазнаўства і музеязнаўства гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, загадчык аддзела старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, — за цыкл работ "Мастацтва Беларусі XII — XVIII стст.".

**Дробаў Леанід Ніканоравіч**, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык аддзела выяўленчага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Акадэміі навук Беларусі. **Сахута Яўген Міхайлавіч**, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Жук Валерый Іванавіч**, кандыдат мастацтвазнаўства, вучоны сакратар таго ж інстытута, **Карнач Пётр Аляксеевіч**, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута (пасмяротна), **Масленікаў Павел Васільевіч**, кандыдат мастацтвазнаўства, былы дацэнт кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў (пасмяротна), — за цыкл работ "Гісторыя беларускага мастацтва".

## ДЗЕЛЯ ПЛЁННАЙ ПРАЦЫ

Дзяржава паклапацілася пра тое, каб аўтар літаратурнага твора меў магчымасць дамовіцца з выдаўцом пра даволі рэальныя рэчы: аплату ягонай працы.

На пачатку лістапада Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў Пастанову "Аб мінімальных стаўках аўтарскага ўзнагароджання за выданне твораў навукі, літаратуры і мастацтва". Менавіта гэтым дакументам вызначаецца форма ўзаемаадносін паміж творцамі, аўтарамі, і выдаўцамі, якія ў гэтым выпадку выступаюць у якасці ацэншчыкаў іхняй працы.

Выдаўцы імкнуцца забяспечыць свае інтарэсы і атрымаць прыбытак. Ва ўмовах, калі ўся сфера друку рыхтуецца стаць фінансава самастойнай, такую пазіцыю зразумець няцяжка. Павялічаны працэнт уласных даходаў — гарант іх далейшага выжывання і развіцця матэрыяльнай базы.

Але каб інтарэсы выдаўца не дамініравалі, устанаўліваецца мяжа: мінімальная стаўка аўтарскага ўзнагароджання. Яе памер вызначаны з улікам сум ганарараў, якія выплачваліся дагэтуль за розныя літаратурныя творы (мастацкія, навукова-папулярныя, дзіцячыя), з улікам інфляцыі і іншых выдаткаў, непазбежных у выдавецкай справе. Дык вось, мінімальныя стаўкі павялічаны прыкладна ў два разы.

Максімальны памер ганарару ўстаноўлены толькі для літаратуры сацыяльна-значнай, выданне якой датуецца з дзяржбюджэту. Але і тут аўтар можа быць зацікаўлены: як правіла, такія кнігі і дапаможнікі маюць вялікі тыраж.

Здаецца, знойдзены, урэшце, неабходны баланс, і матэрыяльныя інтарэсы не стануць супярэчыць клопатам пра выхаванне нацыі, яе духоўнае багацце. Абодва бакі пры падпісанні дамовы будуць зыходзіць з пазіцый мэтазгоднасці. Калі ж адзін з бакоў нешта не задаволіць, ён стане шукаць іншыя варыянты.

Віктар Іванавіч Жарыкаў, начальнік упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку, сцвярджае, што прынята такой Пастановы — першы крок вялікай маштабнай работы. Як вядома, улетку на Беларусі быў прыняты Закон "Аб аўтарскіх і сумежных правах", дзейнічае Камітэт па аўтарскіх і сумежных правах. Беларусь наяве пацвярджае прыярытэт міжнароднага права, дзе падобныя ўзаемаадносіны аўтара і выдаўца ўсталяваны даўно. І без такіх крокаў не абысціся кожнаму суб'екту сусветнай інфармацыйнай прасторы. Дзяржкамдрук, як структура, якая вызначае напрамкі развіцця ўсёй сферы, безумоўна, паважае міжнародную практыку і кіруецца яе прынцыпамі.

Дарэчы, гэта адна з нямногіх Пастаноў, якія прымаліся, так бы мовіць, "з першага чытання". Дзякуючы зладжанай рабоце спецыялістаў камітэта, юрыстаў, выдаўцоў, якія былі далучаны да падрыхтоўкі праекта дакумента, Пастанова "Аб мінімальных стаўках аўтарскага ўзнагароджання за выданне твораў навукі, літаратуры і мастацтва" прынята ў сціслыя тэрміны. Яе палажэнні актуальныя, і застаецца спадзявацца, што, сапраўды, і для творцаў, і для выдаўцоў адкрыюцца новыя магчымасці плённага супрацоўніцтва.

**Ірына ТУЛУПАВА**

## ПРЫЯРЫТЭТЫ АКРЭСЛЕНЫ

Напрыканцы снежня Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь правяло Рэспубліканскі семінар намеснікаў упраўленняў культуры аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, дырэктараў навукова-метадычных цэнтраў, загадчыкаў аддзелаў культуры райгарвыканкамаў. Галоўнай тэмай семінара было абмеркаванне прыярытэтных напрамкаў дзяржаўнай культурнай палітыкі на 1997 — 2000 гады, механізмаў распрацоўкі і рэалізацыі рэгіянальных мэтавых праграм.

Фактычна гаворка ішла пра тое, што сёння кардынальна мяняецца сістэма дзяржаўнай культурнай палітыкі. Ва ўмовах пастаяннага скарачэння сродкаў, якія ідуць на падтрымку культуры, ствараецца сістэма, якая б дазволіла выжыць адпаведным установам і праектам, што займаюцца канкрэтнымі справамі і прапануюць іх. У межах Рэспубліканскай праграмы па прыярытэтных накірунках праводзіцца конкурс, у якім могуць удзельнічаць асобныя людзі, арганізацыі (музеі, дамы рамёстваў і г.д.). Праекты, якія прапануецца рэалізаваць сёлета, трэба дасылаць у міністэрства да 2 лютага 1997 года, на наступныя гады — да 1 жніўня. Экспертныя групы калегіі міністэрства будуць вызначаць фінансаванне тых ці іншых прапаноў ці рэкамендаваць іх падтрымку раённым, гарадскім, абласным уладам.

Гэтыя меры павінны захаваць асноўныя творчыя кадры і сетку культурных установ. Адзначалася, што ў першую чаргу варта падтрымліваць не разавыя акцыі і мерапрыемствы, а праграмы, якія працуюць на стварэнне базы фальклорнага, этнаграфічнага фонду.

Сёння ў людзей, якія займаюцца дзейнасцю, што ўваходзіць у сферу ўплыву міністэрства, павінна адбыцца псіхалагічная ломка: не чакаць, пакуль ім нехта дасць сродкі, а энергічна даказваць неабходнасць фінансавання.

У праграму семінара ўваходзіла абмеркаванне пытанняў, звязаных з планаваннем і каардынацыяй дзейнасці міністэрства, органаў і ўстаноў культуры краіны, падтрымкай культурных ініцыятыў нацыянальных культурных аб'яднанняў. Ішла гаворка пра праблемы і перспектывы арганізацыі фестывальнага руху ў Беларусі, каардынацыю фестываляў, аглядаў, святаў, выстаў у галіне народнага мастацтва ў 1997 годзе. У праграму былі ўключаны пытанні, звязаныя з дзейнасцю Беларускага інстытута праблем культуры з адпаведнымі ўпраўленнямі, установамі і метадычнымі цэнтрамі.

**Алесь ТУРОВІЧ**

## ВІНШУЕМ СТЫПЕНДЫЯТАЎ!

***У адпаведнасці з Пастановай СМ РБ ад 1.06. 94 года № 412 загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з 1 студзеня 1997 года прызначаны дзяржаўныя стыпендыі вялікай групе дзеячаў культуры і мастацтва, прадстаўнікоў творчай моладзі.***

***СПІС дзеячаў культуры і мастацтва ва ўзросце да 40 гадоў, якім прысуджаны дзяржаўныя стыпендыі на 1997 год***

Федарэнка Андрэй Міхайлавіч — пісьменнік.

Багданава Галіна Барысаўна — пісьменніца.

Канапелька Ала Іванаўна — пісьменніца.

Шчучэнка Ігар Рыгоравіч — журналіст.

Авечкін Аляксей Валер'евіч — артыст балета Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь.

Дзятко Юлія Барысаўна — артыстка балета Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь.

Кузняцоў Канстанцін Анатольевіч — артыст балета Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь.

Прыходзька Васіль Уладзіміравіч — артыст балета Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі".

Германовіч Вадзім Мікалаевіч — артыст балета Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь.

Станкевіч Сяргей Леанідавіч — артыст балета Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь.

Крэмко Аляксандр Яўгенавіч — артыст Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча.

Жугжда Алег Алегавіч — мастацкі кіраўнік Магілёўскага абласнога тэатра лялек.

Сігоў Ігар Аляксеевіч — артыст Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна".

Краснабаеў Міхаіл Дзмітрыевіч — акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа.

Пінігін Мікалай Мікалаевіч — рэжысёр.

Белахвосцік Зоя Валянцінаўна — артыстка Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы.

Агафонава Наталля Анатольеўна — выкладчык кафедры беларускай і сусветнай мастацкай культуры Беларускага універсітэта культуры.

Адамовіч Галіна Валянцінаўна — кінарэжысёр.

Волах Ірына Анатольеўна — кінарэжысёр.

Грыцкова Рэната Віктараўна — кінарэжысёр.

Федасеенка Наталля Віктараўна — дызайнер.

Міклашэвіч Маргарыта Генадзьеўна — архітэктар.

Каласкоў Уладзімір Пятровіч — майстар па саломапляценні.

Якаўлева Ірына Уладзіміраўна — мастацкі кіраўнік фальклорнага калектыву в.Раманавічы Магілёўскага р-на.

Ламейка Уладзімір Адамавіч — скульптар.

***СПІС дзеячаў культуры і мастацтва ва ўзросце пасля 40 гадоў, якім прысуджаны дзяржаўныя стыпендыі на 1997 год***

Лужанін Максім (Каратай Аляксандр Амвросьевіч) — пісьменнік.

Пруднікаў Павел Іванавіч — пісьменнік.

Аколава Валянціна Валянцінаўна — паэтэса.

Наўроцкі Алесь Піліпавіч — пісьменнік.

Малагуша Васіль Андрэевіч — журналіст.

Сандамірскі Наум Бенцыёнавіч — журналіст.

Лях Леў Палікарпавіч — дырыжор сімфанічнага аркестра творчага аб'яднання "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь".

Вагнер Генрых Матусавіч — кампазітар.

Алейнікава Эльвіра Анатольеўна — музыказнаўца.

Буднік Уладзімір Іванавіч — кампазітар.

Кур'ян Уладзімір Мітрафанавіч — кампазітар.

Ткач Уладзімір Міхайлавіч — артыст Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча.

Паўлішын Юрый Васільевіч — харэограф-пастаноўшчык Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.Цітовіча.

Браім Васіль Яфімавіч — артыст Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.Цітовіча.

Жук Анатоль Аляксандравіч — артыст тэатра юнага гледача.

Алісейчык Галіна Уладзіміраўна — тэатразнаўца.

Мархель Тацццяна Рыгораўна — актрыса Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна".

Сідараў Аляксандр Сяргеевіч — галоўны мастак Беларускага тэатра "Лялька".

Пуцейка Людміла Леанідаўна — мастак.

Кіршчына Тамара Іосіфаўна — мастак.

Пятруль Людміла Іванаўна — мастак.

Сабалеўскі Аляксандр Аляксандравіч — архітэктар.

Котаў Мікалай Конанавіч — кіраўнік фальклорнага калектыву "Вячоркі".

Саўрыцкі Сямён Рыгоравіч — майстар-ганчар.

Чырвонцава Вікторыя Мікітаўна — майстар-саломапляцельшчыца.

ЕСЦЬ ПЫТАННЕ!

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# МАРАЛЬНЫ ЗАКОН УНУТРЫ НАС, АБО ДА ЧАГО ВЯДЗЕ КУЛЬТУРНАЯ ДЭГРАДАЦЫЯ?

*"Час — ды не падлягае абмеркаванню. Падлягаеш абмеркаванню ты, — чалавек, што размесціўся ў ім!"*
***Восіп Мандэльштам***

Да гэтых думак мяне прывяла нашая рэчаіснасць. Калі я гляджу на культуру сёння, дык у галаву прыходзіць парадокс Васіля Розанава, які параўнаў нашу культуру з яйкам жар-птушкі, з якога зрабілі яешню, не даўшы з'явіцца на свет рэдкай цудоўнай птушцы. На жаль, такі шлях характэрны для ўсёй нашай гісторыі новага часу. А ў расійскай культуры ж быў унікальны лёс. Яе выбітныя дасягненні XIX — пачатку XX стагоддзя сталі духоўна-маральным падмуркам для чалавека, пунктам апоры для ягонага ўваходу ў свет духоўных каштоўнасцей і асэнсавання інтэлектуальнай атмасферы грамадства. У гэты перыяд Расія была адным з цэнтраў сусветнай культуры. Прэстыж класічнай рускай культуры быў вельмі значным. Для Захаду наша класіка зіхацела пуцяводнай паходняй. Неабходна ўлічыць таксама, што прагрэсіўная руская культура развівалася прагрэсіўнымі пластамі грамадства, яна не належала і не магла належаць шырокім народным масам.

Іронія гісторыі ў тым, што рэвалюцыя, пачаўшыся з імкнення ўзбагаціць народ духоўнымі каштоўнасцямі, зрабілася для грамадства культурнай дэградацыяй, магутнай хваляй спрошчвання культуры. Спецыфіка любой нашай рэвалюцыі ў тым, што да ўлады прыходзяць найменш культурныя часткі грамадства. Вельмі небяспечна, калі падмурак айчыннай культуры, нягледзячы на ягоныя каштоўнасці, спрабуюць разбурыць. Кожнае грамадства можна ахарактарызаваць сказам: "Скажы мне, якую культуру ты даеш людзям, і я скажу, хто ты". Што ж сказаць з гэтай нагоды пра наша грамадства?

Мабыць, толькі SOS! — "ратуйце нашыя душы!"

Культура каштуе дорага дзяржаве, але некультурнасць значна даражэй. І гэта мы бачым ва ўсіх сферах дзейнасці.

Паставім сабе пытанне: ці здольны ў наш час існаваць без культуры палітыка, эканоміка, права, наогул, любая сфера грамадскага жыцця? Грамадства вылучае выбітных, таленавітых у эканоміцы, палітыцы, навуцы, мастацтве людзей, але ўсё ж часцей сустракаюцца прыстасаванцы, кар'ерысты, якія прагматычна ставяцца да культуры.

Ці магчыма ў нашай краіне пабудаваць грамадства, новае жыццё, здзейсніць рэформы без культуры? Адказ адназначны: кожная справа ў кожнай сферы жыццядзейнасці прыводзіць да нуля, да катастрафічных наступстваў пры адсутнасці культуры. Прыклады бескультур'я не проста шараговых грамадзян, але нашага кіраўніцтва, тых, хто адказвае за лёсы нашай Айчыны, — перад вачыма, яны літаральна крычаць. Ці можа культурны чалавек пачынаць важную справу, ад якой залежыць не толькі ягоны лёс, але і іншых людзей, без плана, без папярэдніх эксперыментаў, без навуковай прапрацоўкі — "метадам тыку"? Да чаго вядзе культурная дэградацыя, прадэманстравалі многія палітычныя дзеячы нашай краіны — гэта ва ўсіх навідавоку. Нецярпімасць, сваркі, няўменне і нежаданне зразумець аб'ектыўныя законы грамадскага прагрэсу... Прычыны гэтага бескультур'я — ваяўнічая самазадаволенасць і злачынная безадказнасць. Яны мелі магчымасць "коснуться до всего слегка с учёным видом знатока". Кожны чалавек варты таго, чаго вартыя ягоныя маральныя каштоўнасці і ўчынкі.

Ці варта здзіўляцца езуіцкаму ўменню дзеля эгаістычнай карысці абысці любы закон, каб залезці ў кішэню простага чалавека і неверагодна разбагацець, ці варта здзіўляцца выбуху злачыннасці ў самых ненатуральных праявах, станаўленню ў найкароткія тэрміны айчыннай мафіі, якую лічаць горшай за ўсялякую іншую? Усё пастаўлена на службу бачнасці, а не рэальнаму выніку, дзе вонкавы выгляд замяняе ўнутраную культуру. Мы падмянілі нямодныя гонар, сціпласць, прыстойнасць, сумленнасць, чалавечнасць эканамічнымі катэгорыямі прадпрымальнасці, гаспадарлівасці, дзелавой актыўнасці і г.д. І ў выніку мы маем тое, што маем. Усе гэтыя рысы не аб'ядноўваюць, а раз'ядноўваюць людзей. Мы забыліся на тое, што паводле гэтых агульначалавечых нормаў маралі жывуць усе цывілізаваныя народы. Яны — прыкмета культуры, яны, як і заўсёды, прыярытэты ў жыцці, і ігнараваць гэты культурны прыярытэт — азначае зацягваць пятлю на сваёй шыі. А тое, што адбываецца з нашай краінай, з чалавецтвам пры адмаўленні законаў маралі, — вельмі яскрава бачна, нібыта ў казцы "Каралеўства крывых люстраў", дзе панавала мана, дзе Розу называлі Крапівой, а рабаўніка і нягодніка — прыстойным чалавекам. На вялікі жаль, "краіна крывых люстраў" існуе ў нас не ў казцы, а наяве, у жыцці. Крывадушша працяла ўсе сацыяльныя пласты і заглушыла ісціну. Многія мяркуюць, што маральная культура набываецца толькі па падручніках гуманітарных ведаў. Не, шаноўныя мае бюракраты, яна крышталізуецца ў выніку найсур'ёзных душэўных высілкаў, драматычнага і цяжкага спазнання супярэчлівага свету. Выдатны кінематаграфіст А.Даўжэнка адзначаў: двое глядзяць уніз, адзін бачыць лужу, другі — адбітыя ў ёй зоркі. Аднак нікому не дадзена пайсці ад гісторыі Чалавецтва, ад выпрацаваных ім пакутамі і крывёю вечных ісцін. Хай сёння мы з настальгіяй узгадваем паэтычны фінал "Крытыкі практычнага розуму", дзе І.Кант пісаў: "У свеце ёсць дзве рэчы, якія здзіўляюць тым больш, чым больш пра іх разважаеш. Гэта нябёсы над намі, поўныя зорак, і маральны закон унутры нас". Гэтыя вечныя маральныя каштоўнасці, закладзеныя ў чалавеку, дапамогуць яму выстаяць і адмовіць падманлівае і шкоднае, захаваць у душах сапраўднае, чалавечае. Як бы ні знішчалі чалавечую душу, а парасткі маральнасці ў чалавеку засталіся. Вера ў гэта патрэбна нам сёння як ніколі раней.




Выйсці з гэтага стану, далучыцца да цывілізаванага свету магчыма толькі пры аднаўленні культурных прыярытэтаў. Без культуры немагчымы ўздым народа, нацыі, а ён дасягаецца не столькі выхаваннем, колькі жаданнем быць выхаваным. Многія нашыя беды карэняцца зусім не ў заганах сацыяльнай сістэмы, атручаным і задушлівым асяродку нашага існавання. Яны — у нас саміх, у нашай сістэме каштоўнасцей. Вялікае пераабсталяванне свету пачынаецца з самога сябе, і адказы на вечныя пытанні трэба шукаць у сваёй сярэдзіне, бо кожны народ варты сваіх кіраўнікоў, гэта і ёсць альфа і амега нашага жыцця. У наш час, мабыць, адзіным шляхам выратавання краіны становіцца самаразвіццё і самавыхаванне. Толькі паступовае ўнутранае пераўвасабленне асобы здольнае пераадолець крызісныя з'явы грамадства. Гэтая ідэя здаецца утапічнай, яе цяжка ўвасобіць, але давайце паразважаем, чаму пераважная большасць задумаў у эканоміцы, палітыцы, праве такія малаэфектыўныя на практыцы? Магчыма, яны навукова неабгрунтаваныя? Наўрад ці. Іх жа распрацоўвалі цэлыя калектывы спецыялістаў. Некаторыя з гэтых праектаў з пэўнымі мадыфікацыямі даўно і дзейсна "працуюць" на Захадзе. Значыць, справа не ў аб'ектах, а ў суб'ектах выканання. Непавага да закону, імкненне да хвілінНай карысці, групавы эгаізм, "творчы" бюракратызм — усё гэта прыкметы ваяўнічага бескультур'я, якое не перааадольваецца адразу. Культура ж, цывілізаванасць, без якіх немагчымы ўздым нашай краіны, дасягаюцца не толькі і не столькі выхаваннем, колькі жаданнем быць выхаваным, і актыўнымі дзеяннямі, скіраванымі на дасягненне гэтай мэты. І пакуль гэтага не зразумеюць нашыя палітыкі, прававеды, эканамісты, пакуль не павернуцца тварам да чалавека, выйсце немагчымае і не будзе знойдзена.

Любому грамадству патрэбна экалогія культуры, яе ахова ад эрозіі, бо існуе вялікая небяспека страціць культуру як каштоўнасць для нашага маладога пакалення, якое жыве толькі матэрыяльнымі інтарэсамі, шукае ў жыцці толькі карысць і страчвае з гэтай прычыны сэнс жыцця. Па-сапраўднаму чалавек багаты толькі сваімі ведамі, духоўнымі каштоўнасцямі, культурай, якую ён мае. З дапамогай культуры чалавек набывае ўнутраную свабоду думкі, дзеяння, сумлення. Культура — сінонім паўнавартаснага жыцця чалавека.

**Галіна ПІЛЕВІЧ,**
**настаўніца.**
г.Салігорск

## ЗА ПАМЕЖНЫМ СЛУПОМ

**Мінулы год стаўся юбілейным для сталіцы нашай заходняй дзяржавы-суседкі. Менавіта ў 1596 годзе, то-бок 400 год таму, Жыгімонт Ваза III перанёс сталіцу Рэчы Паспалітай з Кракава ў Варшаву. Чым гэта было выклікана і як большая блізкасць сталіцы да межаў Вялікага княства Літоўскага паўплывала на далейшае развіццё нашай краіны — няхай даследуюць гісторыкі, мы ж паглядзім на жыццё сучаснай Варшавы, што ў ім можа быць прыстасавана да нашых умоваў, што ёсць цікавага. Воляю лёсу наш карэспандэнт Сымон Пташкін правёў некалькі апошніх месяцаў мінулага года ў сталіцы Польшчы і занатаваў свае ўражанні.**





# У АБДЫМКАХ ПАНІ ВАРШАВЫ

### ГОРАД ПАЧЫНАЕЦЦА З ВАКЗАЛА

Апошні раз у Варшаве я быў шэсць-сем год таму, у самы разгар так званай "шокавай тэрапіі", і горад падаўся змрочным, жыхары панурымі, таму вялікай розніцы ад Мінска я тады не адчуў. Цяпер жа кантраст відавочны: калі выходзіш з падземных памяшканняў Цэнтральнага вакзала, з вышыні птушынага палёту на цябе глядзяць тры велічныя шкляна-бетонныя і яўна непрывычныя для вока беларуса хмарачосы. Сваім ростам яны канкуруюць з будынкам "Палаца культуры", падораным брацкаму польскаму народу "вялікім правадыром усіх народаў" Сталіным, — аналагам галоўнага корпуса МДУ. Проста не верыцца, што за даволі кароткі тэрмін, у параўнанні з нашым будаўніцтвам, маглі ўзняцца гэткія гіганты.

Праўда, унізе месяцца да болі знаёмыя шапікі дробнага гандлю і лаўкі барахольшчыкаў. Але абслугоўванне там больш ветлівае, і хот-догі, і піцы, і бігі і макі прадаюць з такім стракатым аздабленнем зеляніны і за такі адносна невялікі кошт, што заўсёды, праходзячы побач, ловіш сябе на жаданні ўсё гэта пакаштаваць.

Калі стаяць "камкі", то значыць недалёка прыпынак аўтобуса ці трамвая (тралейбусаў у Варшаве няма), а значыць, ёсць шапік, дзе можна набыць квіткі на транспарт. Але не спяшайцеся набываць квіток на адну паездку, які каштуе адзін злоты, бо існуе ў Варшаве такая з'ява, як "білет дабовы", які прыдатны на ўсе віды транспарту, нават на метро, і дзейнічае круглыя суткі, а каштуе ўсяго ў тры разы даражэй, чым аднаразовы. Ці ж не выгодна? Вось бы нам пераняць гэтую завядзёнку!

І яшчэ прыемная рэч: на кожным прыпынку падрабязна распісана, куды кожны аўтобус ідзе, вісіць расклад і спазненне можа быць максімум на пару хвілін, безумоўна, калі няма на вуліцах затору. Нават калі вы ў Варшаву прыехалі зусім позна, вам не варта дасыпаць рэшту ночы на лаўках ці лавіць таксоўку, ноччу таксама ходзяць аўтобусы. Праўда, маршруты трохі зменены. Кожныя паўгадзіны з розных куткоў горада з'язджаюцца "Ікарусы", "перадаючы" адзін другому пасажыраў і ад'язджаючы ў сваім кірунку.

А вось тутэйшыя таксісты, хоць і ездзяць на мерседэсах, такія ж, як і ў нас. Сябар расказваў, што калі ён ехаў да мяне ў госці, то таксіст, мала таго што падазрона доўга катаў яго па горадзе, дык запатрабаваў відавочна завышаную суму, а не атрымаўшы яе, адвёз майго сябра на стаянку, дзе былі іншыя таксісты, якія яго ледзьве не растурзалі. Так што трэба быць уважлівым і асцярожным.

Аднак самі палякі даюць перавагу ўласнаму транспарту, і таму ў гадзіну пік, асабліва ў цэнтры горада, "ні праехаць, ні прайсці". Дый увогуле сталіца Польшчы не была падрыхтавана да аўтамабільнага буму, які настаў пасля лібералізацыі эканомікі, бо не хапае стаянак, на вуліцах вялікая загазаванасць, іншым разам адчуваеш, што няма чым дыхаць. З жахам чакаеш такога ж "буму" ў гарадах Беларусі, асабліва ў Мінску, дзе колькасць насельніцтва прыкладна такая ж, як і ў Варшаве, але Мінск больш кампактны, таму нагрувашчванне машын будзе яшчэ большае.

### ІМКНЕННЕ ПАЎСТАЦЬ З ПОПЕЛУ

Так, Варшава вялікі па памерах горад, бо ўключае ў сябе шмат паркаў, архітэктурных, палацавых комплексаў.

Пачуццё зайздрасці выклікае трапяткое стаўленне варшавян да сваіх гістарычных помнікаў. Калі шпацыруеш па старамескіх вулачках, бачыш старажытныя будынкі, плошчы, дзе мастакі і рамеснікі прадаюць свае творы, а міма праносяцца конныя экіпажы, проста не верыцца, што ўсяго гэтага не было, што пасля вайны на гэтым месцы не засталося ніводнага дома — быў суцэльны друз і дзе-нідзе абпаленыя, "абгрызеныя" сцены не вышэй аднаго паверха. Усё гэта можна бачыць на паштоўках, якія тут жа прадаюцца — пераўноўвай, што было, што стала.

Страшэннае было разбурэнне, і, вядома, усё аднавіць амаль немагчыма. Не паўстала нанава гарадская ратуша, не ўзвысіўся Саксонскі палац...

Цікавы факт. У адной каланадзе Саксонскага палаца пасля першай сусветнай вайны пахавалі невядомага салдата, і калі фашысцкія захопнікі ўзарвалі палац, засталася стаяць толькі гэтая каланада. Цяпер яна стала помнікам, дзе нясуць варту маладыя воіны. Тут размешчаны урны з зямлёй, што ўзята з

# СПОВЕДЗЬ

...Калі б нехта яшчэ гадоў шэсць таму сказаў мне, настаўніцы малодшых класаў, што я кіну сваю любімую працу, таму што яна не дае магчымасці пракарміць сябе і хворую маці, я б не паверыла. Не паверыла б і таму, што, будучы ўсё-такі больш-менш паважаным членам грамадства, ператваруся ў свайго рода парыю, якая будзе прасіць-маліць то мытнікаў, то кантралёраў, то прадаўцоў, то... Адным словам, стану "чаўнаком".

Ніколі не забудуся на свой першы рэйс. Цётка маёй сяброўкі ўгаварыла паехаць у Кітай — купляць "пухавікі". Рэйс быў маскоўскі, мы з ёй аказаліся сярод "купцоў" самымі беднымі і паехалі ў правінцыю, каб танней купіць тавар. Адтуль жа выбрацца аказалася амаль немагчыма: цягнікоў мала, яны перапоўненыя. Мы паспрабавалі заскочыць у вагон, калі цягнік пайшоў, а праваднікі білі чаравікамі па нашых пальцах, якімі мы чапляліся за прыступкі... Каля года мы ездзілі ў Кітай, трохі разжыліся, я купіла "відзік". Аднак скончылася ўсё трагікамічна, дакладней, для мяне ўсё было трагічна, а смяяліся мытнікі. Калі расказваць каротка, то атрымалася, што рыхтаваўся чарговы рэйс, а мне давялося мяняць загранпашпарт, і ён не быў гатовы. Тая ж цётка сяброўкі ўгаварыла, каб я ўзяла пашпарт у адной з нашых таварак, тым болей, што мы былі падобныя. І праўда: па ейным пашпарце ехала ў Кітай, праехала ўсю краіну. І толькі калі вярталася, мытнік, угледзячыся ў мой твар, неяк няўпэўнена сказаў: "Нешта не падобна..." Калі б на цяперашні розум, то я пасмяялася б, падняла яго, маладога хлопца, на смех, і ён, мабыць, здаўся б. Але тады "спрацавала" мая дурная інтэлігентнасць: не змагла схлусіць, прызналася. Думаю сабе: я жужо на радзіме, у Саюзе, назад жа яны мяне не выкінуць... І што тут пачалося! Мяне, як шпіёнку, тут жа пасадзілі ў турму, сцераглі "па першым класе", пакуль я, заліваючыся слязьмі, мо соты раз расказвала свае прыгоды, а неабходныя паперы на "апазнанне" ішлі ў Беларусь і назад. Колькі было перажыта, пакуль выпусцілі, так і не вярнуўшы потам і цяжкай працай зароблены дзве тысячы долараў...

Наступны раз паехала я па турыстычнай пуцёўцы ў Грэцыю — купляць футры. Ездзіла так разоў мо дзесяць. Тут, хаця і не выпіхвалі з цягніка, аднак трэслася і дрыжала не менej. Па-першае, для партыі тавару трэба не меней дзвюх-трох тысяч долараў, а вывозіць можна без дэкларацыі на пяцьсот. Значыць, астатняе трэба хаваць. Але ў мытнікаў вока напрактыкаванае. Трэслі і "шманалі" так, што толькі пер'е ляцела. А пасля трапіла ў адну турыстычную фірму, якая мела з мытнікамі "кантакт", і ўсё стала лягчэй, толькі за "кантакт" трэба было плаціць з кожнага футра... А паспрабуй не заплаці, нават калі вязеш адно футра, якое заявіла на дазволеную суму — у тысячу долараў. Яны мігам табе пакажуць, што гэтае футра каштуе тры, і канфіскуюць яго. Вядома, у прынцыпе можна даказаць, што каштуе яно ўсё-ткі тысячу, і "выдраць" яго назад, але гэта — толькі "ў прынцыпе". Пасля лепей не едзь праз тую мяжу — з'ядуць... Плаціць працай, і таму радуешся, што натрапіў на "тую" фірму, з якой яны, не баючыся, "бяруць"... Спазнала я за гэтыя гады румынскіх, балгарскіх, грэчаскіх мытнікаў. Самыя злосныя, грубыя, у лепшым выпадку нявеетлівыя — гэта нашы. Тыя, нават калі затрымліваюць аўтобус і намякаюць, што ім патрэбныя адна-дзве дзячуны "на гадзінку", інакш не прапусцяць транспарт хутка, абыходзяцца з "жывым таварам" ветла, нават пачастуюць пасля цыгарэтай або кавай. Што вы жахаецеся, думаеце, такога быць не можа? Можа, і яшчэ як! Бывала, што дзяўчаты самі ішлі "на гадзінку": тады грошы за іхнія футры плаціў астатнія. Я ніколі не хадзіла — заплачу, затое пасля дрыжэць наконт СНІДу не буду... Кажаце, ніколі самі такога не сустракалі? Ну, яны ж, мытнікі, таксама бачаць, хто і з чым едзе. З вашым братам, журналістам, яны амаль нармальныя...

Паездзіла я па турыстычных пуцёўках нямала, падзарабіла, нават тое-сёе адклала на "чорны дзень". Але паступова футрамі завалілі ўвесь рынак, вазіць іх стала нявыгадна. На адкладзеным патрымалася я паўгода, а пасля стала ездзіць па прадукты ў Польшчу.

Цётка маёй сяброўкі да таго часу завяла сваю краму. Угаворвала і мяне ўвайсці ў долю. Але як пагляджу, як лістом сцелецца яна — і перад падатковай інспекцыяй, і перад міліцыяй, і перад рэкецірамі, якія, канешне ж, прыляпіліся, сярод іншых, і да гэтай крамы, — не, думаю, не вытрымаю я ўсіх іх. Вызвалася толькі прывозіць тавары і прадукты.

З турызмам тут ужо не выходзіла. Стала купляць ваўчары. Дватры разы з'ездзіла, адрываючы

## ЗА ПАМЕЖНЫМ СЛУПОМ

палёў, дзе адбываліся баі, на мемарыяльнай дошцы высечаны назвы ўсіх бітваў Войска Польскага на франтах свету.

На месцы палаца цяпер зялёныя газоны, а перад імі — вялікая плошча. Раней яна называлася плошча Перамогі, а зараз — плошча Пілсудскага. Тут адбываюцца вайсковыя парады, але не такія, як у нас, з каменнымі тварамі салдат, з напружаным поціскам аўтаматаў і чаканным крокам чорных ботаў, а з залатымі трубамі і бравурнай музыкай, замест грозных жаўнерскіх калонаў будуюцца разнастайныя геаметрычныя фігуры. Усё гэта нагадвае гусарскі парад-прадстаўленне. Дый і жыхары, якія любяць адпачываць у бліжэйшым Саксонскім парку, усё гэтак і ўспрымаюць, нават пляскаюць у ладкі, вітаючы прыгажосць перабудовы шэрагаў.

І ўзаемаадносіны паміж цывільнымі і вайскоўцамі ў Польшчы становяцца больш ветлівымі, як бы пераносяцца з мінулых стагоддзяў. Нават яназіраў такую карціну: жанчына зацікавілася помнікам невядомаму салдату, падышла бліжэй і ледзь не сутыкнулася з вартавым, а той не абурыўся, пастаяў трошкі, не хвалюючыся, што збіў устаноўлены этыкет, усміхнуўся і пакрочыў вышкаленым крокам далей па сваім маршруце. Ці зможа наш салдат шчыра ўсміхнуцца, парушаючы вайсковы этыкет?



### ВОСЕНЬ ПРЫХОДЗІЦЬ, КАЛІ НЕ ІГРАЮЦЬ ШАПЭНА

Шануюць і любяць варшавяне паркі. Пасля нестабільных гадоў, калі большасць людзей не знаходзіла часу на адпачынак, варшавяне зноў вяртаюцца на цяністыя прысады, на лаўкі, схаваныя кустарнікамі. Зноў у парках паўнютка дзятвы.

Самы паркавы месяц, калі можна гэтак сказаць, верасень, бо ў Польшчы лета заканчваецца не так, як у нас, 1 верасня, а па астранамічным календары — 21 верасня. Усе спяшаюцца наталіцца цішынёй і лагодай адыходзячага лета.

20 верасня ў Лазенках, у парку-купальні польскіх каралёў, перад помнікам Шапэна апошні раз у годзе іграюць творы гэтага геніяльнага кампазітара. Прыходзіць восень, людзей у парках становіцца ўсё меней. Але варшавяне яшчэ прыдуць у тыя ж Лазенкі пакарміць вавёрак, пакідаць кавалкі хлеба качкам і лебедзям, пагладзіць па высакародных пёрках паўлінаў, што спакойна гуляюць па сцяжынках парку. Але паступова гаснуць клумбы, закрываюцца аранжарэі. У Саксонскім парку схаваюць у дашчаты домік нашага старога знаёмага — хлопчыка з лебедзем — брата-блізняці нашага мінскага, што стаіць у скверы ля тэатра імя Янкі Купалы.

### КАНЦЭРТЫ, ФЕСТЫВАЛІ, ВЫСТАВЫ, КАНФЕРЭНЦЫІ

Але жыццё бурліць культурнымі падзеямі. У верасні ўся Варшава была заклеена рэкламнымі плакатамі, якія заклікалі жыхароў наведаць канцэрты караля поп-музыкі Майкла Джэксана. Таксама адбываліся канцэрты знакамітых іспанскіх фламенкістаў — трыо Пака дэ Лусія. А ў снежні, калі я ад'язджаў дадому, у сталіцу Польшчы прыехалі славутыя "Smokie".

Хаця палякі не забываюць і сваіх герояў. Не меней плакатаў і рэкламы было прысвечана прэзентацыі новага альбома Марылі Радовіч.

У кінатэатрах праводзяцца разнастайныя кінафестывалі. Гэтак адбываўся Польскі 12-ы фестываль фільмовы, дзе ішлі прэм'ерныя паказы стужак Анджэя Вайды "Панна ніхто" і Радаслава Піваварскага "Аўтапартрэт з каханкай". Так што кінематограф у Польшчы жыве і развіваецца.

Аднак, шчыра кажучы, выправа ў кіно для мяне была даволі дарагім задавальненнем, бо білет у сярэднім каштуе каля трох даляраў.

А вось патраціць на выставы можна было бясплатна. Па-першае, калі адбываецца прэзентацыя пэўнай выставы, а па-другое — кожны чацвер Музей Нарадовы праводзіць, гэтак мовіць, дзень адкрытых дзвярэй, дзе можна свабодна агледзець усю яго экспазіцыю. Падчас майго візіту праходзіла выдатная выстава польскага мадэрна.

3 кастрычніка адбылася яшчэ адна знамянальная падзея, якая літаральна ўскалыхнула ўсю Польшчу, а разам і яе сталіцу — Віслава Шымборска стала лаўрэатам літаратурнай Нобелеўскай прэміі за 1996 год. Варшаву захліснула хваля літаратурных вечароў, фестываляў, паэтычных чытанняў. На паліцах кнігарняў з'явіліся свежавыпушчаныя томікі лаўрэаткі, а таксама ўспаміны розных людзей пра сустрэчы з ёю і выданні, кшталту "Прыемнасць чытання Шымборскай". Хоць адзначанай персоне аддавалася львіная доля публічнай цікавасці, не заставаліся па-за ўвагай і іншыя пісьменнікі. Прайшоў вечар паэзіі Канстантыя Ільдэфонса Галчыньскага.

А ў рамках фестывалю "Пісьменнікі ў Варшаве" адбываліся імпрэзы, прысвечаныя славянскай літаратуры. Быў вечар украінскай паэзіі, дзе выступалі прадстаўнік вядомай суполкі "Бу Ба Бу" Юры Андруховіч і постмадэрніст Юры Іздрык, а як падмацаванне да літаратуры прайшоў канцэрт львоўскага рок-гурта "Мёртвы певень".

Цікавым і даволі змястоўным стаўся вечар беларускай літаратуры, які праходзіў у сутарэннях знакамітага бара "Пад Харэндай". Удзел у ім бралі як прадстаўнікі старэйшага пакалення — празаік Сакрат Яновіч і вядомая паэтэса Надзея Артымовіч, так і маладыя літаратары — бумбамлітавец Серж Мінскевіч і паэт-бард Андрэй Хадановіч, які здзівіў публіку "страшэннымі кажанамі" — героямі "калыханкі для дрэнных дзяцей". Пра іх нават пісалі ў цэнтральнай варшаўскай прэсе. Выступленне пісьменнікаў у той вечар вылілася ў даволі змястоўную гаворку пра лёс беларускай літаратуры, беларускай мовы, і аказваецца, што нашым польскім сябрам гэта пытанне таксама не абыякавае.

Варшава — горад канферэнцый. Напэўна, няма тыдня, каб у ёй не адбывалася якога-небудзь сімпозіума, семінара ці сустрэчы навукоўцаў. Тэматыка іх самая разнастайная: ад навуковай да чыста гуманітарнай. У поле майго зроку трапілі канферэнцыі: "Праблемы лакальнай прэсы", "Славянскі свет: які ён — грэчаскі, візантыйскі, германскі, лацінскі, азіяцкі?" і нават "Канферэнцыя дысідэнтаў свету".

Увогуле Варшава вельмі якасна выкарыстоўвае сваё геаграфічнае становішча. Гэта горад на мяжы Заходняй і Усходняй Еўропы, таму зручна праводзіць канферэнцыі, дзе ўдзельнічаюць прадстаўнікі гэтых рэгіёнаў. Розным гуманітарным фондам, якіх дарэчы, у свеце вельмі шмат, выгодна ўкладваць грошы ў канферэнцыі, бо гэта значыць, што грошы пайшлі на інтэлектуальнае развіццё чалавецтва. І сталіца Польшчы, як горад-арганізатар, атрымлівае не толькі грашовыя прыбыткі, але яшчэ і даволі станоўчы імідж.

Хочацца спадзявацца, што наш Мінск, геаграфічнае становішча якога нічым не горай за варшаўскае, калісьці зможа годна канкураваць з ёй у колькасці праведзеных канферэнцый. Тым больш, ёсць класны міжнародны аэрапорт, добрыя пад'язныя шляхі. Застаецца, каб паўсталі шматзорныя гатэлі, шматзорнае абслугоўванне і жаданне жыхароў...

*Мінск — Варшава — Мінск, 1996 г.*

*На здымках: Стары горад, які паўстаў з попелу. Лета: іграюць Шапэна. Каланада Саксонскага палаца, магіла Невядомага салдата. Экіпаж да вашых паслуг.*

*(Заканчэнне будзе)*



# "ЧАЎНАКА"

рукі клункамі, мокнучы на прыпынках аўтобусаў, пад снегам на пераездах, дзе чарга на некалькі кіламетраў, адна, страшэнна брудная, прыбіральня на кожным баку і не меней брудныя "забягалаўкі". Божа, колькі зняваг, лаянкі тых, хто чакае па шмат гадзін, хто стаіць у чэргах з машынамі — спачатку па талон "за экалогію", затым на мытны і пашпартны кантроль! Брудная будка, дзе то бывае, то не бывае выдавальшчык; дзве гадзіны, на якія талон выдадзены, ад чаго ўладальнікі машын звяроюць і не хочуць падвозіць такіх, як я, каму да ўласнай машыны — як да Палярнай зоркі...

І ўсё ж мне, за мае пакуты, тут пашанцавала. На мытні працуе аднакласнік маёй сяброўкі. Я звычайна пераязджаю мяжу ў іхных дзяжурствы. Тады і тавару можна правезці болей, і ён папросіць каго з аўтамабілістаў падвезці мяне, дык возмуць ахвотна, бо не станусь спрачацца з мытнікам. Дый яно і бяспечна тады — не забяруць твой клунак ці выкінуць без грошай у кювет, як бывала з маімі калегамі неадночы. Неяк нас затрымалі на мяжы праз Балгарыю. Кіраўнік нашай групы пазваніла ў пасольства, каб дапамаглі, бо там была чыстая прыдзірка, нам адказалі з нашага пасольства літаральна наступнае: "У нас шмат клопатаў з нармальнымі людзьмі, каб займацца спекулянтамі". Мы тады моцна перажывалі. Хіба ж мы, чаўнакі, не людзі? Не грамадзяне краіны — такія ж, як і ўсе астатнія? Мы прывозім тавары — але ж гэта не крымінал! А то на высокім узроўні кажуць, што яны за бізнес, а на побытавым — зневажаюць за гандаль, хаця менавіта гандлем жывуць многія краіны, і палякі, у цяжкія для іх гады, выжылі, можа, дзякуючы менавіта гандлю. Але і ў тыя гады там ніхто не зневажаў сваіх грамадзян, калі інакш ніяк не знойдзеш выйсця. Калі ты вымушаны сам яго шукаць. Калі кожны рубель зароблены, а не ўкрадзены — значыць, ты павінен знаходзіць дапамогу ў дзяржаўных структур...

Цяпер, калі я езджу туды-сюды на цягніку, але бачу пачынаючых "чаўночніц", якія ў мэтах эканоміі ездзяць на "аўтастопах", у мяне баліць за іх сэрца. Яны ж абсалютна безабаронныя і таму змушаны змагацца за існаванне з яшчэ большай, чым у хлопцаў і мужчын, грубасцю і нейкім, я б сказала, азвярэннем. Бо з кожным месяцам відавочна скарачаецца колькасць пакупнікоў, наш дробны бізнес, дзякуючы якому аказаліся запоўненыя крамы, хутка, здаецца, будзе зведзены "пад корань". А што тады? Вяртацца ў школу? На жабрачую зарплату, якая яшчэ зменшылася? Дый за гэтыя гады я, хутчэй за ўсё, ужо дыскваліфікавалася, не магу ўспомніць нават самыя простыя рэчы па педагогіцы.

Таму, нягледзячы на сённяшні нядрэнны, па нашых мерках, заробак, на тое, што "ў панчоху" адклала такія-сякія грошы, я адчуваю жах перад жыццём і пастаянны стрэс. Вось узрастуць падаткі, мытныя пошліны, зачыняцца крамы. Што тады? Працы на ўсіх не хопіць, скарачаюцца рабочыя месцы на прадпрыемствах.

Я добра разумею, што ў такіх, як я, няма будучыні. Вось у маіх суседзяў дачка, якая здолела паехаць у Англію і там уладкавацца ў Школу мастацтваў. Спачатку, калі бацькі нядрэнна зараблялі, яны ёй дапамагалі. Сёння яна ўжо там нешта малюе па замовах, дасылае грошы ім. Нядаўна прыехала на тыдзень. І ўсе ў яе пытаюцца: "Ну што, застаешся"? Яна ў адказ: "Ды не, скончу Школу — прыеду назад." І ўсе, як адзін, на гэта ёй адказваюць: "Ну і дурніца!"

Яна, расказваючы мне гэта, некалькі разоў паўтарала, што ніводзін ні з сяброў, ні са знаёмых не сказаў ёй: "Вось малайчына! Прыедзеш на радзіму, тут так патрэбныя маладыя, таленавітыя сілы!" Наадварот — глядзелі з зайздрасцю, раілі знайсці якога англічаніна, хоць старога, хоць брыдкага — абы не вяртацца сюды... Можа, яна і праўда думае вяртацца, а можа, проста не знойдзе там патрэбнага мужчыну. Што ж тычыцца мяне — дык хіба хто глядзіць на нас, спацелых, расхрыстаных, з шалёным поглядам — дзе б што ўхапіць таннае, не спазніцца на распродаж, набраць паболей...

А жыццё праходзіць. Ідуць гады — нашы непаўторныя, неацэнныя хвіліны і месяцы. Часам, калі закурыш з сяброўкамі, вып'еш віна альбо чаго мацнейшага, нешта ў душы ўстрапянецца, здасца, што не ўсё так і блага. А пасля зноў збіраешся на здабычу — і свет ізноў закрываецца шэрай пеляной, дзе толькі бруд, чэргі, грашовыя знакі як эквівалент твайго розуму і кемлівасці — і становіцца страшна. Няжо ты да скону будзеш жыць у дзяржаве, якая заўсёды ставіла ідэі вышэй за чалавека, а цяпер ні ў што не ставіць ні ідэі, ні чалавека...

**Запісаў Ягор ФЯДЗЮШЫН**

КАМЕРТОН

# АРГАН САФІЙСКАГА САБОРА

***Ідэя абсталяваць у Полацкім Сафійскім саборы канцэртную залу з арганам была для свайго часу даволі нечаканай і спрэчнай. 900-гадовы сабор сам па сабе з'яўляецца помнікам культуры. Ці патрэбна яму утылітарнае прызначэнне? Спрэчкі гэтыя засталіся ў 60 — 80-х гадах, калі ішла рэстаўрацыя. Сённяшняя гісторыя сабора — гэта перш за ўсё гісторыя канцэртнай залы.***

***Рэстаўратарам удалося аднавіць не толькі будынак і інтэр'ер храма (сабор за сваё доўгае жыццё належаў розным канфесіям, сучасны ягоны выгляд — узор уніяцкага храмабудаўніцтва). Аднавілі, разгадваючы сакрэты старых майстроў, і спецыфічную акустыку. Гук тут не "плыве", не "гасне", змешваючыся, а захоўвае аб'ём і чысціню.***

***Сабор з канцэртнай залай — галоўны складнік Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. Першапачаткова зала прызначалася для шматлікіх турысцкіх груп, што наведваюць Полацк. Гэта былі так званыя "ілюстрацыйныя канцэрты". Наведнікі, даведаўшыся пра гісторыю Полацкай зямлі, мелі магчымасць падчас канцэрта адчуць дух гэтай гісторыі.***

— Мы рыхтуем такія канцэрты з улікам узроўню слухачоў, каб у іх з'явілася жаданне яшчэ раз паслухаць арган, — распавядае загадчыца канцэртнага аддзела запаведніка Лілія Емяльянава. — Іншы раз узнікае неабходнасць расказаць штосьці пра асаблівасці стылю альбо даць дадатковую інфармацыю пра кампазітара. А дзіцячай аўдыторыі лепш распавесці казку, што ілюстравала б музыку. Другі накірунак — канцэрты для "невыпадковай" публікі. Тут выступалі практычна ўсе вядомыя беларускія калектывы і выканаўцы, а таксама выканаўцы з замежжа. Вакальная, харавая і арганная музыка прываблівае ў невялікую залу (300 месцаў) не толькі палачан, але і слухачоў, якія прыязджаюць у Полацк спецыяльна на фестываль.

**— Наладжванне такіх мерапрыемстваў звязана з вялікімі цяжкасцямі. Хто Вам дапамагае?**

— Усё робім самі — арганістка, музычны рэдактар і я. Госці часам не разумеюць — на вакзале сустракаем іх мы, уладкоўваем у гатэль таксама мы, арганізоўваем канцэрты і вядзем праграму зноў жа мы! Але нікому даручаць гэта я не хацела б: як сустрэнеш музыканта, так ён і сыграе. Аднак, для музыкантаў, паводле іхніх словаў, выступіць у нашай зале — задавальненне. Неяк да нас прыязджалі музыканты з Грузіі. Яны вельмі абураліся, што з прычыны нашай беднасці мы не здолелі забяспечыць іх транспартам. Але калі ўбачылі і "пачулі" залу — забыліся на сваю незадаволенасць.

**— Хто з Вашых гасцей запомніўся Вам асабліва?**

— Кожны фестываль чымсьці адметны. І ў першую чаргу — сваімі выканаўцамі. Сёлета да нас прыязджаў малады, але вельмі таленавіты арганіст з Нямеччыны Ганс Хрыстоф Хаўзер. Ён іграў больш за дзве гадзіны, і публіка слухала, стаіўшы дыханне. Другое аддзяленне было аб'яўлена імправізацыйным: слухачы самі задавалі тэму — хтосьці запісаў некалькі нот, нехта даваў вобраз. Якая гэта была "Перапёлачка"! Слухачы проста не маглі ўстрымацца, каб не выявіць сваё захапленне. Але калі ён атрымаў запіску з просьбай "сыграць" свае ўражанні ад нашага горада, дык тут адбылося штосьці незямное. Хаўзер іграў — і гэта было так зразумела! Увесь наш боль, нашыя беды былі ў гэтай музыцы. І адначасова была годнасць, была надзея, быў заклік. Мне хацелася падняцца нібы пры выкананні гімна. Гэта былі спагада і падтрымка...

**— Застаецца толькі пашкадаваць, што не пашчасціла трапіць на гэты канцэрт...**

— Вы маеце такую магчымасць, бо сёлета мы мяркуем правесці яшчэ адзін фестываль — арганістаў-выканаўцаў.

**— ?**

— Так-так, фестываль, а магчыма, пазней і конкурс.

— У нас, у СНД, няма ніводнага конкурсу арганістаў, і гэта праблема, — кажа арганістка сабора Ксенія Пагарэлая. — У музыкантаў няма магчымасці стасункаў, яны не могуць абмяняцца думкамі, ведамі. Арган — рэдкі інструмент, і асабліва цяжка тым арганістам, якія яго не маюць.

**— А як Вы зрабіліся "гаспадыняй" Полацкага аргана?**

— Пра гэта лепей я раскажу, — усміхаецца Лідзія Сяргееўна. — Калі ў нас вызвалілася месца, Ксенія, даведаўшыся пра гэта, адразу ж прыехала ў Полацк. Прадставілася: "Выпускніца Маскоўскай кансерваторыі. Вы, мабыць, хацелі б пабачыць мяне ў працы?" І, троху азнаёміўшыся з інструментам, сыграла ў нас першы канцэрт. Больш мы нікога не шукалі. Нарадзіўшыся ў Краснадары, Ксенія добра прыжылася ў Полацку.

— Вялікі горад часта адцягвае, не дае застацца сам-насам з сабою. А гэта неабходна, асабліва арганісту, бо арганная музыка — гэта не проста музыка, гэта — роздум.

**— Наколькі добры Полацкі арган?**

— Я іграла на розных арганах, і за мяжой, у Нямеччыне, і ў нас. Кожны арган нечым адметны, як і кожны чалавек: няма двух абсалютна аднолькавых. Ёсць лепшыя арганы, але наш — таксама вельмі добры. Чэшскія майстры зрабілі яго спецыяльна для гэтай залы.

**— Ці бралі Вы ўдзел у конкурсах выканаўцаў?**

— Цяпер, на жаль, я ўжо не падыходжу для большасці з іх па ўзросту. Праўда, была на конкурсе "Магутны Божа", які наладзіла ў Магілёве "Каталіцкая грамада". Стала лаўрэатам другой прэміі.

**— Што Вы любіце іграць на сваіх канцэртах?**

— Мне цікава шмат што. Бах, Букстэхудэ — у маёй праграме абавязковыя, бо гэтую музыку добра ўспрымаюць слухачы. Люблю і сучасныя творы. Сяброўка па кансерваторыі, арганістка і вельмі адораны кампазітар з Масквы Алена Бутузава наведала Полацк і напісала прэлюдыю для аргана "Сафійскі сабор". На маю думку, вельмі ўдалы твор. Нават непадрыхтаваныя слухачы ўспрымаюць яго добра. Гэта нібыта музычны вобраз нашага сабора. Толькі так і можна яго вызначыць.

**— Дзякую за гутарку. Творчага плёну Вам і поспехаў!**

**Полацкі арган слухаў Ігар КЛОКАЎ**



# ЗВАНЫ ПОЛАЦКА

Напрыканцы лістапада ў канцэртнай зале Сафійскага сабора Полацка скончыўся І Міжнародны фестываль арганнай музыкі. Гэтая значная падзея прыцягнула ўвагу не толькі палачан, але і гасцей літаральна з усёй краіны. Поўныя залы на кожным з пяці канцэртаў — сведчанне непадробнай цікавасці публікі да новай з'явы нашага культурнага жыцця.

Агульнавядома, што беларуская арганная школа, якая налічвае каля двух стагоддзяў існавання, у свой час займала значнае месца ў еўрапейскім музычным мастацтве. І сёння наш абавязак — стварыць звяно, якое спалучае мінулую славу беларускіх арганаў з цяперашнім часам і адраджае слаўныя выканальніцкія традыцыі.

Відавочна, што на сённяшні дзень колькасць арганных канцэртных залаў на тэрыторыі краін СНД (і асабліва — на Беларусі) не задавальняе як слухачоў, так і выканаўцаў, асабліва маладых. Фестываль прадаставіў публіцы цудоўную магчымасць зносінаў з незнаёмымі, але ўжо дастаткова сур'ёзнымі выканаўцамі. Ён таксама пазнаёміў з новымі арганнымі творамі, унёс новыя штрыхі ва ўжо вядомыя творы вялікіх майстроў мінулага.

Насуперак правілу "першага бліна" фестываль, здаецца, здзейсніўся. Ягоныя пяць канцэртаў склалі каларытнае суквецце і зрабілі сур'ёзную заяўку на змястоўнасць і жыццяздольнасць гэтага фестывалю.

Адкрыццё свята арганнай музыкі было сімвалічным. Прафесар І.Трумер (Аўстрыя) прадставіў вельмі складаную для ўспрыняцця праграму твораў І.С.Баха з шэрагу ключавых для ягонай творчасці: сёння агульнавядомы той факт, што гэтая музыка літаральна перапоўненая тэмамі і матывамі, якія, блукаючы з аднаго твора ў другі, абазначаюць розныя рэлігійныя сімвалы, поўныя сюжэтныя кампазіцыі з Евангелля, жыццёва-філасофскія паняцці (да прыкладу, тэма Крыжа, з'яўленне анёлаў, шэсце на Галгофу, моц веры і да т.п.). Для звычайнага чалавека ўсё гэта прадстаўляецца сухой і тужлівай тэорыяй. Аднак з першых гукаў Трумер здолеў надаць усяму жывую сутнасць і адпаведную форму.

У свой час гук званоў Сафійскага сабора, які разносіўся далёка навокал, нагадваў людзям пра боскую мудрасць, якая, набываючы форму Слова, засцерагае чалавека ад нядобрых учынкаў, падтрымлівае і скіроўвае на добрыя дзеянні, — бо становіцца блізкай і зразумелай людзям. Ужо пасля адкрыцця фестывалю з'явілася ягоная назва — "Званы полацкай Сафіі". На наш погляд, яно цалкам адлюстроўвае сэнс і задачы фестывалю і дазваляе спадзявацца на ягоны працяг у будучыні.

Канцэрт салісткі Сафійскага сабора К.Пагарэлай па-свойму развіў і дапоўніў тэму, зададзеную на адкрыцці прафесарам Трумерам. Адчуванне яснасці і радасці жыцця тут адбілася на філіграннай адшліфаванасці Канцэртаў Гендэля (№ 4 і № 6). У трох творах арганістка Бутузава здолела спалучыць акварэльную тонкасць з маштабным зместам і ў выніку — яркай жыццесцвярджальнай сілай успрыняцця творчасці кампазітара. Зноў і зноў здзіўляе рэдкае ўменне арганісткі валодаць інструментам.

Выступленне краснадарскага арганіста М.Павалія прыцягнула ўвагу слухачоў дэкаратыўным малюнкам старажытнай музыкі (Н.Бруне, І.Э.Саксен-Веймар — І.С.Бах), які ў другім аддзяленні канцэрта выліўся ў мора фарбаў рамантычнай музыкі М.Рэгера.

Яскравым акцэнтам у мелодыі фестывалю прагучалі канцэрты А.Янчанкі і А.Алоўнікава. 11 гадоў таму Алег Янчанка адкрываў арган Сафійскага сабора, і ўжо тады неардынарны талент імправізатара і кампазітара запомніўся многім слухачам. Кульмінацыяй фестывальнага канцэрта стала выкананне ягонага ўласнага твора "Музычнае ахвяраванне", дзе на фоне гучання аргана, дзіцячага хору, віяланчэлі, трубы чуецца гук званоў.

Фестываль арганнай музыкі завяршыла В.Вебер-Геркен (Нямеччына). Яе стыль выканання, мабыць, можна параўнаць з адчуваннем свежай зімовай раніцы — столькі энергіі і светлай радасці перадалося ў залу праз музыку, што гучала ў той вечар.

Яркі, асабліва хвалюючы момант фестывалю — прэм'ера твора Н.Дадоўскай "Асанна" для аргана і струннага аркестра. Першае выкананне аўтар даверыла К.Пагарэлай і камернаму аркестру Наваполацкай музычнай вучэльні пад кіраўніцтвам А.Багамолава. Трэба адзначыць, што маладыя музыканты вельмі адказна падышлі да ўдзелу ў фестывалі і, напэўна, гэты канцэрт пакінуў след у душы кожнага з іх і ў душы слухачоў.

Творча паставіўся да ўдзелу ў фестывалі другі калектыў — хор СШ № 3 пад кіраўніцтвам А.Кажушкевіча. Акрамя абавязковай праграмы ("Музычнае ахвяраванне") у ягоным выкананні прагучалі "музычныя падарункі" сябрам — віяланчэлісту А.Алоўнікаву і А.Янчанку, а таксама В.Вебер і жыхарам Фрыдрыхсхафена, горада-пабрацiма Полацка.

У канцэртных праграмах пераважалі мажорныя танальнасці. Будзем спадзявацца, што гэты "мажор" прывядзе нас да другога фестывалю арганнай музыкі "Званы полацкай Сафіі-97".

**Н.БАРАВІК, музычны рэдактар Сафійскага сабора.**

# ВЕСТКА З КАЛІФОРНІІ

Мы ведалі яшчэ па восені мінулага года, што знаны дырыжор Анісімаў заангажаваны ў замежжа аж да 2000 года. І дырэктар опернага сумна прамаўляў пры гэтым: "Ну як жа мы без Анісімава". Неяк абыходзіцца — хаця ж, пэўна, і цяжка! — без маэстра наш тэатр, а вось добрая вестка першых дзён новага года прывяла нас у захапленне: у далёкай Каліфорніі пастаўлена опера А.Барадзіна "Князь Ігар", Сан-Францыска апладзіруе майстэрству віртуознага маэстра.

**А.Р.**

# МУЗЫЧНЫЯ ЗОРКІ БЕЛАРУСКАГА НЕБАСХІЛУ

У снежні 1996 года ў Мінску адбыўся І Міжнародны форум творчай моладзі "XXI стагоддзе — Музыка Надзеі". У зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшлі два зусім незвычайныя канцэрты.

Першы з іх — гэта гала-канцэрт маладых кампазітараў і выканаўцаў. Ён сабраў лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Юных музыкантаў Гродзеншчыны на гэтым фестывалі прадстаўлялі пераможцы IV Міжнароднага конкурсу маладых кампазітараў "Надзея-96" Кірыл Кедук (клас — Т.Баравік) і Дзінара Мазітава (клас — В.Радзівонава). Песні Кірыла прыцягнулі ўвагу слухачоў прастатой і кранальнасцю. Яскравай вобразнасцю і далікатнасцю вылучалася музыка балета "Дзюймовачка" Дзінары Мазітавай, асобныя нумары з якога выканалі навучэнцы Беларускага харэаграфічнага каледжа. 7-гадовы кампазітар і піяніст Фарыд Махмудаў з Масквы (клас — Т.Чудавай) зацікавіў усіх. Ён выканаў уласныя творы, прадэманстраваўшы пры гэтым цудоўнае валоданне інструментам. Нельга не ўзгадаць пра Аркадзя Чубрыка і Цімура Шчарбакова з Мінска (клас — У.Карэтнікава). Іхнія п'есы адшліфаваныя да найдрабнейшых дэталяў і прагучалі даволі пераканаўча. Уразіў публіку віртуознай ігрой брэсцкі баяніст Аляксандр Пылік (клас — В.Шыманоўскага). Толькі той факт, што Аляксандр пяць разоў быў лаўрэатам самага прэстыжнага ў свеце конкурсу баяністаў у г.Клігенталі, пераканаўча сведчыць аб ягоным майстэрстве! Ніколькі не саступаў яму ў прафесіяналізме мінчанін Арцём Шышкоў (клас — Э.Кучынскага). Зграбнасцю і хараством вылучаліся таксама балерыны Ірына Цымбал і Аста Базавічутэ (клас — Г.Сінельнікавай). Карацей, усіх, хто выступіў у першы дзень форуму, пералічыць проста немагчыма.

Навучэнцы Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі правялі канцэрт з сімвалічнай назвай "Музычныя зоркі беларускага небасхілу". І гэтая назва цалкам апраўдала нашыя чаканні. Далёка не палахлівым выглядаў 10-гадовы скрыпач Алег Яцына (клас — Л.Умновай), натхнёна сыграла "Кампанелу" Паганіні цымбалістка Аксана Хахол (клас — Я.Гладкова), лёгка пераадольваў складаныя пасажы кларнетыст Яўген Аўсяннікаў (клас — У.Скараходава).

Асобна трэба адзначыць таленавітага піяніста Івана Сцяпанава (клас — А.Гуджылоўскай). У ягоным стылі мыслення яскрава вызначаюцца індывідуальныя рысы. Выконваючы "Карнавал" Р.Шумана, малады піяніст трактаваў гэты твор па-свойму, вылучаючы дзве эмацыйныя сферы: пяшчотная, крохкая лірыка і жорсткае адмаўленне ад яе.

Праграма форуму прадугледжвала выставу юных мастакоў, майстар-класы прафесара Маскоўскай кансерваторыі Таццяны Чудавай, навукова-практычную канферэнцыю. Найстарэйшы беларускі кампазітар Анатоль Васілевіч Багатыроў зрабіў спавешчанне пра методыку выкладання кампазіцыі Рымскага-Корсакава. Ён нагадаў пра цудоўныя традыцыі рускага класічнага мастацтва.

Форум стаў сапраўдным святам дзіцячай і юнацкай творчасці. Хочацца пажадаць усім ягоным удзельнікам новых дасягненняў і новых перамог на конкурсах.

**Віталь РАДЗІВОНАЎ, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны.**

ЧАС. АСОБА. ЛЁС.

# МУЗЫКА ЛІТВЫ І КАРОНЫ

Творы Цыпрыяна Базыліка, фрагменты з калядных месаў, беларускія канты гучалі напрыканцы 1996 года ў Чырвоным касцёле. Старадаўнюю духоўную музыку, што ўвайшла ў праграму "Музыка Літвы і Кароны", выконваў камерны мужчынскі хор "Унія". На Беларусі сёння гэта адзіны прафесійны калектыў такога кшталту. Мужчынскі хор — з'ява для нас не зусім звычайная, але такі склад абумоўлены хрысціянскай агульнаеўрапейскай традыцыяй спеваў. І дагэтуль мужчынскія хары вельмі папулярныя ў Заходняй Еўропе. У нас жа, як і на ўсёй прасторы былога СССР, яшчэ колькі год таму духоўная музыка не знаходзіла падтрымкі з боку дзяржавы. У такой сітуацыі з'яўленне "Уніі" — сапраўдны цуд. Хор паўстаў у лістападзе 1990 года дзякуючы намаганням Хведара Коцяша і Кірылы Насаева. Гэта быў аматарскі калектыў, у які музыканты згуртаваліся з агульнай мэтай — аднавіць колішнюю музыку і традыцыі беларускіх царкоўных спеваў. Чатыры гады "Унія" была пазбаўлена афіцыйнага прызнання, хаця яшчэ на пачатку 90-х браў удзел у прадстаўнічых міжнародных імпрэзах: "Унія" стала дыпламантам 12-га Міжнароднага фестывалю імя Франца Шуберта ў Вене на катэгорыі мужчынскіх хароў, удала выступіла ў Туры на фестывалі "Florilege Vocal de Tours". 1993 год прынёс ім першую прэмію Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа".

Усё гэта гісторыя. Што ўяўляе сабой "Унія" сёння і якія планы ў гэтых маладых таленавітых музыкаў на бліжэйшы час? Некаторымі з іх падзяліліся мастацкі кіраўнік Кірыла Насаеў і дырэктар хору Міхаіл Іванаў. "Унія" не спынілася на былых, бясспрэчных сваіх заслугах. Рэпертуар пастаянна абнаўляецца і папаўняецца: калі спачатку ў ім была выключна беларуская духоўная музыка, дык з цягам часу хор заспяваў творы свецкія і сучасныя, творы, што нарадзіліся ў розных краінах. Сёння "Унія" спявае на дванаццаці мовах свету і выдатна спраўляецца з рознастылёвым матэрыялам: тут і французская барока, і негрыцянскія спірычуэлс, лацінаамерыканская "Кукарача", бітлоўская "Yesterday"... Падобная разнастайнасць і папулярызацыя абумоўлена не толькі творчымі пошукамі, але і празаічнымі фінансавымі праблемамі: каб зарабіць на якасную фанаграму ці рэкламны відэаролік, музыкантам даводзіцца ўдзельнічаць у эстрадных канцэртах, ствараць праграмы, разлічаныя на розных слухачоў.

Другі сезон "Унія" мае прафесійны статус. Хор існуе пры Магілёўскай абласной філармоніі. Дарэчы, на дырэктара Уладзіміра Браялоўскага кіраўнікі хору лічаць грандыёзнай творчай асобай і вялікім прафесіяналам. Мяркуйце самі: "Залаты шлягер", "Магутны Божа" і шэраг іншых музычных праектаў нарадзіваліся не ў Мінскам, а Магілёвам. З "Уніяй" супрацоўнічаюць кампазітар Аляксандр Літвіноўскі, Віктар Скарабагатаў і ягоная "Беларуская капэла".

Зараз хор працуе над сваім першым кампакт-дыскам, які ўбачыць свет у Бельгіі. Амаль увесь матэрыял ужо падрыхтаваны, і ў хуткім часе беларускія меламаны атрымаюць магчымасць праслухаць якасны запіс "Уніі". Што ж тычыцца творчых задумаў, "уніяты" не збіраюцца спыніцца на праграме музыкі Вялікага княства Літоўскага і Кароны, якую вы маглі пачуць незадоўга да каталіцкіх Каляд і Новага года. Ёсць новыя песні, ёсць шмат запрашэнняў на фестывалі — на жаль, некаторымі даводзіцца пакуль ахвяраваць. Але ж нягледзячы на часовыя праблемы і недарэчнасці айчыннага шоу-бізнесу, "Унія" не губляе свайго твару і не спыняецца ў творчым росце. А творчы працэс — гэта галоўнае.

**Ірына БАРАВАЯ**

# "ХІМІЧНАЯ ФОРМУЛА" ДЫРЫЖОРСКАГА МАСТАЦТВА

***Віктар Собалеў — асоба ў музычным свеце вядомая. Яго імя асабліва на слыху сёння, калі скончыўся Міжнародны фестываль "Фартэпіяна. Мінск-96", на якім ён дырыжыраваў сімфанічным аркестрам. Калі пачаўся фестываль "Беларуская музычная восень", зноў знаны майстра працаваў на ім разам з аркестрам. Напружанасць, з якой працуюць і аркестр, і дырыжор, відавочная. Хто ж ён такі, Віктар Собалеў? Спроба творчага партрэта друкуецца сёння.***

Успомнім разважанне Восіпа Мандэльштама пра ролю дырыжора, вобраз якога ў паэта асацыіруецца з дырыжорскай палачкай: "Карысць дырыжорскай палачкі — зусім не вычарпальная яе матывіроўка. У танцы дырыжора, які стаіць спіной да публікі, знаходзіць сваё выражэнне хімічная прырода аркестравых гучанняў. І гэтая палачка — далёка не знешні, адміністрацыйны дадатак ці своеасаблівая сімфанічная паліцыя, якой можа і не быць у ідэальнай дзяржаве. Яна не што іншае, як "танцуючая" хімічная формула, якая імітуе зразумелыя для слуха рэакцыі... У пэўным сэнсе гэтая палачка ўтрымлівае ў сабе ўсе элементы аркестра". Вядомасць прыходзіць да дырыжора, як правіла, у сталым узросце; значна радзей "у шэраг" масцітых залічваюць дырыжораў маладых, аднак і сярод іх сустракаюцца выключэнні. Да іх належыць і Віктар Собалеў, дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, чыё імя добра вядома ў нашай краіне. Дырыжорская дзейнасць у опернай студыі Ленінградскай кансерваторыі, амаль чатырохгадовая праца галоўным дырыжорам аркестра Чэлябінскага тэатра оперы і балета — гэта, па словах В.Собалева, "дазволіла прайсці не толькі добрую прафесійную падрыхтоўку, але, што асабліва важна, і чалавечую, і практычную, і жыццёвую". Пасля было супрацоўніцтва з рознымі аркестравымі калектывамі Томска, Новасібірска, Масквы, Ленінграда. Потым работа на працягу трох гадоў у беларускім Тэатры оперы і балета — усё гэта важныя моманты ў станаўленні Собалева-дырыжора.

Не было выпадковасцю і тое, што з дзяцінства яго вабіла да сябе музіцыраванне ў калектывах розных складаў — духавым і народным аркестрах; цалкам заканамерным здаецца выбар выканальніцкай спецыяльнасці — паступленне ў Ленінградскую кансерваторыю па класе кантрабаса; супрацоўніцтва з аркестрамі старадаўняй і сучаснай музыкі пад кіраўніцтвам Э.Сярова (цяпер ён узначальвае сімфанічныя аркестры ў Даніі і Валгаградзе), аркестравая выканальніцкая дзейнасць у сімфанічным аркестры Ленінградскай кансерваторыі, якім кіраваў у той час вялікі Я.Мравінскі.

Ужо на працягу шасці гадоў Віктар Собалеў жыве і працуе ў Беларусі. Спачатку ён узначальваў Дзяржаўны камерны аркестр, потым, не губляючы сувязей з філармоніяй, зноў звярнуўся да тэатральнай дзейнасці і вось цяпер ужо другі сезон дырыжор супрацоўнічае з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам. Менавіта гэты калектыў прыцягнуў увагу музыканта сваім высокім узроўнем прафесійнага майстэрства. На пытанне, якія прафесійныя якасці найбольш каштоўныя, Собалеў адказвае: " Вядома, высокія прафесійныя патрабаванні да дырыжораў маюць на ўвазе асаблівы ўзровень інтэлектуальнай падрыхтоўкі, ніжэй якога нівodзін музыкант не павінен апусціцца. Але не сакрэт, што цяпер усё часцей з'яўляюцца людзі, якія выпадкова набылі гэтую прафесію, што і выяўляецца ў адносінах з аркестрантамі. Нездарма вядомы нямецкі кампазітар і дырыжор Р.Вагнер лічыў, што разважаць аб тым, добра ці дрэнна вы дырыжыруеце, маюць падставу толькі аркестранты. Сапраўды, нават па пастаці дырыжора, па яго манеры размаўляць, па тым, як ён падыходзіць да пульта, вопытныя музыканты ствараюць сваё ўяўленне аб яго асобе і вельмі рэдка памыляюцца. Музыканты паважаюць дырыжора тады, калі



бачаць, што вынікі іх працы паляпшаюцца.

— Калі дырыжор у час рэпетыцыі не мае ўласнага погляду на твор ці знаходзіцца ў пошуку — у такім разе трэба ўжываць адміністрацыйныя метады ўздзеяння. Я не прымаю дырыжорскага дылетантызму, гэта жахліва, гэта дыскрэдытацыя прафесіі цалкам. Вы ж не згодзіцеся, напрыклад, на складаную аперацыю на сэрцы ў хірурга, які ніколі не выдаляў апендыкс. Безумоўна, мы выбіраем спецыяліста, даведваемся пра яго. А цяпер уявіце: у аркестр прыходзяць дырыжоры — адзін, другі, трэці... Аб якім мастацкім выкананні, набліжаным да ідэала, аб якім адзіным бачанні твора можа ісці гаворка?

Так, гэта адна з надзвычай складаных і надзённых праблем — кантакт дырыжора з аркестрам, іх прафесійныя стасункі.

Ужо даўно стала вядома, што розныя дырыжоры выкарыстоўваюць розныя метады работы, якія, у сваю чаргу, маюць вытокі ў двух асноўных прынцыпах, вядомых з часу з'яўлення дырыжыравання як прафесійнай з'явы, — гэта так званыя дыктат і дыялог. Кожны дырыжор сам ацэньвае вартасць таго ці іншага метаду.

Самы час звярнуцца да метафарычна нечаканых, але слушных разважанняў В.Мандэльштама: "Што ў першую чаргу — слуханне ці дырыжыраванне? Калі дырыжыраванне толькі падштурхоўванне... музыкі, дык навошта яно, калі аркестр і сам па сабе добры, калі ён іграе бездакорна?.." Тут неабходна адзначыць, што для дырыжора ў аднолькавай ступені важна ўменне слухаць і чуць тое, што ён дырыжыруе. Нарэшце гэтага Віктар Яўгенавіч выказвае наступную думку:

— Талент дырыжора ў тым, каб перакануча прадставіць той ці іншы твор, які гадамі выконваўся, які мае свае "штампы". І таму заўсёды прыемна, калі ў знаёмым творы знаходзяцца новыя дэталі, якія цікавяць музыкантаў, хаця яны бачаць нейкія эпізоды па-іншаму: "Гэта спрэчна, мы з табой не згодныя, але гэта цікава, перакануча і магчыма". Калі ў вашай трактоўцы прысутнічае мастацкасць — вам не спатрэбяцца адміністрацыйныя метады. Трэба, зноў-такі, любіць музыку і выказаць сваю думку з такім перакананнем, каб, павесці за сабой усіх музыкантаў.

Любоў да музыкі... Гэтае пачуццё яднае і музыкантаў-пачаткоўцаў, і сапраўдных прафесіяналаў. Аднак не сакрэт, што кожны музычны дзеяч, нават сталы майстар сваёй справы, нясе ў душы адбітак таленту свайго куміра, які нябачнымі флюідамі ўздзейнічае на творцу, а таксама — на слухачоў. Для В.Собалева эталон дырыжорскага мастацтва — Ф.Мендэльсон, Г.Берліёз, Р.Вагнер (росквіт рамантычнага дырыжыравання), творцы XX века — А.Тасканіні, Г.Караян, В.Фуртвенглер, В.Таліх, Б.Вальтэр, В.Нойман, Р.Штраус, Х.Рыхтэр, савецкія дырыжоры — Я.Мравінскі, Г.Раждзественскі, Я.Святланаў, К.Кандрашын, Д.Кітаенка (які цяпер працуе за мяжой), Ул. Федасееў, вядомы А.Мусін, які выхаваў Ю.Цемірканава, В.Гергіева... Кожны з іх меў асобную галіну музыкі, у якой адчуваў сябе асабліва ўтульна, іншымі словамі, буйны дырыжор — сапраўдны стыліст.

Цікавыя меркаванні выказаў Віктар Яўгенавіч накont традыцыйнага пытання пра свае музычныя густы, перавагі ў выкананні тых ці іншых твораў. Увогуле такое пытанне заўсёды выклікае складаныя разважанні ў суразмоўцы, і гэта не дзіўна: той, хто "прапусціў" праз сябе ўсе выкананыя творы, не ў стане аддаць перавагу пэўнаму стылю, кампазітару... В.Собалеў вылучыў чатырох кампазітараў, якія з'яўляюцца для яго музычнай Біблііяй: В.А.Моцарт, Р.Вагнер, І.Брамс, П.Чайкоўскі. Але як можна забыцца на іншых прадстаўнікоў музычнага мастацтва, урэшце на Баха, які літаральна "нарадзіў" класікаў музыкі?

Праца ў філармоніі патрабуе адпаведнасці канцэртным праграмам сезона, якія скіраваныя на выхаванне слухачоў, таму часта дырыжоры і калектывы павінны выконваць творы "на замову". Паводле В.Собалева, прафесійны дырыжор, нават калі прапанаваны твор не вельмі яму блізкі, павінен выканаць яго на высокім узроўні. Кожны музыкант у той ці іншай ступені імкнецца выконваць свае любімыя творы, але ў межах філармоніі гэта жаданне можа з'явіцца прафаніраваннем цікавых ідэй. Таму дырыжор заўжды павінен ведаць музыкі болей, чым ён дырыжыруе, каб быць падрыхтаваным да выканання музыкі любых стыляў; займацца сучаснай музыкай, інакш ён не будзе на належным узроўні. Гэта трывалая творчая пазіцыя падтрымліваецца тым, што на працягу шасці гадоў працы на Беларусі Віктар Яўгенавіч прадставіў шмат твораў беларускіх кампазітараў — А.Багатырова, Я.Глебава, Д. Смольскага, В.Кузняцова, Ул.Дамарацкага, С.Картэса. Ён лічыць, што беларуская музыка павінна гучаць як мага часцей.

Адна з апошніх з'яў у беларускім музычным мастацтве і творчасці В.Собалева — прэм'ера Канцэрта для фартэпіяна з аркестрам Д.Смольскага, якая адбылася ў час адкрыцця 59-га, перад'юбілейнага сезона ў Дзяржаўнай філармоніі. Сам Собалеў з гэтай нагоды заўважае: "З Дзмітрыем Браніслававічам мяне звязваюць даўнія творчыя кантакты, я высока цаню яго як кампазітара. Фартэпіянны канцэрт прагучаў у выкананні Цімура Сергіені — цікавага піяніста, таленавітага чалавека. Канцэрт вельмі неадназначны, у ім многа цытат, ён на першы погляд атрымаўся камічны, але гэта далёка не так. Там прысутнічае шмат трагічных эпізодаў. Канцэрт складаецца з дзвюх частак, якія моцна звязаны адна з адной. Я прапанаваў кампазітару вырашэнне другой часткі, дзе выкарыстоўваецца і развіваецца папярэдні матэрыял, дзе пачынаецца несупынны працэс цытавання. Тэмы з'яўляюцца вельмі нечакана — ствараецца ўражанне, нібы гэта перадсмяротная свядомасць музыканта, абцяжараная вагой асацыяцый яго выканальніцкай і кампазітарскай дзейнасці. Сутыкаюцца цытаты невыпадковыя, іх генезіс знаходзіцца ў аўтарскай тэме — і галоўная партыя ўверцюры да "Севільскага цырульніка" Д.Расіні, "тэма нашэсця" Д.Шастаковіча — пакалыханне секунды, кварты, п'еса Кейджа "Маўчанне"... Там шмат усялякіх ідэй, але ў выніку ўзнікае адчуванне трагічнага завяршэння — зачыняецца вечка раяля, апошні ўдар пальцаў... Сам кампазітар з уласцівай яму дасціпнасцю так канчаткова і не выказаўся, аб чым гэты канцэрт".

Тэмпераментная і мэтанакіраваная работа В.Собалева не дазваляе супакойвацца і аркестру, таму новыя мастацкія задачы дакладна адпавядаюць творчым задумам музыкантаў. Аркестр мае вялікі рэпертуар: творы Д.Смольскага, 13-я сімфонія Д.Шастаковіча, Другі фартэпіянны канцэрт С.Рахманінава, "Вясна свяшчэнная" І.Стравінскага, Пятая сімфонія А.Брукнера — гэтыя творы ўжо пачула сталічная публіка ў сёлетнім канцэртным сезоне філармоніі. У снежні ў якасці падрыхтоўкі гастроляў у Іспаніі прагучаў канцэрт з твораў П.Чайкоўскага і І.Штрауса. Застаецца спадзявацца, што ў перспектыве калектыў разам з дырыжорам атрымае магчымасць прадстаўляць сваю музыку не толькі ў час канцэртаў, але і ў аўдыёзапісах ці на кампакт-дысках.

Сапраўднае майстэрства заўжды нейкім чынам звязана з касмічнымі вышынямі, яно абапіраецца на падсвядомасць успрымання праз духоўнасць выканаўцы. І магчыма, што метафара В.Мандэльштама "хімічная формула" мае на ўвазе канцэнтрацыю ў дырыжорскай палачцы энергіі дырыжора, скіраванай да глыбіні мастацтва. З дапамогай "формулы" іншым разам дзіўныя і падчас незразумелыя трактоўкі сталых масцітых дырыжораў здаюцца цалкам адзінымі, ступень іх узроўню — перакануча. І не кожнаму музыканту-пачаткоўцу дадзена наблізіцца да такіх вышынь. На маю думку, сфарміраваная творчая асоба В.Собалева здолее прапанаваць уласныя прачытанні музычных твораў, не менш перакануча і каштоўныя, бо калі яднаюцца ідэі кампазітара, патрабаванні слухача і своеасаблівая дырыжорская інтэрпрэтацыя ў гучанні адной партытуры, гэтае трыадзінства перамагае жорсткія абмежаванні прафесіі — і дырыжор паўстае Творцам, які ўдзельнічае ў таемным працэсе ўзнікнення Музыкі.

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

## МАСТЫХІН




# ВЕЧНЫ НЕСПАКОЙ



65 гадоў таму Яўген Ціхановіч скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум. Тады ж упершыню ўзяў удзел у выставе. З тае пары шмат вады працякло праз шлюзы няпростага гістарычнага часу. Мабыць, няма ніводнай галіны мастацтва, якую б не закрануў Я.Ціхановіч у сваёй творчасці: ад тэм грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў — да пабудовы сацыялізму ў нашай краіне, ад побытавай жанравай карціны — да манументальнай фрэскі, ад кніжнай ілюстрацыі — да экслібрыса, ад партрэта — да станковай графікі, ад пейзажа — да гістарычнага палатна. І гэта не лічачы шматлікіх часопісна-мемуарных артыкулаў, так бы мовіць, "пра час і пра сябе", што апублікаваны ў айчынным і замежным друку.

Можна нешта прымаць альбо не прымаць у творчасці Яўгена Мікалаевіча, у ягоных поглядах і канцэпцыях жыцця і творчасці, але нельга пазбавіць ягоны характар зайздроснага творчага працалюбства, разнастайнасці мастакоўскіх інтарэсаў, вечнага неспакою душы. Так трымаць, Яўген Мікалаевіч!

* * *

Два тыдні таму Генрыху Бржазоўскаму споўнілася 85. Колькі ён пабачыў за сваё жыццё — ні апісаць, ні распавесці! Колькі напісаў карцін, пейзажаў, партрэтаў і нацюрмортаў — ніводзін мастацтвазнаўца не здолее падлічыць. Ды і сам Генрых Францавіч, мабыць, ніколі і не падлічваў. Ён проста працаваў. Бо ў творчасці — усё ягонае жыццё, сплеценае з удач і пралікаў, радасцей і расчараванняў, пошукаў і знаходак. А знаходак было нямала — "Партызан каля вогнішча" і "Выхад з блакады", "Пахаванне партызана" і "Янка Купала на беразе Свіслачы"... А знакамітае палатно пачатку 50-х — "На родных палях", што ўвайшло ў залатую скарбонку нацыянальнага жывапісу!

Сёння Генрых Францавіч піша, у асноўным, нацюрморты і пейзажы, іншы раз настальгічныя, мінорныя, але часцей — радасныя, светлыя, мажорныя, нібыта сонечныя промні пасля навальніцы...

**Б.К.**







***Юбілейныя выставы твораў Яўгена Ціхановіча і Генрыха Бржазоўскага экспануюцца ў рэспубліканскім Палацы мастацтва.***

*На здымках:*

*Я.Ціхановіч.*

*Я.Ціхановіч. "Партызаны ў разведцы".1948. Палатно, алей.*

*Г.Бржазоўскі. "На родных палях". 1652. Палатно, алей.*

*Г.Бржазоўскі з дачкой, народнай артысткай Беларусі Л.Бржазоўскай на вернісажы сваёй выставы.*

# "У ГЛІНЕ Я АДЧУВАЮ ЦЕПЛЫНЮ РОДНАЙ ЗЯМЛІ..."

**Лявон Панамарэнка — асоба ў беларускім мастацтве вядомая. Карэнны беларус, ураджэнец вёскі Ветхінь, што пад Рэчыцай, ён атрымаў прафесійную адукацыю ў Ленінградскім вышэйшым мастацка-прамысловым вучылішчы імя В.І.Мухінай і на факультэце мастацкай керамікі БДТМІ у М.Бяляева. І ўжо напрыканцы 60-х гадоў стаў на Беларусі, па словах А.Бембеля, "адным з лепшых керамістаў", які арганічна спалучыў у сваёй творчасці традыцыі беларускага народнага мастацтва з сучаснымі дэкаратыўнымі пластычнымі формамі.**

Яго унікальныя камплекты посуду, напольныя вазы, збаны, зробленыя з фарфору, фаянсу, шамоту і маёлікі, дрэва і металу, роспіс па белай керамічнай плітцы атрымалі шырокае прызнанне не толькі на Беларусі.

Л.Панамарэнка па-рознаму інтэрпрэтуе формы народнага ганчарнага посуду. Формы вылучаюцца сакавітай пластычнасцю і пругкасцю. Замкнёныя, ураўнаважаныя сілуэты, некалькі павялічаныя памеры надаюць творам мастака нейкую веліч, нават манументальнасць, аднак асаблівасці каларыту і эстэтычнай лёгкасці народных ганчарных вырабаў пры гэтым ніколі не губляюцца.

Асабліва мастак любіць ляпіць збаны. Здавалася б — чаго прасцей! Але не... Ён не паўтараецца, шукае ўсё новыя і новыя дасканалыя формы, шукае і знаходзіць — у незвычайнай прастаце, лаканічнасці і строгасці ліній. Каб захаваць іхнюю некранутую чысціню, ён амаль не звяртаецца да стылізаванага дэкору. Толькі калі-нікалі ўводзіць лінейны каляровы паясок альбо аб'ёмны арнамент. Асабліва ахвотна мастак працуе ў чырвонай гліне. Менавіта ў ёй, прызнаецца Лявон, ён "адчувае цеплыню роднай зямлі. Акрамя таго, гліна — традыцыйны матэрыял беларускіх народных майстроў керамікі".

Гармонія, прастата, прыгажосць — вось, бадай, асноўныя рысы керамічных вырабаў таленавітага мастака. І ў 60-гадовы юбілей Лявона Хведаравіча мы шчыра жадаем яму творчага натхнення і новых твораў.

**Барыс КРЭПАК**

*На здымку:*
*Л.Панамарэнка. Дэкаратыўныя вазы "Па родных матывах".*



# НЯВОЛЬНІК МУЗЫ

**Той, да каго хоць аднойчы дакранулася сваімі прыгожымі крыламі чароўная птушка — муза Жывапісу, назаўсёды хварэе творчасцю. Аб гэтым яскрава сведчыць выстава твораў вядомага ў рэспубліцы мастацтвазнаўцы Мікалая Гугніна, разгорнутая ў галерэі суполкі "Віцебская акварэль" і прысвечаная 50-годдзю з дня нараджэння.**

У мінулым выпускнік мастацка-графічнага факультэта, Гугнін прадставіў гледачу рэтраспектыўную выставу ўласных жывапісных і графічных кампазіцый, большасць з якіх раней не экспанавалася. Нягледзячы на свой, здавалася б, асноўны занятак — мастацтвазнаўства, Мікалай Гугнін ніколі не пакідаў займацца графікай і жывапісам. Ці не таму на адкрыцці гэтай выставы шматлікія прамоўцы больш разважалі не аб яго навуковай і педагагічнай дзейнасці на мастацка-графічным факультэце, пра што даволі выразна сведчыць атрыманая ім ступень кандыдата мастацтвазнаўства, напісаныя артыкулы, метадычныя распрацоўкі, а гаварылі пра натхненне, якое зноў вярнулася да мастака.

У экспазіцыі першай персанальнай выставы Мікалая Гугніна своеасаблівай дзёрзкасцю пластычных рашэнняў, уласцівай маладосці, вылучаюцца акварэлі 60-х — пачатку 70-х гадоў. Ужо ў той час адзін з яго настаўнікаў Іван Сталяроў адзначаў у ім някепскія здольнасці каларыста і раіў займацца акварэллю. Аднак Гугніна тады больш вабіла мастацтва эстампа, асабліва экслібрыс і лінагравюра. На пэўных этапах свайго жыцця мастак звяртаўся да гуашы, у якой дасягнуў асаблівых поспехаў.

Некалькі ж апошніх гадоў Гугнін цалкам прысвяціў акварэлі. Сярод яго твораў большасць складаюць пейзажы, у якіх сціплыя, нічым не прыкметныя матывы прыроды набываюць тонкае лірычнае гучанне. Пленэрны падыход — дамінуючы фактар у большасці акварэляў мастака. Мікалая Гугніна вабяць і эпічныя, часам шматпланавыя краявіды, у якіх своеасаблівая апавядальнасць увасоблена ў мерных пластычных рухах мастацкай формы. У нацюрмортах мастак таксама імкнецца да дакладнай перадачы прасторы, матэрыяльнасці рэчаў, вытанчанай гармоніі колеру.

Творчая актыўнасць Мікалая Гугніна знайшла выйсце і падтрымку ў шэрагу выстаў суполкі "Віцебская акварэль", сябрам якой ён з'яўляецца. І хоць сёння, як і раней, Мікалай Гугнін піша артыкулы, займаецца мастацтвазнаўчымі справамі ўжо ў якасці дырэктара выставачнай залы Віцебскага Саюза мастакоў, але душа яго час ад часу відавочна просіць нечага іншага. Пра што, напэўна, ведае толькі яна, Муза!

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**
г.Віцебск

*На здымку:*
*М.Гугнін. "Дрэва ў парку Бачэйкава". Акварэль.*



МАСТЫХІН



***З выставы керамікі Зарыны Баўтрук і Яўгеніі Мусінскай у Нацыянальным мастацкім музеі.***
*На здымках:*
*Я.Мусінская.*
*Дэкаратыўная пластыка "Жывая кераміка".*
*З.Баўтрук.*
*З серыі "Цукерніца з залатымі вушкамі".*
*З.Баўтрук.*
*Ваза "Падарожжа ў Кітай".*
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





# "Я ПАКІНУЎ РАДЗІМУ ЛЕДЗЬ НЕ НАЗАЎСЁДЫ..."

***Мастак Кандрат Ільіч Карсалін — адзін з тых нашых таленавітых землякоў, чыя творчасць пераважна звязана з рускім мастацтвам. Сёння, ствараючы канцэпцыю сваёй уласнай гісторыі, мы вяртаем многія духоўныя каштоўнасці, якія па розных прычынах або забытыя, або прыпісваюцца культуры іншых народаў. Успамінаем мы і мастакоў, чыя творчасць можа ўваходзіць аднпачасова ў гісторыю культуры розных краін. У большасці гэта тыя, хто атрымліваў адукацыю ў навучальных установах Вільні, Пецярбурга, Масквы і іншых буйных цэнтрах, адначасова становячыся і носьбітамі пануючых там эстэтычных прынцыпаў і мастацкіх плыняў. Існаванне ў гісторыі беларускага мастацтва імёнаў такіх мастакоў з'яўляецца заканамерным не толькі дзеля павагі да землякоў, але і таму, што іх творчасць, звычайна мела ўплыў на развіццё беларускай культуры. Сярод іх адным з менш вядомых сёння з'яўляецца Карсалін.***

Мастак нарадзіўся у 1809 г. у Слуцку ў незаможнай мяшчанскай сям'і. З 12 гадоў ён пачынае пісаць абразы, з 14 — працуе памочнікам у мясцовых іканапісцаў, разам з імі ствараючы іканастасы. Таленавіты іканапісец не апынуўся па-за ўвагай маладога выкладчыка мясцовай гімназіі Тамаша Геса. Гэты адданы сваёй справе чалавек, які на працягу трыццаці гадоў выкладаў у Слуцку маляванне, быў выхаванцам Віленскай мастацкай школы, вучнем Я.Рустэма. Менавіта пад кіраўніцтвам Геса Карсалін робіць першыя крокі па засваенні партрэтнага мастацтва. Але кантакты паміж імі наўрад ці былі доўгімі, бо цераз нейкі час Карсалін ужо жыве ў Арле. А неўзабаве становіцца вольным слухачом Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, дзе ў 1839 годзе атрымаў званне пазакласнага мастака. Можна вучыцца далей, але хутчэй за ўсё матэрыяльнае становішча гэтага не дазваляе. Савет Акадэміі прапануе яму працу мастака ў рускай духоўнай місіі ў Пекіне. Цераз тры гады, не адпрацаваўшы абумоўлены тэрмін, з прычыны дрэннага стану здароўя ён вяртаецца ў Расію. Спачатку жыве ў Іркуцку, потым пераязджае ў Пецярбург. У 1855 годзе за прадстаўлены ў Акадэмію партрэт обер-свяшчэнніка арміі і флатоў Кутневіча атрымлівае званне акадэміка партрэтнага жывапісу. Цераз нейкі час Карсалін становіцца членам Савета Акадэміі. Мастак многа і плённа працуе. Піша карціны на біблейскія сюжэты, абразы, пейзажы. Але найлепшым чынам яго талент знайшоў сваю рэалізацыю ў партрэце. Карсалін — адзін з тых, хто ў сваёй творчасці адыходзіць ад канонаў акадэмічнага класіцызму. Уважлівае вывучэнне натуры, як, верагодна, і даўнейшыя ўрокі Т.Геса, надаюць яго творчасці рэалістычны накірунак. А вывучэнне ў свой час кітайскага жывапісу кладзе адбітак на дакладнасць і завершанасць, што асабліва адчуваецца ў мініяцюрных партрэтах.

Верагодна, у сярэдзіне 60-х гадоў мастак звальняецца са службы пры Акадэміі Мастацтваў. З ліпеня 1872 года акадэміку партрэтнага жывапісу, члену Савета Імператарскай Акадэміі Мастацтваў, Тытулярнаму Саветніку К.Карсаліну Акадэміяй Мастацтваў выдадзена пасведчанне аб службе за № 1990. Гэта дата ў літаратуры прыводзіцца і як год смерці мастака (у "Гісторыі беларускага мастацтва", т. 3 — прыводзіцца і 1871 год). Мяркуецца, што памёр мастак у Пецярбургу. Большасць твораў, як і матэрыялаў аб яго жыцці, цяпер знаходзіцца ў Расіі.



Аднак некалькі дакументаў, што захоўваюцца ў Нацыянальным Гістарычным Архіве Рэспублікі Беларусь, даюць падставу паставіць кропку ў жыцці мастака не на 1872 годзе. Гэтыя дакументы, як, магчыма, і іншыя, да гэтага часу не выяўленыя, павінны прыцягнуць увагу даследчыкаў. Адзін з іх упамінае імя Карсаліна як жыхара Слуцка ў справе аб выключэнні яго з падатнага стану. Другі дакумент, складзены ў 1882 годзе, дазваляе ўявіць "вольнасці", якімі карыстаецца адбіжараны высокімі званнямі мастак: тут ён прыводзіцца пад № 31 у "Списке гражданских и военных чиновников, состоящих в отставке, БЕЗ УЧРЕЖДЕНИЯ НАД НИМИ ПОЛИЦЕЙСКОГО НАДЗОРА, проживающих в Слуцком уезде". Тут Карсалін падаецца як домаўладальнік. Трэці дакумент, верагодна, дазваляе ўдакладніць дату смерці. Ён звязаны з выключэннем мастака са спіса пенсіянераў грамадзянскага ведамства. Згадваецца, што Тытулярны Саветнік, акадэмік Імператарскай Акадэміі Мастацтваў Карсалін за гады — з 1879 па 1883 уключна — атрымліваў пенсію — 196 рублёў штогод, па 16 руб. 33 кап. у месяц.

З высноваў даследчыка С.Сільвестравай аб тым, што мастак, пакінуўшы ў свой час радзіму, больш ніколі яе не пабачыў, можна не пагадзіцца. Дзе ён жыў і чым займаўся з 1872 па 1879 год, пакуль не вядома, але тое, што з 1879 па 1883 год мастак жыў у Слуцку — несумненна. Можна быць упэўненым: нягледзячы на ўжо сталы ўзрост, знаходжанне ў горадзе мастака, які меў такі вялікі вопыт і званні, не магло не адбіцца на правінцыйным мастацкім жыцці. Меркаванне, што ў апошнія гады жыцця, як і калісь, ён мог пісаць партрэты случакоў або храмавыя абразы — у такім выпадку — мае падставу. Калі 1883 год прыводзіцца як год, за які пенсія была атрымана, то годам смерці мастака можна лічыць або канец гэтага года, або, што больш верагодна — 1884. Няма сумнення, што і пахаваны К.Карсалін у Слуцку. Магчыма, з часам будзе знойдзена на старых гарадскіх могілках і яго магіла.

**Ігар ЦІТКОЎСКІ, выкладчык гісторыі выяўленчага мастацтва Слуцкай дзіцячай мастацкай школы.**

*На рэпрадукцыі: К.Карсалін. "Від на загарадны палац пад Пекінам". Фрагмент. 1860.*

## ПАЛАЖЭННЕ

### аб адкрытым рэспубліканскім конкурсе на лепшы плакат антыснідаўскай тэматыкі

Міністэрства культуры, Міністэрства аховы здароўя, Беларускі Саюз мастакоў абвяшчаюць чарговы тур адкрытага рэспубліканскага конкурсу на стварэнне лепшага твора плакатнага мастацтва пад дэвізам "Небяспека — СНІД".

Галоўнай мэтай конкурсу з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІД — цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва планеты.

Конкурс праводзіцца да 1 красавіка 1997 года.

Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы на адрас: г.Мінск, вул.Казлова, 3, Палац мастацтва.

Арыгіналы плакатаў павінны быць наклееным на кардон, памерамі 60х90, 70х108, выкананыя мастаком у тэхніцы, спрыяльнай аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж).

Па тэхнічных якасцях работы павінны адпавядаць умовам друку: без склеек, трэшчын, перагібаў.

Фотаплакаты прадстаўляюцца ў адрэтушаваным выглядзе. На адваротным баку плакат пазначаецца дэвізам з 6-значнай лічбы (вышыня знакаў — 1 см). Пад гэтым жа дэвізам прадстаўляецца заклеены канверт, у якім павінны знаходзіцца звесткі аб аўтары і ягоны адрас.

Заўвага: арыгіналы плаката, прадстаўленыя на конкурс, якія не адпавядаюць умовам конкурсу, журы не разглядае.

За адносна лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі:
адна першая — 4 млн. рублёў
адна другая — 3 млн. рублёў
адна трэцяя — 2,5 млн.рублёў

Прэміраваныя плакаты будуць друкавацца паліграфічным спосабам, іх арыгіналы набываюцца за дадатковую аплату, астатнія — у месячны тэрмін пасля падвядзення вынікаў вяртаюцца аўтарам. Незапатрабаваныя знішчаюцца з афармленнем адпаведнага акта.

Заўвага: кансультацыі адносна тэматыкі конкурсу, тлумачальныя матэрыялы можна атрымаць у Рэспубліканскім цэнтры па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам (220030, г.Мінск, вул.Ульянаўская, 3, тэл. 27-18-24).

Згодна з рэкамендацыяй Сусветнай Арганізацыі Аховы Здароўя, у плакатах па барацьбе са СНІДам нельга выкарыстоўваць выявы альбо сімволіку, якія жахлівыя і псіхічна ўздзейнічаюць на людзей.





# УГЛЯДАЮЧЫСЯ Ў СТАРЫЯ ФОТАЗДЫМКІ

*Скульптар Анатоль Анікейчык у сваёй майстэрні. 1982.*

*Яўген Глебаў (злева) і Віктар Грамыка (справа) ў Балгарыі. 1965.*

*У рэдакцыі часопіса "Вожык". Мастакі Мікалай Гурло, Мікалай Гуціеў, Анатоль Волкаў, паэт Анатоль Астрэйка (сядзіць). 1952.*






ВІНШУЕМ!



З 70-годдзем народны тэатр Талачынскага раённага Дома культуры.

*На здымку: сцэна са спектакля А.Дзялендзіка "Амазонкі"; (злева направа) М.Рыбіна, Н.Мікульчык, В.Варашэнь.*

**Фота Анатоля ШНЭЙДЭРА**

ПРЭМ'ЕРА



У Тэатры юнага гледача вядомая казка "Кошчын дом" атрымала новае і нечаканае гучанне. Казку паклаў на музыку кампазітар Рыгор Уласюк. Пераклад казкі на беларускую мову зрабіў паэт Рыгор Барадулін.

Жанр незвычайнага спектакля можна вызначыць падзагалоўкам — "гуляем у оперу". І гэта сапраўды так. Акцёры тэатра не прэтэндуюць на лаўры оперных спевакоў, яны папросту разам з тымі, хто сядзіць у зале, гуляюць у оперу.

І для гледачоў, і для выканаўцаў лёгкі, вясёлы музычны спектакль стаўся яшчэ адным святам. Рэжысёр спектакля — Аляксандр Маркевіч, кіраўнік пастаноўкі, мастацкі кіраўнік тэатра — Андрэй Андросік, мастакі — Ларыса Рулёва і Уладзімір Голубеў.

*На здымку: у сцэне са спектакля "Кошчын дом" заняты артысты А.Станілевіч — Кот, Я.Доўнар — Курыца, М.Лявончык — Певень.*

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

РЭПЛІКА

# КУПІЦЕ БЕНЕФІС

**Алесь ТУРОВІЧ**

Тэатр-студыя кінаакцёра паказаў прэм'еру спектакля паводле п'есы Аляксандра Астроўскага "Таленты і паклоннікі". Для рэжысёра Аляксандра Яфрэмава гэта перш-наперш гісторыя разбураных ілюзій.

Можна выслаівіцца, што гэта спектакль пра чалавека, які не мае сябе. Галоўная гераіня Негіна — актрыса, якая хоча быць вядомай, цалкам аддае сябе тэатру. Прысвячаць сябе мастацтву — у любыя часы ахвяраванне. Гераіня дзеля гэтага ахвяруе каханнем. Розныя людзі патрабуюць ад яе свайго: студэнт-настаўнік хоча зрабіць з яе дасканалага чалавека, "такога, як ён сам" — прынцыповага, этычнага, адукаванага, аддадзенага толькі пэўнай ідэі. Домна Панцялееўна марыць вырвацца з галечы, каб дачка атрымала заможнага жаніха. Мясцовая эліта хоча падпарадкаваць яе сабе ў абмен на падтрымку, патрабуючы цела і душу. Нарэшце, усё вырашае купец Велікатаў, які купляе яе "бенефіс" і вязе актрысу ў Маскву, каб яна ў сталіцы ў поўную сілу магла праявіць свой талент.

Падзеі мінулага часам можна ўспрымаць як метафару, прытчу пра дзень сённяшні. Людзі застаюцца тымі ж, што і раней, матрыцы лёсаў нязменныя. Але зварот да іншых сацыяльных умоў дазваляе мастаку абысці вострыя вуглы рэчаіснасці, не збіцца на публіцыстыку і выкрывальніцтва. Мастацтва заўсёды ствárае мову, якая быццам зразумелая ўсім, а быццам — нікому. Непадрыхтаваны глядач яе не ведае. Але той, хто разумее, робіцца мацнейшым і набывае вопыт, які жыццё дало б за незваротна высокі кошт.

ЛЯ ФАНТАНА

# АДВЕЧНАЯ ТЭМА КАХАННЯ

**Вольга БУРЛО**
**Генадзь ЖЫНКОЎ (фота)**

Колькі ўжо было напісана і сказана пра каханне, і ўсё роўна гэта бясконцая тэма застаецца невычэрпнай, бо такое мноства адценняў у гэтага ўзвышанага пачуцця. І пакуль існуе на свеце чалавек, яго заўсёды будзе хваляваць гэтая таямніца, якая не мае ні часавых, ні прасторавых межаў. Ці можна быць "заложніцай", нявольніцай гэтага чароўнага пачуцця? Няўжо бязмежнае каханне можа прынесці столькі пакут і ахвяраў? Жанчына з яе тонкай звышчуллівай душэўнай будовай заўсёды знаходзіцца ў цэнтры зачараванага любоўнага кола і менавіта яна дыктуе ўмовы гульні, бо яна ёсць пачаткам і працягам усяго жывога на зямлі. Жанчына нараджаецца для кахання, таму што толькі гэта пачуццё надае сэнс яе існаванню, калі ўсяго гэтага жанчыну пазбавіць — адбываецца трагедыя.

Менавіта на такія думкі мяне натыкнуў спектакль "Заложніца кахання" Сяргея Кавалёва, прэм'ера якога адбылася на Вольнай сцэне тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі ў пастаноўцы Андрэя Гузія. П'еса "Заложніца кахання" (першапачатковая яе назва "Люстэрка Бландоі") створана аўтарам пад уздзеяннем беларускага рыцарскага рамана, які з'явіўся на Беларусі напрыканцы XVI стагоддзя праз пасрэдніцтва італьянскай і сербскай літаратур. Дарэчы, пра гісторыю беларускага рыцарскага рамана коратка, але вельмі змястоўна напісана ў праграмцы, якая, безумоўна, дапамагае гледачу зарыентавацца ў далёкім старажытным часе. Увогуле гэтаму спрыяюць таксама і афармленне спектакля (зробленае ў сціплавата-змрочных адценнях), і шыкоўныя строі артыстаў (сцэнаграфія і касцюмы Віктара Цімафеева), вершы Міколы Казачонка, а таксама прыгожая, адпаведная атмасферы эпохі музыка ў выкананні гурта "Камелот" (Ігар Война і Зміцер Сідаровіч).

Усе тыя пытанні быцця, якія ставіць старажытны раман, не страцілі сваёй актуальнасці і ў наш час, таму што размова ідзе аб чалавечых пачуццях, аб праблеме выбару паміж абавязкам і каханнем, жыццём і смерцю, здрадай і вернасцю, помстай і чалавечай мудрасцю. У цэнтры ўвагі гледача — Бландоя (артыстка Алена Гудкова), маладая прыгожая жанчына, якую "бацькі аддалі за нялюбага" Гвідона, князя Антоніі (артыст Андрэй Кавальчук), бо так патрабавала палітыка. Ніхто нават і не здагадваецца, што робіцца ў яе душы, душы, якая стамілася жыць без кахання. Нават "шчасця любіць сваё ўласнае дзіця" яе таксама пазбавілі. Бландоя на мяжы адчаю... Адзінае, чаго яна хоча — гэта кахаць і быць каханай. Яна не хацела забіваць мужа, але стала прычынай смерці яго, а той, каго яна так чакала і кахала ўсё жыццё, аказаўся зусім іншым чалавекам, не вартым такога самаахвярнага пачуцця. Бландоя ў любоўнай агоніі ахвяруе нават сваім сынам, бо ёй так загадвае яе любы Дадон (артыст Ігар Сігоў), і яна, як ні жудасна гэта ўсвядоміць, згаджаецца забіць сваё дзіця. У выніку адбываецца трагедыя — Бландоя асуджана ўласным сынам на смерць. "Заложніца" асабістага, з аднаго боку, усепаглынальнага пачуцця і "заложніца" кахання нялюбага — з другога, які не пакідае яе нават пасля смерці — вось тыя два нестыкоўныя паміж сабой палоны, якія захапілі і загубілі яе душу, такую моцную і ў той жа час такую безабаронную.



Нягледзячы на тое, што мастацкі матэрыял цікавы і прыцягвае ўвагу гледача, мне ўсё ж здалося, што артысты, і ўвогуле спектакль, не ўзняліся на тую эмацыйна-псіхалагічную вышыню, якая заяўлена аўтарам п'есы. Безумоўна, увасабленне рамана на сцэне — вельмі складаная справа, таму што ўсё дзеянне адбываецца дзесьці па-за сцэнай і артыстам толькі даводзіцца канстатаваць факты, "загружаючы" гледача велізарнай інфармацыяй, якая проста неабходная, каб хоць крыху зразумець сюжэт. Адсюль, напэўна, схематычнасць створаных вобразаў, іх умоўнасць, адчужанасць. Таму і атрымліваецца, што спектакль — гэта якраз "сцэны" з рыцарскіх часоў (якія часам не стасуюцца эмацыйна адна з адной), а не "трагедыя" жаночага лёсу (а гэта асноўная, на мой погляд, тэматычная лінія), бо да трагедыі спектакль не ўзняўся. Здаецца, што артысты працуюць на "паўжэстах", "паўэмоцыях", "паўстрасцях", і таму складваецца ўражанне, што кожны з іх, шкадуючы свае прафесійныя сілы, хацеў бы і "трагедыю" сыграць і "нервы не папсаваць". Вельмі прыгожая артыстычная знешнасць, прафесійна пастаўленыя галасы, дакладна завучаныя жэсты, такі стандартны акадэмічны надрыў — аднак атмасфера духоўнай еднасці паміж сцэнай і гледачамі адсутнічае. Сцэна кахання (якога Бландоя чакала так моцна і дзеля якога пайшла на ўсё) не ўражвае сваёй эмацыйнай напружанасцю, вельмі схематычная і непераканальная, але ж яе можна было б апаэтызаваць і ўзвесці нават у абсалют. Тое ж самае і са сцэнай развітання маці з сынам Бавай (артыст Анатоль Кот). Проста цяжка сабе ўявіць такую страшэнную сітуацыю, калі сын вымушаны выносіць прысуд маці. І зноў жа ў тых трагічны момант жыцця герояў артысты не знаходзяць патрэбны "градус" эмоцый і апускаюцца да ўмоўнасці. Але ж у гледача павінны ліцца слёзы, калі Бава кажа маці аб тым, што "разам з табой на вогнішчы будзе гарэць і мая душа".

Увогуле спектаклю нестае дынамічнасці, непарыўнага нарастаючага тэмпу, які б трымаў увагу гледача. Выклікаюць цікавасць "Люстэркі" (артысткі Людміла Сідаркевіч і Таццяна Жахоўская), якія ўносяць струменьчык рамантычнасці і ўрачыстасці ў спектакль, а яшчэ цікава, прафесійна і натуральна зробленыя баі (пастаноўка сцэнічнага бою — Ігар Сігоў), якраз яны і нагадваюць гледачу, што размова ідзе аб старажытным часе і перад намі амаль што сапраўдныя рыцары. Магчыма, артыстам яшчэ не хапае ўзросту, а можа нават і вопыту, каб працаваць з такім гістарычным матэрыялам, а магчыма — гэта яшчэ і адсутнасць цікавай рэжысёрскай канцэпцыі ў падыходзе да матэрыялу. Не ведаю. Але ж хочацца спадзявацца, што спектакль яшчэ набярэ моц, знойдзе свайго ўдзячнага гледача. І дай Божа ўсім, хто пабачыць гэты спектакль, стаць "заложнікамі" кахання да артыстаў і іх таленту.



АКВАТОРЫ-Я

Міхась БАШУРА

***Чаму людзі ідуць у тэатр? Відаць, часцей за ўсё, каб акунуцца ў іншы свет, забыць пра свае праблемы, адпачыць ад хуткаплыннага бегу жыцця. І мы ідзем на камедыі, каб зарадзіцца станоўчымі эмоцыямі, ідзем на трагедыі, каб перажываць за іншых. Але чалавек не можа ўвесь час смяяцца, як і не можа ўвесь час плакаць. Наступае момант, калі ад праблем ужо немагчыма схавацца, трэба нешта рабіць, нейк дзейнічаць, трэба задумацца. Менавіта да працы думкі прымушае чорная камедыя "Скарпіён" паводле апавядання Леаніда Андрэева ў пастаноўцы Малога тэатра. Нават толькі цікавы аўтар і цікавы жанр здольны прыцягнуць увагу гледача. Калі ж мы даведаемся, хто з'яўляецца пастаноўшчыкамі спектакля: рэжысёр — Валянціна Еранькова, аўтар інсцэніроўкі і кампазітар — Аляксей Еранькоў, мастак — Веніямін Маршак, і хто іграе ў спектаклі: Аляксей Шэдзька, Ігар Забара, Алена Сідарава, дык становіцца зразумелай прычына цікавасці гледача да пастаноўкі.***

***Пра сакрэт поспеху спектакля гэтая гутарка з Валянцінай Ераньковай.***

# "КАЛІ ЧАЛАВЕК ПРЫЙШОЎ У ТЭАТР, ЗНАЧЫЦЬ У ІМ ЁСЦЬ БОЖАЯ ІСКРА..."



**— Валянціна Рыгораўна, я заўважыў, што ў час спектакля Вы сядзелі побач з асвятляльнікам і падказвалі яму, што трэба рабіць.**

— Святло вельмі важная дэталь, у тэатры нічога няма другаснага. Асвятляльнік Саша наогул не бачыў спектакля, не ведаў, з якога кута хто выходзіць, як стаіць асвятляльная апаратура. Мы ўсе вельмі перахваляваліся... Нам проста пашанцавала, што Саша аказаўся такім таленавітым чалавекам.

**— Ці задаволены Вы спектаклем?**

— У цэлым сённяшнім спектаклем я засталася больш-менш задаволеная: паставіла б "тройку з плюсам". І акцёры, і я ведаем, што нам яшчэ далёка да вялікай "пяцёркі". Вядома, цяжка працаваць, калі няма сваёй пляцоўкі. Карысталіся кожнай хвілінай, кожнай магчымасцю, каб сабрацца на рэпетыцыю. Гэта цяжка і таму, што каманда, якая ставіць спектакль, працуе ў розных тэатрах. А трэба адчуваць спектакль, дыхаць адной кіслароднай маскай.

**— Леанід Андрэеў для Беларусі аўтар малавядомы. Чаму менавіта ён і як вы да яго прыйшлі?**

— У 70-я гады Леанід Андрэеў быў вельмі папулярны. Мы заканчвалі тады інстытут і літаральна зачытваліся ім. А ў пачатку гэтага года так здарылася, што ў мяне быў творчы перапынак. Да дзесяцігоддзя Чарнобыля я разам з нямецкім рэжысёрам Ангелікай Штаўт паставіла спектакль "Памятай", дзе мы былі аўтарамі і рэжысёрамі. Аўтарам праекта спектакля была Вера Багальвінц, дырэктар Інстытута Гётэ ў Мінску, а ажыццявілі яго сумесна з Міністэрствам культуры РБ на базе Маладзёжнага тэатра. З гэтым спектаклем мы былі запрошаны на фестываль ЮНЕСЕФ.

І вось у той час, калі я рыхтавалася да фестывалю, праглядала матэрыялы, да мяне звярнуўся акцёр Рускага тэатра Аляксей Шэдзька і прызнаўся: "Мару аб Леанідзе Андрэеве". Я адказала, што гэта цудоўна, бо я таксама люблю Андрэева і мару аб пастаноўцы. Прачытаўшы прапанаванае апавяданне "Няма даравання", я адразу зразумела, што гэта вельмі цудоўны матэрыял, але не ўяўляла, як перавесці яго на сцэнічную мову. Аднак раніцай прачнулася і зразумела, што буду ставіць гэты спектакль. Увечары патэлефанавала Аляксею Шэдзьку і сказала, што заўтра збіраемся. Мы пагаварылі, што нам цікава ў гэтай працы, як будзем яе рабіць, і пачалі збірацца кожны дзень. Пасля рэпетыцый я прыходзіла да свайго мужа, які перакладаў апавяданне на сцэнічную мову, і казала: "Лёша, пішы пастушную карціну". Потым яшчэ адну і яшчэ. Ад з'яўлення ідэі спектакля і да першай пастаноўкі прайшло ўсяго пяць месяцаў. Гэта вельмі малы тэрмін. У нас не было рэжысёра-пластыка, бо не было грошай, каб заплаціць яму, і мне прыйшлося самой ствараць пластыку спектакля. Дома муж садзіўся за інструмент, а я збірала карабкі з-пад запалак, раскладвала іх на падлозе, рухала і так стварала пластычнае вырашэнне спектакля.

Я памятаю час падрыхтоўкі спектакля як самы цудоўны час. Была вясна, лета... Кажуць, было цудоўнае лета, кажуць... У нас нават не было прагонаў, была толькі адна рэпетыцыя, калі разам сабралі акцёраў, святло і музыку. А яшчэ прыблізна за тры дні да здачы спектакля я паламала ўсю сцэнаграфію і сказала, што будзе ўсё не так. Уявіце карціну: я з малатком поўзаю па лесвіцы і крычу мужу: "Трымай мяне, трымай!" А ён: "Навошта ты ўсё руйнуеш? Мы не паспеем адбудаваць гэта". Усё адбывалася на Малой сцэне Рускага тэатра. Дзякуем Барысу Луцэнку за магчымасць праводзіць рэпэтыцыі на сцэне яго тэатра, ён так добра ставіўся да нас.

Вынік нашай працы мы сёння прапанавалі гледачам, а пра бліжэйшыя планы казаць не буду. Калі пастаўлю, тады скажу.

Мне ізноў хочацца вярнуцца да Леаніда Андрэева. Цікавасць да яго творчасці перыядычна згасала і ўзгаралася. Я першая, хто паставіў Андрэева ў Беларусі. Гэта вельмі цікавы аўтар. Асоба яго выключна нестандартная, арыгінальная.

**— Пра яго жыццё можна асобны спектакль ставіць.**

— Сапраўды, жыццё яго прайшло абсалютна насычана. І што цікава, яго творчасць адпавядае сённяшняму часу. Ён настолькі сучасны, так патрэбны сёння. У любым, нават самым рамантычным спектаклі можна знайсці тое, што адпавядае сённяшняму часу, але неабавязкова крычаць пра набалелае, біць у лоб. Бо ёсць рэчы, якімі можна ўразіць мацней, і напомніць людзям: "Давайце пачнем мяняць свет з сябе!" Зараз жа ў мяне ўсё добра, гэта зрабіў я, а калі дрэнна, дык вінаваты ўсе...

**— Валянціна Рыгораўна, у Вас ёсць мара?**

— Шмат хто імкнецца за мяжу. А я хачу жыць і ствараць тут. І гэта не поза, гэта сапраўды так, гэта шчыра. Божа, я жыву ў такой цудоўнай краіне, я жыву з такім таленавітым народам! Гэта поле, чарназём, кідай толькі зерне... Я заўсёды казала: "Давайце ствараць тут!" Канешне, хочацца і за мяжу паехаць. Але я хачу, каб прыехалі да нас, паглядзелі, убачылі наш талент, наша багацце. Гэта мая самая вялікая мара. Я часта была за мяжой: і на стажыроўку ездзіла, і на гастролі. Я ведаю, як там і як у нас. Адзінае, чаго мне не хапае, гэта пляцоўкі і каманды, з якой можна тварыць. У нас шмат маладых таленавітых акцёраў. Вось Лёша Шэдзька — ён заняты, ці Алена Сідарава, у якой трэба выкройваць долі секунды, каб некх сустрэцца, парэпеціраваць. І Ігар Забара — з'яўляецца мастацкім кіраўніком Малога тэатра. Ну, здаецца, чаго табе не хапае, чалавек? І калі ведаеш, што ёсць такія людзі, хочацца сабраць іх разам і пабудаваць, як Чабурашка, Дом сяброўства. І тады будуць да нас прыязджаць, бо мы таленавітыя людзі. Праўда, ёсць і іншыя, ёсць злосныя. Але, я лічу, і гэта мне гаварыла мая педагог Вера Паўлаўна Рэдліх, калі чалавек прыйшоў у тэатр, значыць у ім ёсць Божая іскра, значыць яму нешта патрэбна, ён нешта шукае. Большасць чалавечых учынкаў матывуецца імкненнем спазнаць, зразумець сябе самога. У фінальнай сцэне "Скарпіёна" галоўны герой задае сабе пытанне, якое хвалюе многіх людзей: "Хто я?" Тэатр дае адказ на гэта пытанне, але ў завуаляванай, алегарычнай форме. І зразумець гэты адказ можа не кожны... Магчыма, адна з прычын, па якой людзі ідуць у тэатр, заключаецца ў жаданні зразумець гэты адказ.

КІТТЫ



# ВЯРТАННЕ МАСТАКА

Галіна ШУР

Беларускае тэлебачанне прадставіла гледачам новую відэастужку "Мастак Барыс Забораў". З'яўленне гэтага фільма выклікае сёння цікавасць па мностве прычын.

Стужка створана на незалежнай кінавідэастудыі "Тацціяна" — сёння, мабыць, адзіным творчым аб'яднаннем, якое без дапамогі дзяржавы працягвае займацца кінематаграфічнай дзейнасцю. Работа над фільмам "Барыс Забораў" доўжылася два гады. За гэты тэрмін прайшлі здымкі мастака ў Парыжы, на Беларусі, у Маскве і адбыўся мантаж карціны. Менавіта апошні працэс заняў асноўны час двухгадовай працы. Але вынік, як кажуць, на экране. Здаецца, ніколі ў нашым мастацтве не з'яўлялася карціны, у якой на экране на самым высокім прафесійным узроўні экраніраваны жывапісныя работы мастака. Разам з выдатным музычна-гукавым афармленнем яны стварылі адметны выяўленча-музычны вобраз.

Стужка прысвечана незвычайнай асобе, мастаку Барысу Забораву, аднойз культавых творчых фігур у еўрапейскім мастацтве. Ён быў вядомым графікам у Мінску, але ў пачатку 80-х з'ехаў з Радзімы. Як тлумачыў Забораў у аўтабіяграфіі, надрукаванай у адным з каталогаў: "Я жыў у краіне ўзорнага таталітарызму, для якой умовай існавання была яе ганебная ідэалогія. Яна пранізвала ўсё жыццё, і ў першую чаргу — мастацтва.

... Я прыехаў у Парыж з шалёным жаданнем пачаць жыццё нанава, з нуля, бо гэты горад рамантычных чаканняў фактычна быў для мяне пустэльняй..."

Ён не згубіўся ў ёй. Французская крытыка назвала яго "адным з буйнейшых мастакоў апошніх двух дзесяцігоддзяў". Не сціхае цікавасць да яго творчасці вядомых музеяў, галерэй, выдавецтваў, калекцыянераў, штогод адбываюцца персанальныя выставы. Але не ўсё так адназначна зразумела ў мастацкім жыцці Заборава. Існуе своеасаблівая "загадка Заборава". Шмат людзей імкнуліся спасцігнуць яго рэзкі пераход ад графікі да жывапісу, прааналізаваць яго незвычайную унікальную мастацкую манеру.

Імкненнем спасцігнуць гэтую загадку і стала кінастужка, створаная яго былымі суайчыннікамі. Творчы склад групы таксама невыпадковы. Рэжысёр карціны Валерый Рубінчык, наш славуты "іграўк". Па яго ўласным прызнанні, менавіта на "Беларусьфільме" ім былі створаны любімыя работы: "Вянок санетаў", "Дзікае паляванне караля Стаха" і іншыя. Рубінчык з'ехаў з Беларусі ў суседнюю дзяржаву, зараз жыве ў Маскве, але апошнія гады зноў здымае ў Мінску. Дарэчы, за час працы над дакументальным фільмам ён зняў таксама на студыі "Тацціяна" мастацкі фільм "Пейзаж з чатырма купальшчыцамі".

Стужка "Мастак Барыс Забораў" — першая спроба работы Рубінчыка ў "суседнім мастацтве", і, як адзначыў рэжысёр, было досыць цікава здымаць не штучную, а "жывую" рэальнасць. Варта адзначыць, што Рубінчык упершыню працаваў з Заборавым яшчэ над карцінай "Дзікае паляванне караля Стаха". Мастак рыхтаваў для фільма "старажытныя" гравюры. Ён не толькі іх намаляваў, але і спецыяльна зафактурыў пад сапраўдныя. Ва ўсякім разе на адным з Міжнародных кінематаграфічных фестываляў здзівіліся, калі даведаліся, што гравюры камуфляжныя.

Аператарам карціны стала наша таленавітая Тацціяна Логінава, якая шмат працавала разам з Валерыем Рубінчыкам. І ў гэтай рабоце яна прадэманстравала свой высокі прафесійны ўзровень. Сам мастак здзівіўся, калі ўбачыў на экране Парыж, зняты Тацціяной.

Засталося прадставіць астатніх удзельнікаў творчай групы. Аўтарамі сцэнарыя былі вопытныя беларускія драматургі Ірына Пісьменная, Элла Мілова і вядомая тэлежурналістка Вера Савіна. Відавочныя заслугі ў гэтай рабоце гукааператараў Уладзіміра Сухадола і Віктара Морса. Стужка мае складаны музычна-гукавы рад. Адначасова выкарыстоўваўся запіс шасці-васьмі плёнак з запісам класічнай музыкі і шматлікіх гукаў, шумоў.

Калі паспрабуем вызначыць жанр фільма "Мастак Барыс Забораў", мы сутыкнемся з цікавай з'явай. Аўтары адмовіліся ад вядомых мадэлей мастацтвазнаўчага і біяграфічнага фільма, а таксама пазбеглі спакусы ствараць чарговы альбомны фільм. Хаця ў новай стужцы ёсць "радавыя" рысы гэтых розных жанраў. Стваральнікі фільма пайшлі сваім арыгінальным шляхам і, здаецца, перамаглі ў барацьбе з кінематаграфічнымі штампамі. Яны адмовіліся таксама ад публіцыстыкі, ад абыгрывання такой тэмы, як уплыў "каранёў" на творчасць мастака ў эміграцыі. У фільме адсутнічае дыктарскі тэкст, без якога амаль не абыходзіцца ніводзін фільм пра жывапіс. Цікава, што ўсе гэтыя тэмы ў фільме прагучалі, але ў візуальным увасабленні. Мы пачулі і каментарый жывапісу Заборава, але з вуснаў мастака Алега Цэлкава і вядомага італьянскага кінадраматурга Таніна Гуэра. Апошні падтрымліваў шмат дзеячаў у эміграцыі, напрыклад, Андрэя Таркоўскага.

Фільм "Мастак Барыс Забораў" — амаль адзіная работа ў нашым кіно, дзе зроблена спроба спасцігнуць унутраны свет мастака, яго асабістае жыццё праз творчасць і асэнсаваць гэта сродкамі кінематографа.

Напрыканцы, дэталь, якая таксама адчуваецца ў фільме. За ўсе гэтыя гады Забораў не намаляваў ніводнага завулачка або мясціны Парыжа. У яго працах — толькі родная Беларусь у розных патаемных праяўленнях.

*На здымку: Барыс Забораў.*

**Фота Георгія ЛІХТАРОВІЧА**

ПАДКІТТЫШ



Добры падарунак юным віцьбянам падрыхтаваў Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Рэжысёр Юрый Лізянгевіч паставіў спектакль "Добры дзень, Новы год!". Сцэнаграфію і касцюмы для казачнага відовішча падрыхтавала Людміла Зіноўева, музыку напісаў Аляксандр Крыштафовіч.

*На здымку: сцэна з казачнага спектакля.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

# СЯРОД СТВАРАЛЬНІКАЎ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

*Ёсць людзі, якія вызначаюць лёс краіны, эпохі, цывілізацыі. Яны прымушаюць зноў і зноў вяртацца да сваёй спадчыны і дабрачынных спраў. Бронза, з якой адліваюцца іх постаці, становіцца самым моцным гравітацыйным матэрыялам сусвету, вакол якога ствараюцца арбіты новых ідэй і праектаў. Сярод такіх прыкладаў жыццё і дзейнасць графа Мікалая Пятровіча Румянцава — вялікага палітыка, асветніка, дзяржаўнага дзеяча, прадпрымальніка. Каб выканаць свой абавязак перад Богам, звычайнаму чалавеку трэба пабудаваць дом і пасадзіць дрэва. А што казаць пра таго,хто пабудаваў горад і вырасціў паркі? Калі дастаткова "выцерці слязінку дзіцяці", то што казаць пра таго,хто спыняў войны? Калі дастаткова сцвердзіць сябе ў невялікай вандроўцы, то што казаць пра таго,хто ў XIX стагоддзі зрабіў рэальнымі падарожжы, якія ў XX стагоддзі гісторыкі параўноваюць з палётамі ў космас? Подзвіг у грамадстве і сацыяльным жыцці заўсёды прымушае ахвяраваць уласным, асабістым. Мікалай Пятровіч не мог сцвердзіць сябе як просты чалавек — ён не здолеў стварыць сям'ю, і са смерцю малодшага брата род Румянцавых перарваўся,хаця засталіся ўдзячныя пакаленні, якія вучыліся па ўведзенай ім ланкастэрскай сістэме. На карце свету ёсць многа назваў, якія носяць яго імя, але Румянцаўская вуліца ў Гомелі да гэтага часу называлася "Савецкай". Айцец Андрэй, які асвячаў толькі што адкрыты ў Гомелі помнік Румянцаву і служыў малебен у яго гонар, сказаў, што дакладна ведае сведак, якія бачылі як з чэрапам графа гулялі ў футбол.*

*Мы заўсёды ствараем вакол асобы міф, ён можа быць праўдзівым, а можа і не. Заўсёды звышасцярожна трэба ставіцца да любых куміраў і ідалаў, і на сваім вопыце гэта добра спазналі беларусы — да гэтага часу наша вайсковая вучэльня носіць імя Суворава. Наколькі тая ці іншая асоба адпавядае свайму арэолу — абсалютна дакладна мы сказаць не можам, бо яшчэ не створана навуковая сістэма, якая дазваляе гэта зрабіць. Што можна казаць пра Румянцава, калі самае грунтоўнае даследаванне пра яго, кніга Валерыя Марозава, не можа з-за фінансавых перашкод пабачыць свет? Але што можна зрабіць — тое робіцца. Так, Румянцаўскае таварыства сяброў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі перыядычна праводзіць навуковыя круглыя сталы, прысвечаныя памяці асветніка. Апошні з іх прайшоў у Гомелі.*

*26 снежня, а шостай гадзіне раніцы (!), нейкім цудам, нягледзячы на адсутнасць грамадскага транспарту, каля Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску сабраліся прадстаўнікі мінскай дэлегацыі Гомельскай канферэнцыі. З гэтага моманту пачаўся двухдзённы інтэлектуальны і духоўны марафон, асвечаны імем Румянцава. Здаецца, гэта быў самы напружаны паводле праграмы форум у маім жыцці. На працягу ўсяго часу не было хвілін ні падсілкавацца, ні выспацца, ні выпаліць цыгарэту. Круглы стол аб'яднаў прадстаўнікоў Кабінета міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры, Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта, вышэй згаданага Румянцаўскага таварыства сяброў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расіі, навуковых і культурных устаноў Мінска, Санкт-Пецярбурга, Масквы. Канферэнцыя ператварылася ў святочны пераднавагодні рытуал. Адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка графу і яго асвячэнне, малебен у гонар асветніка. Асабліва ўразіла наведванне Веткаўскага музея, які акумулюе ў сабе традыцыю старадрука, беларускага арнаменту, абраза. Этапнымі сталі гэтыя дні і для камернага хору салістаў Гомельскай абласной філармоніі: падчас канцэрта перад удзельнікамі форума было ўпершыню абвешчана,штохор перастаў быць ананімным — цяпер ён мае імя "Славянская душа".*

*Матэрыялы канферэнцыі павінны ўхуткім часе з'явіцца ў друку,але, бясконца пракручваючы ленту дыктафона, я ўпэўніваюся, што многае сказанае на канферэнцыі павінна быць як наймага хутчэй надрукавана на старонках "Культуры".*

**Валерый МАРОЗАЎ,**
**кандыдат архітэктуры,**
**дацэнт Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі:**

— Румянцаў марыў пабудаваць горад рускай асветы. І абраў гэтым месцам наш Гомель. Гэта быў унікальны праект XIX стагоддзя. Справа ў тым, што ў тыя часы феадалізм у Заходняй Еўропе загадаў доўга жыць. У Румянцава былі вялікія грошы, якія ён таксама захацеў укласці ў прагрэс. Галоўнае — гэта быў інтэлігентны чалавек. Ён не толькі ствараў бібліятэку, архівы, займаўся калекцыянаваннем, падтрымліваў падарожжы, але і хацеў матэрыялізаваць асноўную сваю мару — на пэўным кавалку тэрыторыі зрабіць ідэальныя ўмовы для жыцця чалавека. Гэта ў яго атрымалася. На жаль, вельмі шмат з пабудаванага ў тыя часы разбурана,



але шмат засталося. Ён арыентаваўся на Францыю, Парыж. У забудове Гомеля можна знайсці прамыя архітэктурныя дублікаты. Пра гэта, на жаль, мала хто ведае. Кажуць, што ён жыў дзесьці "там" і "нешта" будаваў. На самой справе гэта вельмі цікавая праграма: Гомель стаў цэнтрам змены традыцый у архітэктуры і культуры, наогул, розных перыядаў рускай гісторыі.

Справа ў тым, што гэта быў чалавек эпохі рускага асветніцтва, якая існавала напрыканцы XVIII стагоддзя. Ён вучыўся за мяжой і стаў адным з найбольш адукаваных людзей Расіі. Пасля таго як яго бацька маршал Румянцаў памёр, маёнтак перайшоў да яго — Мікалая Пятровіча. Ён вырашае перабудаваць Гомель, які тады быў невялікім мястэчкам нерэгулярнай планіроўкі, амаль выключна драўлянай забудовы. З каменных будынін быў толькі палац. Румянцаў зруйнаваў драўляны горад і на яго месцы спланаваў і пабудаваў новы — мураваны. Ідэі, закладзеныя ім, рэалізаваліся, вядома, з дапамогай архітэктараў: горад у асноўным будаваў англічанін Джон Кларк.

У архітэктуру мураваны Гомель унёс шмат новага. Фактычна ён адкрывае новы этап развіцця рэгулярнага класіцыстычнага, рацыянальна распланаванага горадабудаўніцтва. У адрозненне ад сярэднявечнага, які ўзнік стыхійна, ён быў пабудаваны, так бы мовіць, "в уме". З іншага боку, Румянцаў імкнуўся начыніць гэты горад пабудовамі, якія нагадвалі сусветна вядомыя творы архітэктурнага мастацтва. Так, Петрапаўлаўскі сабор нагадваў царкву Святой Жэнеўевы ў Парыжы, касцёл — асучасненая копія Пантэона, уласны румянцаўскі дом быў копіяй англійскага дома ў графстве Бэтфардшыр, канца XVIII стагоддзя.

У Гомелі было створана шмат новага і ў адукацыі. Румянцаў арганізаваў першую ў Расійскай імперыі ланкастэрскую школу — школу з сістэмай узаемнага навучання вучняў. Спецыяльна для арганізацыі школы быў выпісаны англічанін Джэймс Артур Герд. Пасля гэтая сістэма распаўсюдзілася па ўсёй Расійскай імперыі. Румянцаў збіраўся арганізаваць другі Царскасельскі ліцэй. Але гэта быў канец аляксандраўскіх часоў, калі, як вядома, назіраецца пэўнае ахаладжэнне да асветніцкіх ідэй, і ліцэй не быў створаны. Аднак у Гомелі існаваў шэраг іншых вучэльняў: камерцыйная, духоўная... Румянцаў хацеў стварыць тут ідэальныя ўмовы для жыцця і працы. Таму архітэктура была не пампезная, а строгая, сціплая. У гэтым праявіліся калізіі аляксандраўскага часу, бо першая чвэрць XIX стагоддзя была, так бы мовіць, спартанская. Граф захоўваў у пэўнай ступені роўнасць і іерархію розных канфесій. Так, па значэнні, па архітэктурных вартасцях першым быў праваслаўны храм, пасля каталіцкі касцёл, на трэцім месцы — габрэйская сінагога, на чацвёртым — царква старабрадцаў. Талерантнасць да рэлігій захоўвалася вельмі строга, гэта былі ідэі яшчэ Паўла I (рамантычнага імператара, які хацеў стварыць братэрства людзей на аснове агульнай усярэдненай рэлігіі). Дзякуючы гэтаму людзі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў адчувалі ў сябе Гомелі роўнымі.



Дзейнасць Румянцава супала з пераходным перыядам, калі ў Расіі фактычна заканчваўся феадалізм і пашыраўся капіталізм, таму ініцыятыва чыста культурных праектаў стрымлівалася.

**Віктар МАЛЧАНАЎ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**загадчык сектара Аддзела рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі:**

— Нам уяўляецца, што ў Мікалая Пятровіча Румянцава было салодкае жыццё забяспечанага адукаванага чалавека. Але гэта зусім не так. У яго была цяжкая падзвіжніцкая работа, а падзвіжнікам на Русі заўсёды вельмі цяжка. У Гомелі ён адпачываў душой, таму што менавіта тут прырода, людзі надавалі яму тую энергію, без якой не маглі быць выкананы здзейсненыя ім праекты. Калі мы зараз возьмем усіх тых, хто называў сябе дзяржаўнымі дзеячамі, мецэнатамі, кіраўнікамі, асветнікамі і на адну чашу вагаў пакладзем зробленае імі, а на другую — здзейсненае адным Румянцавым, то зразумеем, што ён зрабіў больш за іх. У той час калі пра гэтага чалавека ўся Еўропа казала, што ён вышэй за Вальтэра і Юма, у Расіі пра яго хадзілі розныя плёткі. Але ёсць крылаты выраз: у нягодніка ёсць адзіны шанец быць набліжаным да вялікіх — гэта паспрабаваць навыдумляць пра яго розных паскудстваў. Румянцаў — найкаларытнейшая фігура міжнароднага і культурнага жыцця Расіі і Еўропы, што адзначаецца не толькі ў нас, але і за мяжой. Выдатная адукацыя і веданне моў прадвызначылі яго выбар: у 24 гады ён быў накіраваны ў Еўропу ў якасці надзвычайнага пасланніка і паўнамоцнага міністра ў Франкфурце-на-Майне пры сейме Свяшчэннай Рымскай Імперыі. У Еўропе ў той час было напружанае становішча — з аднаго боку, напалеонаўскія войны, руска-шведская, руска-турэцкая войны, Вялікая Французская рэвалюцыя, Італьянскі паход Суворава. З іншага боку, інтэлектуальны пад'ём: адкрыцці ў галіне матэматыкі, фізікі, біялогіі, вынаходніцтва паравой машыны, творчасць французскіх асветнікаў, панаванне ідэй Канта, Фіхтэ, Юма. І ў гэтай сітуацыі малады дыпламат не разгубіўся. Супастаўляючы вопыт Расіі з вопытам Францыі і Англіі, ён шукаў адказы ў гісторыі айчыны. Поспехі Румянцава былі заўважаны ў Пецярбургу. У 1792 годзе ён атрымлівае першы ордэн з дэвізам "За труды и Отечество", 30 жніўня 1807 года прызначаецца міністрам замежных спраў, у 1809 — канцлерам, а ў 1810 — старшынёй Дзяржаўнага савета. Ён набыў вялізны міжнародны аўтарытэт, асабліва пасля перамоваў з Напалеонам і пасля падпісання мірнага дагавора Расіі і Іспаніі пра сумесныя дзеянні супраць напалеонаўскай Францыі. Рускае грамадства на мяжы XVIII — XIX стагоддзяў толькі падступала да думкі аб несупадзенні інтарэсаў цара і краіны. Румянцаў быў сярод першых, хто гэта зразумеў. Так, яго адыход у 1812 годзе ад актыўнай дзяржаўнай дзейнасці — не вынік дрэннага здароўя, як памылкова прынята лічыць. Мне надарылася знайсці крыніцы, якія сведчаць, што, не жадаючы праводзіць лінію знешняй палітыкі канцлера Румянцава, Аляксандр I перашкаджаў яму, бо быў звязаны ўласнымі стасункамі з кіраўніцтвам розных дзяржаў. У той жа час, ведаючы міжнародны ўплыў Мікалая Пятровіча, імператар не адважваўся адхіліць яго, каб не паказаць перад Еўропай свайго непаслядоўнага палітычнага курсу. Таму ён, пакідаючы Румянцава фармальна на чале Міністэрства замежных спраў, з 1812 года ўвёў у кіраўніцтва міністэрствам свайго паслугача, аўстрыйскага агента і масона, які дакладваў яму па ўсіх справах дэпартамента. Мікалай Пятровіч не мог працаваць у такіх неспрыяльных умовах і неаднаразова патрабаваў адстаўкі, якую атрымаў толькі ў жніўні 1814 года. Ён не мог супрацоўнічаць з сіламі, якія выклікалі Крымскую вайну, дыпламатычную ізаляцыю Расіі, якія маюць дачыненне да смерці геніяў славянскага пісьменства — Пушкіна, Лермантава, Грыбаедава. Выслабаненне ад дзяржаўнай службы не змяніла прынцыпаў Румянцава. Так, маючы вопыт фінансавання кругасветнага падарожжа Крузенштэрна, Румянцаў фундуе падарожжа на Камчатку, у Паўночную Амерыку. У 1815 годзе забяспечвае экспедыцыю Кацэбу на парусніку "Рурык" для пошуку паўночна-ўсходняга праходу, якая доўжылася 4 гады. Яна здзівіла свет і сучаснікаў. Знакаміты падарожнік Крузенштэрн пісаў, што арганізацыя экспедыцыі Кацэбу (якую англічане лічылі за немагчымую), стварыла Румянцаву сусветную славу. Невыпадкова Кацэбу першыя з адкрытых астравоў назваў імем Румянцава. Мікалай Пятровіч зрабіў неацэнны ўнёсак у гістарыяграфію, палеаграфію, археалогію, этнаграфію. Ён сам ездзіў па Расіі, набываў рукапісы ў Валакаламску, Гомелі, Ржэве, шукаў славянскія надпісы ў Оршы. Шмат новага ў навуку ўнеслі арганізаваныя ім этнаграфічныя экспедыцыі — па Каўказе, Крыме, Прыбалтыйскіх губернях. Ён выдзяляў сродкі на навучанне таленавітай моладзі. У Кіеве на свае грошы ён заснаваў інвалідны дом, Таварыства апекуноў параненых і хворых воінаў пасля 1812 года, толькі гэтаму таварыству ён выдзеліў каля мільёна рублёў, па тых часах каласальныя сродкі. Неацэнны ўклад Румянцава ў стварэнні асветніцкага цэнтра Расіі, які выхаваў шмат дзяржаўных і навуковых дзеячаў, — Румянцаўскага музея. Сучаснікаў вельмі здзіўляла тое, што багаты чалавек, саноўнік — збірае "паперкі", якія многія з іх нават не маглі прачытаць. Разам з тым менавіта гэта стварыла яму сусветную славу. Тое, што Расійская дзяржаўная бібліятэка адна з найбуйнейшых у свеце — перш за ўсё заслуга Румянцава. У прадмове да першага дыпламатычнага збору, які сабрала Румянцаўская акадэмія па ўсёй Расіі (ахоплівае перыяд з XIII па XVII стагоддзі), ён прапаноўваў імператару выдаць збор за свой уласны кошт. Выданне было задумана як "настаўніцельны" дапаможнік, які б спрыяў веданню "ісціннай карысці імперыі ўсерасійскай". У адным з набытых Румянцавым летапісаў ёсць наступная інфармацыя: у час станаўлення славянскай цывілізацыі ад Карпат да Урала толькі за перыяд з 859 года па 1480 (за 621 год) адзначаецца 549 войн. Летапісы, сабраныя Румянцавым, раяць князям не "затевать распрей", якія прыводзілі да згубы свабоды. Прыклад Румянцава — надзея на тое, што і ў наш час з'явяцца вялікія дзяржаўныя мужы і мецэнаты.

**Юрый БОКАНЬ,**
**доктар філасофіі, Прэзідэнт руху гуманітарных сіл Расіі:**

Сёння чалавецтва перажывае крызіс цывілізацыі. Мы ўсе зараз шукаем маякі, факелы, арыенціры, па якіх можна рухацца. Мне здаецца, што памяць вялікага чалавека, пра якога зараз так многа гаворым, — гэта ёсць вялікі гуманітарны арыенцір будучыні. Я магу гэта даказаць навукова, але прывяду толькі тры факты. Толькі што прайшла сусветная канферэнцыя ААН у Рыо-дэ-Жанейра, дзе быў абвешчаны прынцып устойлівага развіцця чалавека, чалавецтва, грамадства ва ўзаемадзеяннях паміж прыродай і грамадствам. Адбылася таксама сустрэча на вышэйшым узроўні ў Капенгагене, прысвечаная сацыяльнаму развіццю чалавецтва. Я думаю, што сёння і ў Гомелі прайшла вялікая па сваёй значнасці канферэнцыя, прысвечаная гуманітарнаму развіццю чалавецтва, таму што Румянцаў быў магутным гуманітарным дзеячам, гуманітарным палітыкам. Нядаўна адбыўся кангрэс у абарону айчыннай культуры ў Маскве, у Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, дзе мы абвясцілі новую гуманітарную палітыку. Прапаную лічыць, што тут, у Гомелі, адбыўся ўстаноўчы сход міжнароднага Румянцаўскага таварыства, заснавальнікамі якога могуць выступіць Румянцаўскае таварыства сяброў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, Гуманітарныя сілы Расіі, грамадскія аб'яднанні Гомеля. 15 снежня ў Маскве адбудзецца міжнародны з'езд Гуманітарных сіл СНД, які працягне гэтую традыцыю.

**Падрыхтаваў Алесь ТУРОВІЧ**
Гомель — Мінск

*На здымках: помнік графу Румянцаву і палац у Гомелі.*

АРХІЎ

# БЕЛАРУСКІЯ САЛАЎІ

## З РОДУ КАРАФА-КОРБУТАЎ

Сутыкнуўшыся ўпершыню са згадкай пра спявачку Наталлю Карафа, міжволі падумаў пра беларускія карані славутай у свой час артысткі, і, канешне ж, на памяць прыйшлі старонкі з кнігі Генадзя Кісялёва "Радаводнае дрэва". Руплівы і дасведчаны літаратуразнаўца ўключыў у кнігу, у падзагалоўку якой пазначана: "Каліноўскі — эпоха — наступнікі", цэлы нарыс "Хто вы, Карафа-Корбуты?". Праўда, пра спявачку Наталлю Карафа там усяго толькі адным-двума штрыхамі. Вось што, у прыватнасці, піша Генадзь Васілевіч Кісялёў: "У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя на оперных сцэнах Пецярбурга і Варшавы выступала (часам з Шаляпіным) вядомая спявачка Наталля Эдуардаўна Карафа (Карыбут). Гэтае "ы" ў сярэдзіне другога прозвішча вельмі турбуе Юрыя Уладзіміравіча, ён лічыць яго памылкай. Хоць, з другога боку, у гісторыі Беларусі і Польшчы былі вядомыя не толькі Корбуты, але і Карыбуты. І ўсё ж, відаць, праўда на баку нашага летапісца. У кнізе "Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период" (1990) паведамляецца пра сувязі гэтай артысткі з Беларуссю: "Не чужым быў Мінск і для вядомай опернай спявачкі Н.Э.Карафа. Тут на Захар'еўскай вуліцы ў доме № 109 жылі яе сваякі Карафа-Корбуты, і сюды спявачка часта прыязджала на адпачынак пасля стамляльных гастрольных паездак". Наталля Эдуардаўна не раз выступала на мінскай сцэне і нават давала ў Мінску ўрокі спеваў". І далей — яшчэ адна згадка-адмеціна, што датычыць Наталлі Эдуардаўны: "Як аказалася, быў прыпісаны да мінскіх Карафа-Корбутаў і вялікі бібліёграф Габрыэль Корбут. У справах сустракаем адпаведныя прашэнні яго бацькі, важнага пецярбургскага чыноўніка, метрычныя выпісы Габрыэля і яго братоў. Дзядзька Габрыэля — надворны, а потым стацкі саветнік Варфаламей Іванавіч стала жыў у Мінску ва ўласным доме на галоўнай — Захар'еўскай вуліцы, нейкі час загадваў мінскімі харчовымі складамі вайсковага ведамства. Напэўна, у яго і спынялася спявачка Наталля Карафа".

Дык чым жа вызначальны яе артыстычны шлях?..

Музычную адукацыю атрымала ў Варшаўскай кансерваторыі. Пасля ўдасканальвала, шліфавала сваё меццо-сапрана ў Парыжы. Настаўнік — М.Маркезі. На опернай сцэне будучая "зорка" дэбютавала ў Італіі ў партыі Зібеля. На працягу шасці гадоў спявала ў Падуі, Палерма, Мілане і іншых італьянскіх гарадах. У Мілане з поспехам выканала галоўную партыю ў оперы "Італьянка з Алжыра" Дж.Расіні. Пазней спявала ў Іспаніі. Наша суайчынніца выступала на сцэнах Барселоны, Аліканта, іншых іспанскіх гарадоў.

А пасля — Варшава, Масква. Вядома, што ў Маскве ў Вялікім тэатры Наталля Карафа спявала ў 1892 — 1893 гадах. У Пецярбургу ж працавала ў 1894 — 1895 гадах. У тагачаснай расійскай сталіцы сумесна з І.Труфі, Ф.Шаляпіным арганізавала таварыства, якое ставіла спектаклі ў Панаеўскім тэатры. У наступныя гады выступала ў Астрахані, Самары, Саратаве, Уфе, Сімбірску, Мінску, Віцебску, Жытоміры, Смаленску, Пярмі, Варшаве. Відавочна, што Айчыну ўвагай не абыходзіла.

Наталля Карафа з'яўляецца першай выканаўцай у Пецярбургу партыі Даліды ("Самсон і Даліла"). Сярод партый, у якіх выключна праявілася выканальніцкае майстэрства нашай зямлячкі — Ваня ("Жыццё за цара" М.Глінкі), Графіня ("Пікавая дама"), Фаварытка, Арсіні, Паж Урбан, Амнерыс, Азучэна, Маддалена, Кармэн.

У розныя гады партнёрамі Наталі Карафа былі М.Агулін, С.Бухавецкі, А.Давыдаў, Я.Любін, І.Томарс, ды і сам Ф.Шаляпін.

Біяграфічныя звесткі пра спявачку з роду Карафа-Корбутаў увайшлі ў дзевяты выпуск "Слоўніка сцэнічных дзеячаў", выдадзены ў 1902 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Але, на вялікі жаль, няма дакладнай падказкі пра гады жыцця Наталлі Эдуардаўны. Ды ўсё адно лёс яе не згубіўся. І сярод усіх Карафа-Корбутаў ёсць у спявачкі сваё прыкметнае месцейка.

## АЛЬТУЦІ З СЯМ'І ПОЛАЦКАГА РАМЕСНІКА

Перм. 80-я гады мінулага стагоддзя. У горадзе працуе музычна-драматычны гурток. Канцэрты з гуртоўцамі ладзіць і С.Дзягілеў. Ён — сціплы акампаніятар юных спевакоў. Пройдуць гады — і Дзягілеў стане выдатным расійскім тэатральным дзеячам. А што ж гуртоўцы? Адзін з іх — Саша Альтшулер — выйдзе ў оперныя артысты, будзе займацца рэжысурай, педагагічнай дзейнасцю. Колішняе хлапчанё з сям'і простага рамесніка аб'ездзіць усю Расію. У гонар гаспадара выключнага па свайму бас-барытону голасу будуць гучаць самыя праніклівыя і шчодрыя авацыі ў залах Казані, Астрахані, Екацярынбурга, Варонежа, Іркуцка, Саратава, Адэсы, Баку, Растова, Харкава... Ды ўсё яшчэ наперадзе. Пакуль жа падлетак вяртаецца з заняткаў. Сам сабе напявае любімыя арыі, у думках пераўвасабляецца ў музычныя вобразы. Ужо хлапчанём ён — будучы майстар сцэны, які часам выступаў пад псеўданімам Альтуці, — ведаў характары, шматаблічнае, шматфарбнае дзеянне опер "Цар і цясляр", "Кармэн", "Севільскі цырульнік", іншых твораў, што выхоўвалі і фарміравалі густы, сімпатыі слухачоў.

А што ж Беларусь, ці памятаў пра яе юны спявак?.. Саша Альтшулер нарадзіўся ў Полацку Віцебскай губерні. У сакавіку 1870 года. І да пяці гадоў жыў на беларускай зямлі. Маючы ад прыроды выключны музычны слых, будучы спявак вызначаўся тонкай, успрымальнай натурай. Пазней, праз многія гады, музыказнаўца А.Пружанскі сфармулюе такую лаканічную характарыстыку творчых здольнасцей Аляксандра Альтшулера: "Валодаў добрым голасам прыемнага тэмбру, прыроднай музыкальнасцю. Свабодна трымаўся на сцэне і быў выдатным характарным акцёрам".

Канешне ж, настраёвасць, характар, пачуццёвасць голасу дапамагла сфарміраваць і полацкая духоўная аўра. Відаць, не аднойчы таленавітае дзіця рамесніка прыходзіла да Сафійскага сабора. Шлемавідныя купалы не маглі не ўразіць хлапчаня. Зірнеш на іх — быццам акраец сонейка ўзняўся перад вачыма, падняўся над гарызонтам. І званы...

*Яму ў Полацку празвоняць*
*ютрань рана*
*ў званы ў святое Сафіі,*
*а ён той звон чуе ў Кіеве.*

У Пярмі Аляксандр браў першыя ўрокі спеваў у вядомага педагога Кабеллы. Па тым часе (а жыў Альтшулер на другой сваёй радзіме да 1888 года) і Перм уяўляла сабою багаты на культурнае жыццё горад. Фактычна — сталіца Перадуралля. Праўда, дзіўны па тым часе герб займеў горад на Каме. Вось апісанне сімвала ці, хутчэй, партрэта-сімвала Пярмі: "У чырвоным полі сярэбраны мядзведзь, на каторым пастаўлена ў залатым абкладзе Евангелле, над ім сярэбраны крыж, якія азначаюць: першае — дзікія норавы мясцовых жыхароў, а другое — асвету праз прыняцце Хрысціянскага закону".

Калі падлеткам (у 10 — 11 гадоў) Саша Альтшулер бегаў на бераг Камы, ён мог сустрэцца тут і з пісьменнікам Караленкам. Уладзімір Галакціёнавіч знаходзіўся ў Пярмі ў высылцы. У пачатку 80-х гадоў у духоўнай семінарыі вучыўся і вядомы празаік Дз. Мамін-Сібірак.

У 1888 годзе Альтшулер пры матэрыяльнай падтрымцы пермскай грамадскасці ад'язджае ў Маскву. Пачынаецца прафесійнае навучанне спевам у Музычна-драматычным вучылішчы (класы Франкецi, А.Барцала, Ю.Махінай). Што датычыць Антона Іванавіча Барцала, чэха па нацыянальнасці, то юнаму спеваку з настаўнікам проста пашчасціла. За плячыма ў Барцалы мелася багацейшая практыка. Выступаць чэшскі спявак пачаў у Вене ў 1867 годзе. У 1870 дэбютаваў на расійскай сцэне.

У кастрычніку 1874 года выступаў у оперы "Фауст" на сцэне Пецярбургскага Марыінскага тэатра. У 1903 Барцал атрымаў ганаровае званне "заслужаны артыст імператарскіх тэатраў". На сцэне Вялікага тэатра Антон Іванавіч у якасці галоўнага рэжысёра паставіў 48 опер. Сваё бачанне, асэнсаванне вобразаў Барцал а імкнуўся перадаць і вучням.

Закончыўшы вучылішча, Саша Альтшулер, 23-гадовы спявак, дэбютуе пад прозвішчам Альтуці ў маскоўскай італьянскай оперы. Працуе поплеч з Л.Собінавым. У 1894 — 1912 гады спявае на оперных сцэнах Казані, Астрахані, Екацярынбурга, іншых гарадоў. Спрабуе свае сілы і ў іншых сферах музычнай дзейнасці. У 1909 — 1910 гадах утрымлівае антрэпрызу ў Екацярынбургу. З 1898 займаецца і рэжысурай (у 1906 — у Казані, з 1912 — у Екацярынбургу, Пярмі, Саратаве). Ужо пасля кастрычніка ў 1920 — 1924 гадах з'яўляецца галоўным рэжысёрам Харкаўскага опернага тэатра. Пасля працуе ў Свярдлоўску і Пярмі. Сярод пастановак Альтшулера — "Царская нявеста", "Князь Сярэбраны", "Серп і молат", "Аіда", "Жыдоўка", "Даліна", "Кармэн". Апошняя з опер упершыню ў Екацярынбургу стала вядомай якраз дзякуючы пастаноўцы Альтшулера.

Займаўся Аляксандр Якаўлевіч і выкладчыцкай дзейнасцю. У 1926 — 1928 гадах — у Харкаўскім інстытуце музычнай культуры, прафесар, кіраўнік опернага класа. А пасля — у Маскоўскім музычным тэхнікуме імя М.Мусаргскага (1928 — 1930). А было Альтшулеру па тым часе 60 гадоў. Век ужо сталы. Савецкі ўрад адзначыў працу Аляксандра Якаўлевіча ордэнамі: у 1923 — "Герой працы", у 1937 — "Знак Пашаны".

А з 1930 года заслужаны артыст Украінскай ССР і РСФСР працаваў суфлёрам Вялікага тэатра ў Маскве. Памёр там жа, у белакаменнай, у 1950 годзе. Шкада, што вось толькі наш зямляк амаль не пакінуў аб сабе ніякіх успамінаў. Толькі невялічкі матэрыял — найболей пра іншых — быў надрукаваны ў "Советском артисте" ў 1938 годзе — "Як мы жылі раней". І ўсё. У нас жа, на Беларусі, знакамітага суродзіча з Полацка нават не згадваюць у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# ДАРАДЦА АГІНСКАГА

***У жыцці славутага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага застаецца шмат малавядомых старонак, якія ён сарамліва абмінуў у сваіх успамінах. Да прыкладу, ён удзельнічаў у працы гродзенскага сейма 1793 года ў якасці вялікага літоўскага падскарбія. Каб уратаваць Рэч Паспалітую ад падзелу паміж Прусіяй і Расіяй, Агінскі ўвайшоў у склад сеймавай дэпутацыі, якая 22 ліпеня саступіла частку беларускіх зямель пад вечнае панаванне царскай Расіі. Узамен Кацярына II дазволіла ўладкаваць ацалелую тэрыторыю. Агінскі нават прапанаваў адпаведны праект новай Канстытуцыі. Перамовы вяліся праз расійскага пасла графа Якава Сіверса. Менавіта з ім Агінскі вёў перапіску на французскай мове, якая дапамагае зазірнуць за шырмы здрадніцкага сейма. Гэта вельмі каштоўныя дакументы, і іх зместам мы зараз карыстаемся дзякуючы перакладу спадарыні Людмілы Варанковай.***



Граф Якаў Сіверс.

Адзін з лістоў Сіверс даслаў Агінскаму 14 ліпеня 1793 года літаральна за два дні да сваёй пагрозы вайны за адхіленне жаданых крэатур у склад сеймавай дэлегацыі. "Я напісаў два тыдні назад пану генерал-аншэфу (неразборліва. — **А.Я.**) у Вільна просьбу, каб скарб Літвы прадставіў звесткі аб тым, дзе знаходзяцца землі маршалка Людвіка Тышкевіча. Вышэйпамянёны скарб адмовіўся іх даваць без вышэйшага дазволу. Таму прашу Вас, Ваша светласць, загадаць гэтым гаспадарам не стварэць на будучыню цяжкасцяў у падобным выпадку; бо пан можа паставіць вартавых да скарбу і не выпушчаць членаў скарбу да той пары, пакуль не будуць задаволеныя такія простыя патрабаванні і якія скарб здольны задаволіць без турботы. Я прашу Вашу светласць даслаць да мяне належны загад, які я адпраўлю з пасланцам. Баюся, што хутка мне спатрэбіцца спіс асоб, выпрабоўваючых маю цярпівасць і забываючых аб сваёй Радзіме. Спадзяюся, што Ваша светласць лічыцца з тым, што адбываецца ў дэпутацыі".

А там кіпелі жарсці: лепш не ваяваць, а аддаць землі добраахвотна, лепш уступіць, чымсьці дачакацца секвестру і рабункаў уласных маёнткаў. Агінскі лічыўся з гэтым, як і з уласнай адказнасцю за ўхваленне ганебнага трактата. Таму ён стараўся самаўхіліцца ад сеймавых праблем, да якіх Сіверс вяртаў яго ў лісце ад 18 жніўня. "Вось ужо 8 дзён я ў чаканні Вашага звароту (з родавага маёнтка. — **А.Я.**). Калі нешта здарылася з Вашым здароўем, то я буду вельмі засмучаны, але я павінен прасіць Вас, пане, адважыцца выканаць гэтае падарожжа, бо Ваша прысутнасць вельмі неабходная: хутка будзе разглядацца пытанне аб фінансах".

Гаворка вялася аб выдатках на дзяржаўныя органы, армію. Пры дзяржаўных даходах у 6,3 мільёна злотых адны даўгі караля дасягалі 33 мільёнаў. Кацярына II абавязалася сплаціць толькі тры мільёны з дзесяцімільённага доўгу Рэчы Паспалітай у галандскіх банках. Літоўскі скарб ацэньваўся у 2,3 мільёна злотых, тады як войску патрабавалася 4 мільёны. Тут з'явілася прапановы прадаць каралеўскія эканоміі (уладанні), але гэта азначала пусціць яго вялікасць з жабрацкай торбай. Тады надумалі задаволіць караля з мытных даходаў. І вось Сіверс 29 жніўня тлумачыць Агінскаму, што "абставіны, якія прымусілі мяне жадаць, каб выплата даходаў караля была прыпынена, на шчасце, перасталі існаваць. Я прашу, Ваша светласць, загадаць скарбу Літвы выплаціць Яго Вялікасці ўсе без выключэння нядоімкі, якія яму належаць, да 1 верасня. Паколькі вылічэнне рахункаў мытні дагэтуль выконвалася толькі ў сярэдзіне кастрычніка, тады скарб можа аплаціць каралю некаторыя рахункі, каб вывесці яго са складанага становішча ў адносінах да скарачэння ўтрымання. Лічу таксама сваім абавязкам паведаміць Вашай светласці, што пан (неразборліва. — **А.Я.**) збіраецца заняцца цывільным спісам (штатам утрымання грамадзянскіх уладаў. — **А.Я.**) і хутка прызначыць камісію, каб улагодзіць справу з каралеўскімі даўгамі. Належыць спыніць аплату, якая раней выконвалася ў верасні. Я буду вельмі ўдзячны Вашай светласці, калі яна паведаміць мне аб суме, якая вернецца каралю ў якасці нядоімак".

Улагодзіць караля азначала павялічыць фінансавыя бедствы 12-тысячнага літоўскага войска. "Адзіна правільнае рашэнне, пане граф, — пісаў Сіверс 12 верасня Агінскаму, — гэта адкласці марш гвардзейскага палка хаця б да лютага. Усе грошы, якія будуць знаходзіцца ў скарбе, павінны прызначацца толькі арміі і на яе скарачэнне, але я хацеў бы ведаць, колькі скарб вінаваты арміі. Жадаю шчаслівага падарожжа". Літоўскі скарб быў вінаваты войску 1,3 мільёна злотых. Афіцэры ўжо хваляваліся з-за скарачэння. Гэтыя справы сталіся такой балючай і валакітнай праблемай, што 1 снежня 1793 года Сіверс даводзіў літоўскаму падскарбію наступнае: "Разважаючы наогул над становішчам рэспублікі і ў прыватнасці аб вычарпанні скарбу і патрабнасці, каб скарачэнне ў абодвух войсках (польскім і літоўскім. — **А.Я.**), дэкрэтаванае дзяржавамі і сабранымі на сейме, рабілася як мага хутчэй, я лічу сваім абавязкам прасіць Вашу светласць загадаць скарбу, старшынёй якога Ваша светласць з'яўляецца, не выплочваць аніякага жалавання арміі да той пары, пакуль пастаянны савет (пры каралі. — **А.Я.**) не вырашыць, якой брыгадзе або палку патрэбна заплаціць, каб выканаць вышэйназванае скарачэнне. У той жа час я павінен прасіць Вашу светласць паскорыць, наколькі гэта ў Вашай уладзе, законным шляхам платы, якія запазычыў скарб. Гэта сапраўдная паслуга, якая будзе аказана няшчаснай Айчыне (!), лёс якой хвалюе маё сэрца".

Сіверс "клапаціўся" пра лёс краіны, распараджацца якой сеймавая дэпутацыя адпісала без звароту царскаму паслу. Тэрытарыяльныя страты прынеслі змяншэнне даходаў. Наш кампазітар слухаў каманды Сіверса, каму і на што даць грошы. Як відаць, апошняя парада была — не плаціць войску. Таму войску, якое хутка паўстане супраць здраднікаў і царскіх паслугачоў. Агінскі апынецца сярод іх. Час наканаваў яму выбіраць — жыццё або смерць. Пра гэта сведчаць прыведзеныя лісты. Агінскі іх не проста трымаў і чытаў — ён выконваў і рэалізоўваў іх.

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# TV-ПРАГРАМА

## Аўторак, 14 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.10** Абібок.
**8.45** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
**9.00** Гісторыя Беларусі. 9-ы клас. Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.
**9.25** Педагагічны экран. Адукацыя дзяцей, хворых на цэрабральны параліч у дзіцячым садзе № 65 г. Мінска.
**10.10** «Следства вядуць Калабкі». Выкраданне стагоддзя». Мультфільм.
**10.30** Тураб'ектыў.
**10.55** «Трапічная спёка». 33-я серыя, заключная.
**11.55** Чацвёртае вымярэнне. Пераплёт.
**12.15** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
**13.00—13.10** Навіны.
**15.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**15.10** Усё пра ўсё. Праграма для дзяцей.
**15.35** «Шыварат-навыварат». Мультфільм.
**15.45** «Насустрач». Музычная праграма для старшакласнікаў.
**16.20** Гісторыя Беларусі. 6-ы клас. Рэлігія і культура старабеларускіх зямель у X—XIII стагоддзях.
**16.50** «Будзьце здаровы».
**17.00** Музычны антракт.
**17.10** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.45** Эканамікст.
**18.00** Навіны.
**18.15** Віктар Лану ў маст. фільме «Клан» (Францыя). 1-я серыя.
**19.15** Тэма дня.
**19.30** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**19.35** «Радавод». Калядныя гульні ў вёсцы Гайна Лагойскага раёна.
**19.50** «Прэм'ера». Дак. фільм «Мой Мінск».
**20.30** Музычны антракт.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.50** «Паўнеба». Маст. фільм (Іспанія).
**23.50** «Я люблю джаз». Канцэрт з удзелам піяніста Даніла Крамера (Масква) і «Мінск-джаз-клуба».
**0.20** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны.
**11.15** «У пошуках капітана Гранта». 1-я серыя.
**12.20** Смехапанарама.
**12.50** «Апошні пялёстак». Мультфільм.
**13.15** Брэйн рынг.
**14.00** Навіны.
**14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша». Мультсерыял.
**14.45** Квар'етэ. «Вясёлая кампанія».
**14.55** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, або Сінема.
**15.40** «Карын і яе сабака». Серыял.
**16.10** ...Да шаснаццаці і старэйшым.
**16.35** «Вакол свету».
**17.00** Навіны.
**17.15** «Новая ахвяра». Серыял.
**18.05** Надвор'е.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня.
**19.00** У пошуках страчанага.
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Лідзія Смірнова і Іван Пераверзеў у фільме «Маё каханне».
**22.25** Навіны.
**22.35** Хакей. «Дынама» (Масква) — «Славан» (Браціслава).
**0.00** Прэс-экспрэс.
**0.20** Праграма перадач.

### Расія

**7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.15, 9.55, 15.25, 23.50** Тавары — поштай.
**7.25** Рэтра-шлягер.
**7.55** Шоу даўганосікаў.
**8.25** «Клубнічка». Тэлесерыял.
**9.00** «Санта-Барбара».
**9.45—10.15** Мультфільм.
**13.25** «Дочкі Калеба. Эмілі». Тэлесерыял (Канада). 1-я і 2-я серыі.
**15.05** Крок за крокам.
**15.15** «Востраў». Мультфільм.
**15.30** Ваша права.
**16.15** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
**16.55** Там на невядомых дарожках.
**17.40** «Клубнічка». Тэлесерыял.
**18.10** Момант ісціны.
**18.40** Асабліва важныя персоны.
**19.35** Шоу даўганосікаў.
**20.10** «Санта-Барбара».
**21.05** Надвор'е.
**21.10** Добры вечар з Ігарам Угольнікавым.
**22.30—24.00** «Айчыне служым». Канцэртная праграма.

### НТБ

**5.00** Сёння раніцай.
**9.15** Ранішняя «Часінка».
**9.30** Жаночыя гісторыі. «Доктар Куін. Жанчына - ўрач» (ЗША).
**10.30, 17.30** Праграма для дзяцей «Вуліца Сезам».
**11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**12.00** Адкрыты свет.
**13.20** Вялікая «Часінка».
**15.35** Дыстанцыя 60.
**16.35** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм.
**18.00, 21.00** Сёння вечарам.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Маст. фільм «Даставіць па назначэнню» (ЗША).
**21.40, 23.20** Часінка.
**22.00** Гадзіна серыяла. «Паліцыя Нью-Йорка» (ЗША).
**23.00** Сёння апоўначы.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Інфарм ТБ.
**12.10** «Гісторыя кахання». Серыял.
**13.00** Тэрмін адказу — сёння.
**13.25** Парады садаводам.
**13.35** «Варасібе Тэдэя». Тэлефільм-казка.
**14.10** «Забойны аддзел». Серыял.
**14.55** «Як казакі кулеш варылі». Мультфільм.
**15.15, 20.45** Тэлеслужба бяспекі.
**15.25** Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
**16.10** «Чарадзей». Маладзёжны серыял.
**16.05** «Паласатая музыка», «Там, дзе жыве Павуціныч».
**17.00** Да 60-годдзя народнага артыста Расіі Я. А. Лебедзева «Пакуль ідзе спектакль».
**17.40** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.25** «Гісторыя кахання». Серыял.
**20.15** Храм.
**21.00** «Забойны аддзел». Серыял.
**21.55—0.05** «Гісторыя наша». Спектакль АВДТ імя Г. А. Таўстаногава.

### ТБ6

**6.00** Шэсць навін.
**6.10** Дыск-канал.
**6.40** Мультсерыял «Д'Артаньгаў і тры псы-мушкецёры». 9-я серыя.
**7.10** Дарожны патруль.
**7.20** Рэцэпты ад «Цэптэр».
**7.25** 90х60х90.
**7.45** Аптэка.
**8.00** Шэсць навін.
**8.10** Тэлеканкрэтна.
**8.25** Шоу яды «Пальчыкі абліжаш».
**8.55** Мультфільм.
**9.10** Клуб адзінокіх сэрцаў.
**9.40** Вы — відавочца.
**10.10** Аптэка.
**10.20** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
**11.00** Меладрама «Павесы».
**12.55** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
**13.05** 90х60х90.
**13.20** Мультсерыял «Д'Артаньгаў і тры псы-мушкецёры». 10-я серыя.
**13.50** Шэсць навін.
**14.00** Кінатэатр ТБ-6. Георг Отс у аперэце «Містэр Ікс».
**15.40** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
**16.10** Серыял «Гатовы ці не».
**16.35** Дыск-канал.
**16.55** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
**17.15** Аптэка.
**17.25** Дарожны патруль.
**17.35** Прыватны выпадак.
**18.00** Гумарыстычны канал. «Грэйс у агні III». 7-я і 8-я серыі.
**19.00** Шэсць навін.
**19.10** Ток-шоу «Прафесія»: Рэжысёр тэатра.
**20.05** Шэсць навін.
**20.20** Серыял «Вавілон-5».
**21.10** Тыя Хто.
**21.35** Серыял «Кобра». 13-я серыя.
**22.25** Мультфільм для дарослых.
**22.45** Шэсць навін.
**23.00** Дарожны патруль.
**23.15** Дыск-канал.
**0.00** Знак якасці.
**0.20** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»

### 8-ы канал

**18.00** Для дзяцей «Лятаючы дом».
**18.30** Маст. фільм «Выйгрыш адзінокага камерсанта».
**20.15** Мульт-планета.
**20.30** Дакументальны фільм «Трэцяя Айчынная».
**21.30** Музыка на тэлеканале.
**22.00** Маст. Фільм «Ставіскі — вялікі махляр».

## Серада, 15 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.10** Вертыкаль. Праблемы аграрнай рэформы.
**8.40** «У старой скрыні», «Шкоднік». Мультфільмы.
**9.00** Гісторыя Беларусі. 6-ы клас. Рэлігія і культура старабеларускіх зямель у X—XIII стагоддзях (паўтор.).
**9.30** «Два словы ў пісьме». Дак. фільм.
**10.20** «Клан». Маст. фільм (Францыя). 1-я серыя.
**11.20** «Час аркестра». Музычная праграма з удзелам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.
**12.00** Відзьма-нявідзьма.
**13.00—13.10** Навіны.
**15.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**15.10** Існасць. «Калядкі».
**15.35** «Тры таўстуны». Мультфільм.
**16.10** Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
**16.30** «Востры вугал». Прававы тэлечасопіс па пісьмах гледачоў.
**17.00** Музычны антракт.
**17.10** «Калі выбіраеш гімнастыку, выбіраеш лёс». Дак. фільм.
**17.45** Эканамікст.
**18.00** Навіны.
**18.10** Рэклама.
**18.15** «Клан». Маст. фільм (Францыя). 2-я серыя.
**19.15** Тэма дня.
**19.30** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**19.35** «Пазнай сябе». Псіхолага-кансультатыўная праграма. Тэма: «Прафесія і асоба». Прамая лінія.
**20.05** «Прэм'ера». Дак. фільм «Горад, намаляваны восеньскім святлом».
**20.25** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.30** Аўта-парк.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.50** Ксенія Качаліна ў маст. фільме «Дзікае каханне».
**23.50** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны.
**11.15** «У пошуках капітана Гранта». 2-я серыя.
**12.20** Смехапанарама.
**12.47** Мультфільмы.
**13.15** Брэйн-рынг.
**14.00** Навіны.
**14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша». Мультсерыял.
**14.45** Кактус і К.
**14.55** До-мі-соль.
**15.10** Кліч джунгляў.
**15.40** «Карын і яе сабака». Маладзёжны серыял.
**16.10** ...Да шаснаццаці і старэйшым.
**16.35** «Вакол свету».
**17.00** Навіны.
**17.15** «Новая ахвяра». Серыял.
**18.05** Надвор'е.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня.
**19.00** Перадача Уладзіміра Познера «Чалавек у масцы».
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Камедыя «Вяселле ў Малінаўцы».
**22.35** Яўген Лебедзеў у фільме-спектаклі «Гісторыя каня».
**0.55** Прэс-экспрэс.
**1.15** Праграма перадач.

### Расія

**7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.15, 9.55, 0.05** Тавары — поштай.
**7.25** Рэтра-шлягер.
**7.55** Наталля Варлей у праграме «Бочка мёду».
**8.25** «Клубнічка». Тэлесерыял.
**9.00** «Санта-Барбара».
**9.45—10.15** «Вітамін росту». Мультфільм.
**13.20** «Дочкі Калеба. Эмілі». 3-я і 4-я серыі.
**15.00** Тэлетэатр. Ф. Карысці. «Чароўнае крэсла».
**15.25** Экспавеснік.
**15.30** Спосаб жыцця.
**16.15** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
**16.55** Там на невядомых дарожках.
**17.40** «Клубнічка». Тэлесерыял.
**18.10** Сацыяльна-эканамічны агляд.
**18.40** Асабліва важныя персоны.
**19.35** Наталля Варлей у праграме «Бочка мёду».
**20.10** «Санта-Барбара».
**21.05** Надвор'е.
**21.10** Добры вечар з Ігарам Угольнікавым.
**22.30** «Яўгеній Лебедзеў». Да 80-годдзя з дня нараджэння.
**23.10** «Гукавая дарожка».

### НТБ

**5.00** Сёння раніцай.
**9.15** Ранішняя «Часінка».
**9.30** Жаночыя гісторыі. «Доктар Куін. Жанчына - ўрач» (ЗША).
**10.30, 17.30** Праграма для дзяцей «Вуліца Сезам».
**11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**12.00** Адкрыты свет.
**13.20** Вялікая «Часінка».
**15.35** Дыстанцыя 60.
**16.35** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм.
**18.00, 21.00** Сёння вечарам.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Маст. фільм «Фанаты» (Італія).
**20.40** «Ало! Фіма».
**21.40, 23.20** Часінка.
**22.00** Гадзіна серыяла. «Паліцыя Нью-Йорка» (ЗША).
**23.00** Сёння апоўначы.
**24.00** Кіно не для ўсіх. Маст. фільм «Гуляем «Зомбі», ці Жыццё пасля бітваў».

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.10** «Гісторыя кахання». Серыял.
**12.55** Тэрмін адказу — сёння.
**13.25** Парады садаводам.
**13.35** «Кагуяхімэ». Тэлефільм-казка.
**14.10** «Забойны аддзел». Серыял.
**14.55** «Як казакі іншапланецян сустракалі». Мультфільм.
**15.15, 20.45** Тэлеслужба бяспекі.
**15.25** «Асабістая справа». Г. Арлоў.
**16.10** «Чарадзей». Маладзёжны серыял.
**16.35** «Чорны кот». Мастацка-публіцыстычная праграма.
**17.05** Храм.
**17.35** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**18.15** Спорт.
**19.25** «Гісторыя кахання». Серыял.
**20.15** «Пажывём-пабачым». Відэафільм. 5-я серыя.
**21.00** «Забойны аддзел». Серыял.
**22.05** Падзея.
**22.20** Спартыўны агляд.
**22.30—22.55** «Дварцовыя тайны». Дак. серыял.

### ТБ6

**14.00** Кінатэатр ТБ-6. Гісторыя Дзяржавы Расійскай «Гуляшчыя людзі». 1-я серыя.
**15.15** Знак якасці.
**15.35** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
**16.10** Серыял для падлеткаў «Гатовы ці не». 28-я серыя.
**16.35** Дыск-канал.
**17.00** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
**17.15** Аптэка.
**17.25** Дарожны патруль.
**17.35** Прыватны выпадак.
**18.00** Гумарыстычны серыял «Грэйс у агні III». 9-я і 10-я серыі.
**19.00** Шэсць навін.
**19.10** Ток-шоу «Я сама»: «Мой муж пайшоў у секту».
**20.05** Шэсць навін.
**20.15** Фантастычны баявік «Вавілон-5». 41-я серыя.
**21.05** Тыя Хто.
**21.30** Суперфутбол. Суперкубак «Пары Сен-Жэрмен» (Францыя) — «Ювентус» (Італія). (23.15 Шэсць навін).
**23.20** Дарожны патруль.
**23.30** Дыск-канал.
**0.15** Знак якасці.
**0.35** Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»

### 8-ы канал

**18.00** Для дзяцей «Лятаючы дом».
**18.30** Маст. фільм «Аднойчы схлусіўшы».
**20.15** Мульт-планета.
**20.30** Маст. фільм «Цёрты калач».
**21.45** Паліскоп.
**22.00** Маст. фільм «Смерць і дзяўчына».

## Чацвер, 16 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.10** Аўта-парк.
**8.20** Вяскоўцы. Будчанскія калядкі.
**8.50** «Няхай жыве Сервац!» Маст. фільм з субцітрамі.
**9.55** Тэлебом-баль.
**10.40** Госці ў хату.
**11.10** «Клан». Маст. фільм (Францыя). 2-я серыя.
**12.10** «Галасы мінуўшчыны». Старадаўняя музыка на Беларусі.
**12.45** «Кнігі і кветкі». Дак. фільм.
**13.00—13.10** Навіны.
**15.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**15.10** Беларуская літаратура. 10 клас. В. Дунін-Марцінкевіч і яго камедыя «Пінская шляхта».
**15.50** Арсенал. Прымае ўдзел намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі, генерал-маёр Ю. Л. Сівакоў.
**16.20** Запрашаем на вячоркі. «Шчодры вечар» на Аршаншчыне.
**17.00** Музычны антракт.
**17.10** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.45** Эканамікст.
**18.00** Навіны.
**18.15** «Клан». Маст. фільм 3-я серыя.
**19.15** Тэма дня.
**19.30** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**19.35** Крэда. Праграма для дзелавых людзей.
**20.00** «Оскар». Тэлегульня.
**20.30** Музычны антракт.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.45** «Тэлебарометр». Надвор'е.
**22.05** «Віла «Архідэя». Маст. фільм.
**23.35** «Крок». Праграма для моладзі.
**0.05** Навіны.

### ГРТ

**8.00** Навіны.
**8.15** «Новая ахвяра». Серыял.
**9.05** Перадача Уладзіміра Познера «Чалавек у масцы» на Першым канале.
**9.45** Клуб падарожнікаў.
**10.35** Смак.
**11.00** Навіны.
**11.15** «У пошуках капітана Гранта». 3-я серыя.
**12.20** Смехапанарама.
**12.47** Мультфільмы: «Храбры заяц», «Навагодняя ноч».
**13.15** Брэйн рынг.
**14.00** Навіны.
**14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша». Мультсерыял.
**14.45** Лего-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.40** «Карын і яе сабака». Серыял.
**16.05** Рок-урок.
**16.35** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў».
**17.00** Навіны.
**17.15** «Новая ахвяра». Серыял.
**18.05** Надвор'е.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.30** Джэнтльмен-шоу.
**19.00** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Камедыя «Афрыканец».
**22.40** Навіны.
**22.50** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.
**23.40** Прэс-экспрэс.
**0.00** Праграма перадач.

### Расія

**7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.15, 9.55, 0.25** Тавары — поштай.
**7.25** Рэтра-шлягер.
**7.55** Сам сабе рэжысёр.
**8.25** «Клубнічка».
**9.00** «Санта-Барбара».
**9.45—10.15** «Акадэмік Іваноў». Мультфільм.
**13.20** «Дочкі Калеба. Эмілі». 5-я і 6-я серыі.
**15.00** На парозе веку.
**15.25** Экспавеснік.
**15.30** Клуб губернатараў.
**16.15** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
**16.55** Там на невядомых дарожках.
**17.40** «Клубнічка».
**18.10** Момант ісціны.
**18.40** Асабліва важныя персоны.
**19.35** Сам сабе рэжысёр.
**20.10** «Санта-Барбара».
**21.05** Надвор'е.
**21.10** Добры вечар з Ігарам Угольнікавым.
**22.30** Баскетбол. ЦСКА—«Альба» (Германія).
**23.30—0.35** Блак-нот.

### НТБ

**5.00** Сёння раніцай.
**9.15** Ранішняя «Часінка».
**9.30** Жаночыя гісторыі. «Доктар Куін. Жанчына — урач» (ЗША).
**10.30** Праграма для дзяцей «Вуліца Сезам».
**11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**12.00** Адкрыты свет.
**13.20** Вялікая «Часінка».
**15.35** Дыстанцыя 60.
**16.35** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм.
**17.30** Футбольны клуб.
**18.00, 21.00** Сёння вечарам.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Наша старое кіно. Маст. фільм «Верныя сябры».
**20.50** «Недацёпы» Сямёна Альтава.
**21.40**, 23.20 Часінка.
**22.00** Гадзіна серыяла. «Паліцыя Нью-Йорка» (ЗША).
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.40** Свет кіно. Маст. фільм «Папрыка» (Італія).

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.10** «Гісторыя кахання». Серыял.
**13.00** Парады садаводам.
**13.40** «Асабняк Полаўцава». Тэлефільм.
**14.10** «Забойны аддзел». Серыял.
**14.55** «Не трэба баяцца прывідаў». Мультфільм.
**15.10, 20.45** Тэлеслужба бяспекі.
**15.25** Парадоксы гісторыі. «Акадэмічная справа».
**16.10** «Чарадзей». Маладзёжны серыял.
**16.35** Тэатральная правінцыя?..
**17.00** Іржавыя праўды.
**17.35** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Гісторыя кахання». Серыял.
**20.15** «Асабістая справа». Андрэй Пятроў.
**21.00** «Забойны аддзел». Серыял.
**22.05** Падзея.
**22.20** Спартыўны агляд.
**22.30—23.15** Дом кіно. «Штрыхі да партрэта сябра».

### ТБ6

**6.10** Дыск-канал.
**6.40** Мультсерыял.
**7.10** Дарожны патруль.
**7.20** Рэцэпты ад «Цэптэр».
**7.25** 90х60х90.
**7.45** Аптэка.
**8.00** Шэсць навін.
**8.10** Прыватны выпадак.
**8.25** Гумарыстычная праграма.
**8.45** Дак. серыял.
**9.15** Серыял «Вавілон-5».
**10.10** Аптэка.
**10.20** Тэрыторыя ТБ-6.
**11.00** Маст. фільм «Хлопец і яго сабака».
**12.45** Тэлемагазін.
**13.05** 90х60х90.
**13.20** Мультсерыял.
**13.50** Шэсць навін.
**14.00** «Гуляшчыя людзі». 2-я серыя.
**15.10** Знак якасці.
**15.30** Тэлемагазін.
**16.10** Серыял «Гатовы ці не».
**16.35** Дыск-канал.
**16.55** Тэлемагазін.
**17.15** Аптэка.
**17.25** Дарожны патруль.
**17.35** Прыватны выпадак.
**18.00** Серыял «Грэйс у агні III».
**19.00** Шэсць навін.
**19.10** Ток-шоу «Зрабі крок».
**20.05** Шэсць навін.
**20.15** Серыял «Вавілон-5».
**21.05** Тыя Хто.
**21.35** Серыял «Кобра». 14-я серыя.
**22.20** Мультфільм для дарослых.
**22.45** Шэсць навін.
**23.00** Дарожны патруль.
**23.15** Дыск-канал.
**0.00** Знак якасці.
**0.20** Тэлемагазін.

### 8-ы канал

**18.00** «Лятаючы дом».
**18.30** Маст. фільм «Двое на голай зямлі».
**20.15** Мульт-планета.
**20.30** Маст. фільм «Дзесяць негрыцянят». 1-я серыя.
**21.30** Рок-футбол.
**22.30** Маст. фільм «Клептаманія».

# TV-ПРАГРАМА

## Пятніца, 17 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Прагноз надвор'я.
8.20 «Яшчэ не вечар...» Сустрэча з сям'ёй Кругловых.
8.35 «Скарб ката Леапольда». Мультфільм.
9.00 Беларуская літаратура. 10-ы клас. В. Дунін-Марцінкевіч і яго камедыя «Пінская шляхта».
9.40 Цыркавая праграма.
10.30 «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.
11.00 «Клан». Маст. фільм (Францыя). 3-я серыя.
12.00 «Зорная ростань». Гомельска-Гродзенскі тур. Перадача 3-я.
12.40 Люстэрка. Праграма для жанчын.
13.00—13.10 Навіны.
15.00 Навіны (з сурдаперакладам).
15.10 Творцы. Паэтэса Таццяна Лапцёнак.
15.30 «Наваколле». Экалагічная праграма.
16.00 Кантрасты. Прававая праграма.
16.30 Шанц. Інфармацыйна-аналітычная праграма па пісьмах гледачоў.
17.00 Музычны антракт.
17.15 Канцэртны сезон. Ансамбль старадаўняй музыкі.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны.
18.15 «Клан». Маст. фільм. 4-я серыя.
19.15 Тэма дня.
19.30 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
19.35 Міжнародны кур'ер.
20.00 Творцы. Акцёр Віталь Быкаў.
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 «Здрада галубкі». Маст. фільм (ЗША).
23.30 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
24.00 Навіны.

### ГРТ

8.00 Навіны.
8.15 «Новая ахвяра». Серыял.
9.10 Праграма «Мая сям'я».
9.50 Пакуль усе дома.
10.25 Іграй, гармонік любы!
11.00 Навіны.
11.15 «У пошуках капітана Гранта». 4-я серыя.
12.20 Смехапанарама.
12.47 Мультфільм.
13.25 Брэйн рынг.
14.00 Навіны.
20 Мультфільм.
.45 Фільм-казка. «Новыя прыгоды капітана Урунгеля».
16.05 ...Да шаснаццаці і старэйшым.
16.25 Прэм'ера. Магія: свет звышнатуральнага.
17.00 Навіны.
17.20 «Новая ахвяра». Серыял.
18.11 Надвор'е.
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Спакойнай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Праграма перадач.
20.45 Вялікія сышчыкі: Каломба ў дэтэктыве «Яд ад дэгустатара».
22.15 Погляд.
23.00 Навіны.
23.10 Маст. фільм «Золата».
0.45 Прэс-экспрэс.
1.05 Праграма перадач.

### Расія

7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15 Крок за крокам.
7.25 Рэтра-шлягер.
7.55 L-клуб.
8.25 «Клубнічка». Тэлесерыял.
9.00 «Санта-Барбара».
9.45 «Як страціць вагу». Мультфільм.
9.55--10.15 Тавары — поштай.
13.25 «Дочкі Калеба. Эмілі». 7-я і 8-я серыі.
15.00 Дыялогі пра жывёл.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Арэна для сенсацый.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там на невядомых дарожках.
17.40 «Клубнічка». Тэлесерыял.
18.10 Вертыкаль.
18.40 Асабліва важныя персоны.
19.35 L-клуб.
20.10 «Санта-Барбара».
21.05 Надвор'е.
21.10 Добры вечар з Ігарам Угольнікавым.
22.30 «Верабасіяда». Маст. фільм.
0.10--0.40 Начны экспрэс.

### НТБ

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Мультсерыял «Дыназаўрык па імені Дзінк» (ЗША). 2-я серыя.
9.30 Тэлегульня «Зразумей мяне».
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм «Тарзан» (ЗША). 3-я серыя.
10.45 Мультфільм «Упершыню на арэне».
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Хакей. Чэмпіянат Расіі. «Спартак» — «Лада».
14.30 «Панарама» з В. Аўчыннікавым.
16.00 Кніжны магазін.
16.30 Мультсерыял «Чалавек-павук». 9-я серыя «Чужы касцюм» (ЗША).
17.00 Гадзіна «Ч».
17.30 Дак. серыял. «Крымінальная Расія: сучасныя хронікі».
18.00, 21.00 Сёння вечарам.
18.30 Камедыйны серыял. «Справы смешныя. Справы сямейныя».
19.00 Кіно 80-х. Маст. фільм «Піры Валтасара», ці Ноч са Сталіным».
20.45 Лялькі.
21.45 Свет кіно. Маст. фільм «Філадэльфія» (ЗША).
23.40 Трэцяе вока.
0.25 Начны канал. «Плейбой-шоу».

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 «Гісторыя кахання». Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.25 Парады садаводам.
14.10 «Забойны аддзел». Серыял.
14.55 «Дабрадушны прывід». Мультфільм.
15.10, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
15.25 Ток-шоу «Наўздагад».
16.10 «Чарадзей». Маладзёжны серыял.
16.35 Паласатая музыка.
16.50 Закулісее. «Папялушка-50 і вечна —16».
17.35 Паказвае Ленінградская АТК.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.25 «Гісторыя кахання». Серыял.
20.15 «Без назвы». Гумарыстычная праграма.
21.00 «Забойны аддзел». Серыял.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 Як быць каханымі.
22.55—23.30 Хакей. СКА (СПБ) — «Авангард» (Омск).

### ТБ6

6.00 Шэсць навін.
6.10 Дыск-канал.
6.40 Мультсерыял. «Д'Артаньгаў і тры псы-мушкецёры». 11-я серыя.
7.10 Дарожны патруль.
7.20 Рэцэпты ад «Цэптэр».
7.25 90х60х90.
7.45 Аптэка.
8.00 Шэсць навін.
8.10 Прыватны выпадак.
8.25 Ток-шоу «Маё кіно» з Віктарам Мярэжка.
9.15 Серыял «Вавілон-5».
10.10 Аптэка.
10.20 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
11.00 Кінатэатр ТБ-6. Баявік «Хлопцы з вострава».
12.55 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
13.05 90х60х90.
13.20 Мультсерыял «Д'Артаньгаў і тры псы-мушкецёры». 12-я серыя.
13.50 Шэсць навін.
14.00 Кінатэатр ТБ-6. Гісторыя Дзяржавы Расійскай. «Гуляшчыя людзі». 3-я серыя.
15.45 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
16.00 Дарожны патруль.
16.10 Кінатэатр ТБ-6. Камедыя «Шчаслівы няўдачнік».
17.40 Аптэка.
18.00 Вы — відавочца.
18.30 Шэсць навін.
18.40 Кінатэатр ТБ-6. «Тэгеран-43». 1-я і 2-я серыі.
21.35 Клуб «12 капеек».
22.00 Шэсць навін.
22.10 Кінатэатр ТБ-6. Трылер «Паза законам».
23.35 Дарожны патруль.
23.50 Дыск-канал.
0.40 Знак якасці.
1.00 Тэлемагазін.

### 8-ы канал

18.00 Для дзяцей «Лятаючы дом».
18.30 Маст. фільм «Прыгоды Івокі». 1-я серыя.
20.15 Мульт-планета.
20.30 Маст. фільм «Дзесяць негрыцянят». 2-я серыя.
21.30 «Рынг».
22.00 Маст. фільм «Душагуб».

## Субота, 18 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Навіны.
8.10 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
8.15 «Рэгіён». Перадача з Брэста.
8.44 Рэклама.
8.45 Здароўе. Рэзервовыя магчымасці чалавека.
9.20 Урокі Наталлі Наважылавай.
9.50 «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
10.15 «Марыца». Маст. фільм паводле аперэты І. Кальмана.
11.25 «Правінцыя». Бешанковіцкі раён.
11.55 Рэспубліканскі турнір па міні-футболу на прызы Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рэспублікі Беларусь.
12.30 Бон тон. Тэлечасопіс моды.
13.00 Калаж. Праграма для дзелавых людзей.
13.35 Аўтарскі канцэрт паэта-песенніка А. Лягчылава. (У перапынку — 15.00 — навіны).
16.30 Шматгалоссе. Татарская суполка ў г. п. Мядзель.
17.15 Зорная ростань. Гомельска-Гродзенскі тур. Перадача 4-я.
17.55 Рэспубліканскі турнір па міні-футболу.
18.30 Галерэя. Фотамайстар Юрый Васільеў. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай.
19.00 Музычная абойма. Вынікі тыдня.
19.20 Іна Чурыкава і Расціслаў Янкоўскі ў маст. фільме «Рабро Адама».
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
21.45 Кевін Костнер у маст. фільме «Няма выйсця» (ЗША).
23.35 Відзьма-нявідзьма.

### ГРТ

7.00 Прыгодніцкі фільм «Поезд па-за раскладам».
8.20 Прэм'ера мультсерыяла «Камп'ютэрныя войны-2».
8.45 Хатняя бібліятэка.
9.00 Навіны.
9.10 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.30 Не зявай!
10.00 Ранішняя пошта.
10.35 Смак.
10.55 Вяртанне Траццякоўкі. Гісторыя аднаго шэдэўра.
11.25 Алена Проклава і Аляксандр Калягін у меладраме «Збянтэжанасць пачуццяў».
12.50 Наталля Андрэйчанка і Павел Ведзяняпін у пілотнай праграме «Паехалі!» Выпуск 2-гі.
13.30 Відавочнае—неверагоднае.
14.00 Навіны.
14.20 «Саюзмультфільм» прадстаўляе: «Ну, пачакай!» (Вып. 11-ы). «У некаторым царстве».
15.10 «Акно ў Еўропу». Вядучы — Д. Кісялёў.
15.40 У свеце жывёл.
16.15 Леанід Якубовіч у тэлегульні «Кола гісторыі».
17.00 Навіны.
17.20 Надвор'е.
17.25 «Снежныя дарожкі». Мультфільм.
17.35 «Каламбур». Гумарыстычны часопіс.
18.05 «Залатая серыя». Юрый Нікулін у фільме «Да мяне, Мухтар!»
19.45 Спакойнай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.50 Праграма перадач.
20.55 У гонар Аркадзія Райкіна.
22.35 «Калекцыя Першага канала». Фільм Жана Люка Годара «Страсць».
0.20 Праграма перадач.

### Расія

7.00 «Прыгоды Пінокіо». Мультфільм. 1-я серыя.
8.00 Юныя віртуозы.
8.30 Тэлечасопіс «Здароўе».
8.40 «Уцёкі з Юпітэра». Дзіцячы серыял.
9.30 Па вашых пісьмах.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.30 Парламенцкі тыдзень.
11.15 «Чуеўскія пакуты». Відэафільм.
11.35 «Чэленджэрс». Тэлесерыял для падлеткаў.
12.30 Ананімныя субяседнікі.
13.00 Весткі пра...
13.20 «Сент-Экзюперы. Апошняе заданне». Маст. тэлефільм. 1-я серыя.
14.45 Руская дарога.
14.15 «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». Праграма Я. Еўтушэнкі.
15.20 У свеце жывёл.
15.55 «Цёмная» для С. Ястржэмбскага.
16.10 Тэлетэатр. «Успаміны пра сярэбраны век».
16.45 Бясконцае падарожжа.
17.15 «Фільм, фільм, фільм». Мультфільм.
17.35 Тэлескоп.
18.15 Багема.
19.00 Весткі.
19.35 «Карнавальная ноч-2».
21.40 Надвор'е.
21.45 Мітусня вакол раяля.
22.15 Рэпарцёр.
22.30 Праграма «А».
23.25—1.00 «Завадатар мафіі». Маст. фільм (ЗША).

### Санкт-Пецярбург

9.45 «Фаліянт». Кніга — поштай.
9.55 Па рацэ плыве сякера.
10.25 «Гонар маю». Ваенны агляд.
10.55 «Неўтаймаваная Афрыка». Дак. серыял.
11.25 Ток-шоу «Наўздагад». Г. Хазанаў.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
12.10 Тэлевізійны тэатр Розы Сіроты.
14.10 Яшчэ адна Расія.
14.45 Руская сядзіба.
15.10 Спартыўны агляд.
15.25 Студыя «Уяві», «Ад і да...» Адказы на пісьмы.
16.05 Сакрэтная размова з групай «Сакрэт».
16.35 «Лата-бінга».
17.35 Паказвае Ленінградская АТК.
18.40 Вялікі фестываль.
19.25 «Зімовая раніца». Маст. фільм (Расія).
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
21.50 «Парад парадаў» прадстаўляе групу «Ліцэй».
22.30 Экспрэс-кіно.
22.55—0.30 «Я — актрыса». Маст. фільм (Расія).

### НТБ

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Вуснамі немаўляці.
9.30 Тэлегульня «Зразумей мяне».
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм «Тарзан» (ЗША). 4-я серыя.
10.45 Мультфільм «Цімошкіна ёлка».
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Хакей НХЛ. Матч усіх зорак.
14.30 Тэлегульня «Свая гульня».
16.00 Наша новае кіно. Маст. фільм «Аферысты».
17.30 Дак. серыял. «Крымінальная Расія: сучасныя хронікі».
18.00 Сёння вечарам.
18.30 Камедыйны серыял. «Справы смешныя. Справы сямейныя».
19.00 Серыял па выхадных. «Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя» (ЗША).
20.00 Вынікі.
21.10 Свет кіно. Маст. фільм «Эксперымент «Філадэльфія-2» (ЗША).
23.00 Лепшыя цыркі свету. «Цыркавыя прыгоды».

### ТБ6

6.00 Шэсць навін.
6.10 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
7.00 Шэсць навін.
7.15 Дарожны патруль.
7.25 Дыск-канал.
8.00 «Цэптэр-клуб».
8.15 Серыял аб прыродзе. «Амерыканскія ўзвышанасці». Частка 3-я.
9.10 «Том, Джэры і іх сябры». Мультфільмы.
10.05 Праграма для дзяцей «Гэта мы не праходзілі!»
10.35 Дзіцячы сеанс. «Канёк-гарбунок».
11.45 Адкрыцці тыдня.
12.20 Кінескоп.
13.25 Дыск-канал «Спецыяльна з любоўю!»
14.00 Ток-шоу «Я сама»: Мой муж пайшоў у секту.
14.55 Ток-шоу «Прафесія»: «Рэжысёр тэатра».
15.50 Клуб адзінокіх сэрцаў.
16.20 Серыял па выхадных. «Таямнічы востраў». 9-я і 10-я серыі.
17.10 Парыж, Парыж.
17.40 Кінападрабязна.
18.00 Шэсць навін.
18.10 ОСП-студыя.
19.00 Сатырычны кіначасопіс «Фіціль».
19.10 Кінатэатр ТБ-6. Парад чэмпіёнаў. «Чалавек-амфібія».
21.00 Шэсць навін.
21.15 Шоу Івана Дзямідава «Абоз».
22.05 Кінатэатр ТБ-6. Род Стайгер у баевіку «Сусед».
23.50 Дарожны патруль.
0.05 Дыск-канал. Група «Два самалёты».
1.15 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»

### 8-ы канал

15.00 Маст. фільм «Прыгоды Івокі». 2-я серыя.
16.45 Для дзяцей «Лятаючы дом».
17.15 Жыццё адно.
18.30 Спартыўная праграма «У пошуках снегу».
19.30 Мульт-планета.
20.00 Маст. фільм «Каўказскі палоннік».
21.45 Паліскоп.
22.00 Hi-Fi-music.
22.30 Маст. фільм «Незнішчальны шпіён».

## Нядзеля, 19 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 «Спорт і адкрыцці».
8.20 «Ёсць край адзін». Дак. фільм студыі «Летапіс».
8.30 «Конан». 55-я серыя.
8.55 «Тэлебом». Шоу-конкурс юных выканаўцаў.
9.35 Студыя «Калыханка». «Уся справа ў капелюшы».
10.10 «Усё нармальна, мама!»
10.40 Тураб'ектыў.
11.00 Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
11.30 «Цыркі свету». Кітайскі дзяржаўны цырк на гастролях у Вялікабрытаніі.
12.50 «Наконадні будучыні», «Востраў натхнення», «Тэлекшоу».
13.45 Вяршыня свету. Тэлегульня.
14.15 «Вайна ў паветры». 22-я серыя.
14.40 Гісторыя кахання. Сям'я архітэктараў Кавалеўскіх.
15.00 Навіны.
15.10 Тэатр у фатэлі.
15.50 Музычны антракт.
16.00 «Калі ж пойдзе снег?» Відэафільм рэжысёра Л. Тарасавай.
17.05 Абібок.
17.40 Бенефіс народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Марыі Захарэвіч.
18.30 Рэспубліканскі турнір па міні-футболу. Фінал (прамая трансляцыя).
19.35 Рэклама.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Навіны-ТБ.
21.30 Ток-шоу «Карамболь» з удзелам Аляксандра Саладухі.
22.05 Ванеса Рэдгрэйв і Крыстафер Рыу ў маст. фільме «Бостанцы» (ЗША) (Бетакам-SP).
23.40 «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.

### ГРТ

7.00 Фільм-казка «Фініст — ясны сокал».
8.15 Мультфільмы нашага дзяцінства: «Федзя Зайцаў», «Ненаглядны дапаможнік», «Боцман і папугай». 1-ы выпуск.
9.00 Навіны.
9.15 «Бесталковыя заметкі» Дзм. Крылова.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Служу Расіі!
11.30 Іграй, гармонік любы!
12.00 Рускі свет.
12.30 Серыял «Падводная адысея каманды Кусто». «На поўдзень, да агню і лёду».
13.25 Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян.
14.00 Навіны.
14.20 Антоніо Вівальдзі, джазавы вакал і прафесар Юрый Башмет у праграме «Запрашэнне да музыкі».
15.10 Клуб падарожнікаў.
15.55 Неяк раз.
16.05 Мультфеерверк: «Ружовая пантэра», «Прыгоды Вудзі і яго сяброў».
16.50 «Адзін на адзін». Вядучы — А. Любімаў.
17.35 Надвор'е.
17.40 Шчаслівы выпадак.
18.30 КВЗ-асарці.
19.00 Час.
19.35 Праграма перадач.
19.40 Прэм'ера. Меч і каханне ў краіне самураяў. Прыгодніцкі фільм «Сегун».
21.30 Футбольны агляд.
22.00 Памяці маэстра. Марчэла Мастраяні ў фільме «Усё ў парадку».

### Расія

7.00 «Прыгоды Пінокіо». Мультфільм. 2-я серыя.
8.00 Лата-мільён.
8.15 «Уцёкі з Юпітэра». Дзіцячы серыял.
9.05 Добрай раніцы, краіна! Музычная праграма.
9.45 Прысяга.
10.15 Рускае лата.
10.55 Прыз групы «Сава».
11.00 «Я табе нічога не скажу».
11.10 «Куды крочыць». Крылаты барс».
11.35 «Чэленджэрс». Тэлесерыял для падлеткаў.
12.30 Чалавек на Зямлі.
13.00 Весткі.
13.20 «Сент-Экзюперы. Апошняе заданне». 2-я серыя.
14.20 Урача выклікалі?
14.50 Вечны рухавік.
15.15 Сад культуры.
15.45 Нічога, акрамя...
16.00 «Крануты», «Аладзін».
17.00 Увесь свет.
17.40 Мужчына і жанчына.
18.35 Караоке па-руску.
19.00 Люстэрка.
20.00 Рэпартаж ні аб чым.
20.10 Надвор'е.
20.15 «Цудоўная незнаёмка». Маст. фільм (Польшча—Расія).
21.50 «Абзац».
22.45 «Ва ўсіх на вуснах». Праграма Наталлі Дар'ялавай.
23.00 У Ксюшы.
23.30—23.40 Рэк-тайм.

### Санкт-Пецярбург

8.35 Гаючае слова.
9.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.35 Казка за казкай.
10.10 Авертайм.
10.35 «Неўтаймаваная Афрыка». Дак. серыял.
11.05 «Бусляня і пудзіла». Спектакль Чэлябінскага тэатра лялек.
11.55, 13.25, 15.55, 18.55 Адваротны адлік.
12.10 Хакей. СКА(СПБ) — «Рубін» (Цюмень).
14.15 Яшчэ адна Расія.
15.05 Оперная сенсацыя. Алег Рабец.
15.30 «Пакуты па класіцы». Канцэрт «Церам-квартэта».
16.05 Спартыўная праграма.
16.35 «Паласатая музыка», «Казка за казкай».
17.25 «Раўняецца каханне». Адказы на пісьмы.
17.35 Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
18.40 Скарбы Пецярбурга. «Сімвалы міру». Частка 2-я.
19.20 «Захачу — пакахаю». Маст. фільм (Расія).
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноу смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.20 «Паглядзім». Анонс тэлепраграм.
22.35—0.05 Мікеле Плачыда ў маст. фільме «Атэль «Кляйнхоф» (Італія).

### НТБ

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Свет прыгод і фантастыкі. Я. Яўсцігнееў, А. Філозаў, В. Гафт у фільме «Чорная курыца, ці Падземныя жыхары».
10.30 Тэлегульня «Зразумей мяне».
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Куміры старога кіно. Ніколь Курсель і Луі дэ Фюнес у фільме «Тата, мама, служанка і я» (Францыя).
13.40 Музычная праграма «НТБ-плюс».
14.00 Дак. фільм «Дзікая прырода». Фільм 3-ці (Вялікабрытанія).
16.00 Тэлегульня «Ключы ад форта Байяр» (Францыя).
17.30 Тэлегульня «Сто да аднаго».
18.00 Сёння вечарам.
18.30 Рускі дэтэктыў. А. Міхайлаў і Ю. Сілаева ў фільме «Насуперак усяму».
20.00 Вынікі.
21.10 Свет кіно. Маст. фільм «Пяшчотная мішэнь» (Францыя).
22.50 «Вім-Біл-Дан»-96». Каралі малака, кефіру і ражанкі сустракаюцца с зоркамі эстрады.

### ТБ6

6.00 Шэсць навін.
6.10 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
7.00 Шэсць навін.
7.15 Дарожны патруль.
7.25 Дыск-канал.
8.10 Мультсерыял «Омер».
8.45 «Згубіўся слон».
10.00 Шоу яды «Пальчыкі аблізаш».
10.35 Гумарыстычная праграма.
11.00 Серыял «Амерыканскія ўзвышанасці». Частка 4-я.
11.45 Канон.
12.15 «Чай-клуб».
12.45 Шоу «Абоз».
13.40 Ток-шоу «Зрабі крок».
14.30 Спорт тыдня.
15.00 Мультфільмы.
15.55 Серыял «Таямнічы востраў». 11-я і 12-я серыі.
16.50 Шэсць навін.
17.00 Ток-шоу «Маё кіно» з Аляксандрам Алейнікавым.
17.45 Тэлеканкрэтна.
18.00 Дарожны патруль. Зводка за тыдзень.
18.20 Аналітычная праграма «Аглядальнік».
19.05 Сатырычны кіначасопіс «Фіціль».
19.20 Кінатэатр ТБ-6. «Кошка на распаленым даху».
22.00 «Шоу Бені Хіла».
22.30 Тэледыскатэка.

### 8-ы канал

15.00 Мультфільм.
16.45 Маст. фільм «Ахвяра падману».
18.00 Музычная праграма.
19.00 Мульт-планета.
19.30 Маст. фільм «Цёмная тэрыторыя».
21.00 Экспертыза.
21.30 Навіны «К-відэа».
22.00 Маст. фільм «Джынджэр і Фрэд».

## ТВОРЧАЯ КУХНЯ

# МАРЫНА НОВІКАВА: "Я ЗАСТАЮСЯ СУЧАСНАЙ ЖАНЧЫНАЙ"

***Амаль два гады мінула з таго часу, як з экранаў "Астанкіна" зніклі дыктары і дыктаркі. Спачатку ў кадры з'яўлялася нешта тыпу пераключальніка і металічны голас лязгаў словы, якія раней мы чулі ад Ніначак, Арын і іншых мілых, усмешлівых прыгажунь і прыгажуноў. Потым мы ўбачылі некаторых з іх ужо ў іншых ролях, але Таццяна Ведзянеева з экрана знікла, а Валянціна Пячорына працуе вядучай у ЗША на тэлебачанні, а Марына Бурцава — на тэлебачанні ў Ізраілі. Кажуць, што, улічваючы еўрапейскі вопыт (у Італіі, Францыі ад дыктараў не адмовіліся, так што гэта — не толькі савецкая з'ява, як нейкі час сцвярджалі "тэлевізійныя" тэарэтыкі), дыктараў зноў будуць паказваць і мы не толькі іх пачуем, але і ўбачым...***

Здаецца, якая нам справа да гэтых замежных праблем? У нас, дзякаваць Богу, тэлевізійны дзень пачынаецца і заканчваецца па-ранейшаму з сустрэчы ў эфіры з жывым чалавекам, які ўсміхаецца нам з блакітнага экрана і вітае або развітваецца цёплымі словамі павагі ды падзякі. Цяжка ўявіць сабе экран без гэтых людзей, якія заўсёды прыгожыя, усмешлівыя і, галоўнае, валодаюць добрай беларускай мовай. Некаторы час хваля "барацьбы" з дыктарамі пагражала накрыць і наша тэлебачанне, але захаванне старых традыцый іншы раз ідзе на карысць справе.

У дыктарскай групе Беларускага тэлебачання, якую ўзначальвае любімая ўсімі беларускімі тэлегледачамі абаяльная Зінаіда Бандарэнка, усяго адзінаццаць чалавек. І пра кожнага можна і, напэўна, трэба сказаць цёплыя словы. Але хай не крыўдуюць на нас калегі Марыны Новікавай, сёння — яна гаспадыня "творчай кухні" нашай газеты.

Такім чынам, у кадры дыктар Марына Новікава, якую ў адной з газет, паводле яе ўласных словаў, назвалі "магільшчыцай" Савецкага Саюза. Ужо шырока вядомая гісторыя пра тое, што Марына першая паведаміла суайчыннікам інфармацыю пра вынік Белавежскай сустрэчы. Але я вырашыла звярнуцца да асобы Марыны Новікавай не толькі з нагоды 5-годдзя гэтай даты. Дарэчы, сама Марына прызналася, што адчуць гістарычнасць моманту перашкаджала пачуццё няёмкасці, бо яна была "ў глыбокім дэкальтэ".

Нейкі час нам давялося працаваць разам. Будзем лічыць яе запрашэнне ў "К" запрашэннем на знаёмстве. Я амаль два гады была на Беларускім тэлебачанні ў ролі своеасаблівай "прафурсеткі". Гэта калі з тымі тэкстамі выступае "ад сябе" іншы чалавек. І вось перыяд, калі ў кінапраграме "Сінема" перад дэманстрацыяй фільмаў мае тэксты агучвала Марына, я ўзгадваю з задавальненнем, хаця былі розныя моманты, калі мае аўтарская амбіцыі сутыкаліся з яе прафесійнымі. Але яна даволі арганічна існавала ў невялічкай перадачы. Мяне таксама ўразілі яе адносіны да мовы і стылю. Інакш кажучы, я з задавальненнем была Марынінай прафурсеткай і нават ужо пісала тэксты, арыентуючыся на яе індывідуальнасць. На жаль, яе замянілі, на тэлебачанні тады праходзіла хваля розных рэфармаванняў. Мне асабіста падаецца, што гэтае рашэнне было не самае ўдалае.

Яна — адукаваны інтэлігентны чалавек... З музычнай адукацыяй. Першая яе прафесія — канструктар-тэхнолаг, другая — філалагічны факультэт БДУ.

**— Ці дапамагаюць табе ўсе твае прафесіі або перашкаджаюць?**

— Калі паспрабаваць усё перавесці ў лічбы, дык, безумоўна, дапамагаюць. Мы па-ранейшаму выбіраем сабе і вопратку, і імідж, якія складаюцца з мноства кампанентаў, і тут дапамагае мая першая прафесія. Філалагічная адукацыя дала захапленне мовай, я літаральна загараюся, калі бачу нейкі новы слоўнік... Мяне цікавяць розныя моманты ў мовазнаўстве. Можа б іншы раз і не нервавалася, пачуўшы, як некаторыя з калег па маладосці, напэўна, могуць вымавіць: "А зараз, дарагія гледачы, у гэты панядзелачны дзень..."

**— У вашай дыктарскай групе некалькі пакаленняў, ці не так?**

— Так. І я належу да сярэдняга або старэйшага, ужо грошы атрымліваю за выслугу гадоў. Цераз год у мяне "шчаслівая" дата — трынаццаць гадоў працы на тэлевізіі. Мне пашанцавала. Я памятаю, як працавала ў эфіры Тамара Бастун. Гэта была самая інтэлігентная дыктарка на нашым тэлебачанні. Па-ранейшаму лічу ўзорнымі праграмы Уладзіміра Шаліхіна. Яны былі не толькі самымі першымі, але і засталіся самымі-самымі. Іх немагчыма было назваць правінцыйнымі дыктарамі.

**— А як зараз складваюцца адносіны паміж рознымі пакаленнямі?**

— Па-першае, трэба ўлічваць, што наш калектыў творчы і большая частка яго — жанчыны. Наша моладзь — гэта новае пакаленне. Мне падабаецца іх упэўненасць, настойлівасць, энергія, адчуваецца, што яны фармаваліся ў некалькі іншых умовах... Але і здзіўляе таксама гэтае жаданне — хутчэй, хутчэй... І магчыма, мне гэта здаецца, але іншы раз балюча, калі я не адчуваю такога трапяткога стаўлення да прафесіі, якое было ў нас. Я маю на ўвазе, па-першае, нашу прагу працаваць. Гэта як у п'есе Радзінскага "Актрыса на ролю жонкі Дастаеўскага": гераіня была гатовая на ўсё дзеля атрымання ролі.

**— Кожны ў вашай дыктарскай групе спрабуе сябе ў іншых ролях. Галіна Рудакова вядзе праграму "Здароўе", Аня Янава — "Залатыя ключы", свае праграмы таксама ў Ірыны Смольскай, Алеся Байкова... Ты працавала ў адкрытым эфіры, і наколькі мне вядома, зараз захапілася ўдзелам у музычных канцэртах у філармоніі. Што табе дае гэты від дзейнасці, бо здаецца, што ты ізноў у ролі "чужога рупара"?**

— Так, дзякуй Богу, мае калегі прагнуць работы і ўсё ж такі яе атрымоўваюць. У мяне асабіста ёсць канкрэтная задума сваёй аўтарскай праграмы, яна ўжо знаходзіцца на стадыях распрацоўкі, я знайшла спонсараў. Праграма будзе прысвечана праблемам і здабыткам сярэдняга бізнесу на Беларусі.

Што ж датычыцца філарманічнай дзейнасці... Па-першае, гэта праца, за якую я атрымліваю хоць і невялікія, але грошы (калі весці гаворку пра хлеб надзённы). Ведаеце, іншы раз крыўдна робіцца ад таго, што мы не зразумелі — мастацтва шмат каштуе. Я маю на ўвазе ганарары таленавітых артыстаў, якіх маю гонар прадстаўляць публіцы. І вось тут я хачу спыніцца на галоўных абставінах, якія мяне прыцягваюць. Музычныя вечары — самыя эфектыўныя лекі ад "пошласці" жыцця. Якое шчасце, што я атрымала музычнае выхаванне па класе фартэпіяна і з таго часу не страціла цікавасці да класічнай музыкі! Вывучаць музычную скарбонку можна ўсё жыццё. У апошні час я па-новаму адкрыла для сябе пласты беларускай музычнай культуры эпохі рэнесансу і барока. Асабліва да спадобы прыйшліся старажытныя царкоўная і "свецкая" музыка. Такія здабыткі — гэта наш гонар. Не дзіва, што ў канцэртнай зале прысутнічаюць прадстаўнікі замежных амбасадаў.

**— Якім для цябе асабіста быў год мінулы?**

— Год Пацука — гэта год, у якім чалавек павінен збіраць: ён і быў годам назапашвання. Будзем лічыць, што і ў мяне быў перыяд збору ў прафесійную скарбонку. Сярод значных падзей адзначу канцэрты Уладзіміра Співакова і Мансэрат Кабалье, узоры высокага мастацтва.

У маім сямейным жыцці мінулы год выдаўся стабільным, а гэта падтрымлівае кожную жанчыну. І мая Каця таксама працягвае пазнаваць жыццё, і мы разам з ёю.

**— Я ведаю, што твой муж можа забяспечыць ваша існаванне. Ці не было ў цябе намеру займацца толькі домам? Я ведаю, як ты любіш свой хатні прытулак, і гадоў пяць таму адмовілася ад кар'еры ў Маскве, таму што чакала дзіця.**

— Усё праўда. Я вельмі люблю сваю сям'ю, і ў той час, калі перада мной стаяла гэта альтэрнатыва: кар'ера або дзіця, я ніводнай хвіліны не вагалася. Можна сказаць, што гэтай альтэрнатывы і не было. Але я застаюся сучаснай жанчынай у тым сэнсе, што аддаю перавагу самастойнасці. Мушу зарабляць сама. Хаця, калі ўлічыць нашы заробкі, зразумела, што я ўсё роўна застаюся жанчынай пры мужчыне. Я — працаголік, і мне падабаецца мая прафесія, я ўжо атручана тэлебачаннем і не магу ўявіць сабе жыцця ў іншай якасці.

**— Каця яшчэ маленькая, але ты можаш адказаць на пытанне, кім бы ты яе хацела бачыць — у хаце, або на працы, у якасці дзелавой жанчыны?**

— Мы імкнемся выхаваць яе самастойным адукаваным чалавекам. Яна сама можа выбраць свой уласны шлях. Мне асабіста падабаецца ангельская сістэма, напрыклад, наступны тэзіс: "Усе ісціны лепш за ўсё ўсведамляюцца дзіцем, калі яно сядзіць на жорсткім крэсле з прамой спінкай".

**— Так, усё зразумела. Напрыканцы традыцыйнае пытанне. Зараз мы асцерагаемся загадваць нават на некалькі тыдняў наперад. А можа, паспрабуем зазірнуць на цэлы год?**

— 12 гадоў таму, таксама ў год Быка, я ў выніку конкурсу трапіла на Беларускае тэлебачанне. Мушу спадзявацца, што і гэты апошні Бык адыходзячага стагоддзя будзе шчаслівым. Як і ўсе, ускладаю на яго спадзяванні, якія, магчыма, спраўдзяцца.

Спадзяюся, што ва ўсіх у нас будзе шчасце, як у славутым творы Стругацкага "Шмат шчасця. Рознага. Для ўсіх і для кожнага".

**Размаўляла Галіна ШУР**



*На здымку: жаночы састаў дыктарскай групы БТ у маі 1992 (злева направа): Марына Тачыцкая (пасі хова працуе на Беларускім радыё), Зінаіда Бандарэнка (узначальвае групу дыктараў БТ), Ірына Камейка (працуе ў Маскве), Таццяна Мацюшэнка (дыктар БТ) і Марына Новікава (дыктар БТ).*

***Прапануем Вам таксама рэцэпт ад Марыны.***

*Ён павінен падабацца менавіта дзелавым жанчынам, у якіх заўсёды не хапае часу, а хочацца чым-небудзь паласавацца.*

*Прадукты: 6 — 10 бульбін, 50 г алею, 250 г маянэзу, спецый альбо молаты перац, часнык па гусце, соль. Галоўны прадукт — курыца. Яе трэба парэзаць на парцыённыя кавалачкі. Кожны пасаліць, нацерці часныком, пасыпаць спецыямі па гусце. Пакласці ў лядоўню на 2 — 3 гадзіны.*

*Бульбу абабраць, парэзаць кружочкамі таўшчынёй у 1 — 2 см. Бляху памазаць алеем, раскласці на ёй бульбу, зверху пакласці кавалачкі курыцы, усё заліць маянэзам.*

*Выпякаць у духоўцы 45 — 60хвілін.*

*Перад падачай на стол упрыгожыць зелянінай (можна гароднінай).*

*І — смачна есці!*

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Алесь ЧАЙКА
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 11.01.97. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3250
Замова 44\01
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.